# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

12 КРАСАВІКА 1996 г. № 15 (3839) Кошт 2 500 руб.






# ПЕРАВАГА ТАЯМНІЦЫ

Акцёрам трагічных ды характарных роляў атэстуе сама Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі Уладзіміра КУЛЯШОВА. Слынны коласавец. Народны артыст. Улюбёнец публікі (не адно віцебскай). На ўсё мае трывалую думку і пэўны пункт гледжання. Рэжысёрам супярэчыць нячаста. Увогуле чалавек цярплівы. Праўда, не без канфліктаў (а хто без іх?). Не трывае навязлівасці, тым больш гвалту. Тыя самыя рэжысёры з ягонымі патрабаваннямі часцяком пагаджаюцца. У выпадках, калі не мае рацыі, просіць прабачэння. Рэдкая якасць для артыста. Для народнага артыста таксама. За сваё доўгае творчае жыццё (сёлетні сезон у Коласавым тэатры — трыццаць другі) яму колькі разоў прапаноўвалі асталявацца ў Маскве, Санкт-Пецярбурзе, Мінску. Запрашалі ў Прыбалтыку. У Віцебску акцёра пакідалі й пакінулі рознага кшталту абставіны, у тым ліку і сямейныя. У тэатры, як сам кажа, заўжды быў заняты... страшэнна. Правінцыйнікам не пачуваецца. Работа, бачыце, вельмі творчая. Гледачы на вуліцах яго пазнаюць, часам гэта раздражняе, але ж як без гэтага? Апошнія гады, на жаль, абставіны складаюцца так, што Уладзімір Аляксеевіч доўгі час не быў заняты... напоўніцу. Як сам кажа, выпаў з абоймы. Але, падкрэслівае, не рэжысура, не тэатр у гэтым вінаватыя. Я мусіла чакаць яго на рэпетыцыі знакамітай гогалеўскай "Жаніцьбы" (галоўная роля!) і міжволі падслухваць рэжысёра (Валерыя Маслюка). "Жаніцьба", — казаў Маслюк, — гэта пра... Сусвет. Там чалавек, які думае пра чалавецтва і таму не жэніцца. Так, ні з пушчы, ні з поля — жаніцца няможна. Не мае права гармонію ў свеце псаваць..." Таму, адкідаючы ўбок заўсёдную рэжысёрскую іранічнасць, я і адважылася пачаць нашу размову з пытання:

*(Працяг на стар. 11)*

***Прайшло цэлых дзесяць дзён, як прэзідэнты Беларусі і Расіі падпісалі дамову аб утварэнні ССР, а што змянілася? У сэнсе — да лепшага, як таго чакаў і чакае народ? Нічога. І не зменіцца — можна сказаць з упэўненасцю, бо гэта мы ўжо праходзілі. Толькі за апошнія тры гады наш народ як мінімум тройчы прымушалі наступіць на граблі “саюза з Расіяй”. І кожны раз атрымлівалася адно і тое ж: замест паляпшэння жыцця — пагаршэнне, замест пераваг і здабыткаў — страты і шкода дзяржаве. Вось і цяпер — зноў пайшлі ўгару цэны (трэба думаць, дзеля “выроўнівання” з расійскімі), зноў выйшаў з вызначанага прэзідэнтам “калідору” непаслухмяны долар, зноў пачалі затрымліваць выплату заробкаў... Але наш народ можна дурыць бясконца, як таго ваўка з беларускай народнай казкі, які хацеў “лёгкага” хлеба, і сто разоў мае рацыю расійскі класік — “...обмануть его не трудно — он сам абманываться рад...”***

### ТЛУМАЧЭННІ ТЫДНЯ

Дзіўныя рэчы творацца на Беларусі. Дзеля дабрабыту народа і ў мэтах выканання волі народа ў Маскве была заключана дамова аб утварэнні ССР, але з тэкстам гэтай дамовы пазнаёміць сам народ не спяшаецца ні адзін прэзідэнт. Затое ў прэзідэнцкіх чыноўнікаў з’явіўся яшчэ адзін ганаровы абавязак: знаёміць з тэкстам дамовы — канфідэнцыяльна — замежных гасцей, дыпламатаў, журналістаў... Намеснік міністра замежных спраў В. Цапкала сустрэўся з кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў, акрэдытаваных у краіне, і “пазнаёміў іх з некаторымі пунктамі дагавора аб утварэнні Супольніцтва”. Газета “Звязда” 6 красавіка не пасаромелася выйсці з загалоўкам: “Сямён Шарэцкі пазнаёміў Леаніда Кучму з дакументамі, падпісанымі прэзідэнтамі Расіі і Беларусі”. Калі ж ужо да ўласна беларускага народа пойдуць строга прызначаныя палітінфарматары, каб і яго “пазнаёміць” са зместам дамовы?

### ВІНШАВАННІ ТЫДНЯ

Газета “Советская Белоруссия” раз за разам прымушае прыгадваць “добрыя” савецкія часы, калі першыя палосы ўсіх газет выходзілі з “адабрэннем” працоўнымі чарговых ініцыятыў правадыроў. Цяпер “срочно в номер” “СБ” друкуе віншаванні А. Лукашэнкі ў сувязі з падпісаннем дамовы аб утварэнні ССР. Не ад Клінтана ды Коля, а — ад Мікалая Дземянцея: “сердечное поздравление с личной победой первого этапа возрождения союза братних народов. Желаю полного завершения объединения республик при вашем руководстве”; ад “населения Леснянского сельсовета Барановичского района”; ад галавы адміністрацыі Алтайскага краю і проста ад удзячных грамадзян... Пачын “СБ” падтрымалі іншыя афіцыйныя выданні і, што асабліва прыкра, — “Народная газета”.

### ДЫЯГНАЗ ТЫДНЯ

Пра Лукашэнку пішуць, трэба прызнаць, шмат. І справа, і злева. Ёсць, кажуць, ужо нават кніга, што пачынаецца з ягонага цяжкага дзяцінства. Палітычны ж дыягназ гэтай асобе паставіў публіцыст С. Дубавец у “Свабодзе” за 5 сакавіка. Вось некалькі цытат: “у Лукашэнкі ніколі не было канструктыўнай праграмы — адэкватных адказаў на пытанні жыцця”, “ён так нічога і не зрабіў для паляпшэння жыцця. Таму што не ведае, як зрабіць, не ўмее. Ён толькі бясконца круціць заезджаную пласцінку пра інтэграцыю з Расіяй”, “сам Лукашэнка ніколі нічога рэальна не вырашаў. Ягоная задача — “замазваць” планамерныя захады расійскай палітыкі, скіраванай на разбурэнне і анексію Беларусі”, “нідзе, ні разу, ні жэстам, ні словам Лукашэнка не выявіў пачуцця любові да Беларусі і беларушчыны. Ягоны патрыятызм адрасаваны іншай краіне — СССР, правапераемніцай якой стала Расія”, “Лукашэнка здае несваю краіну Беларусь — сваёй краіне СССР, пераемніцай якой стала Расія...”

### НЕПАСЛУШЭНСТВА ТЫДНЯ

Дзякуючы асабістай мужнасці старшыні Нацбанка Беларусі Т. Віннікавай на мінулым тыдні долару не ўдалося вырвацца за межы вызначанага прэзідэнтам “калідора”. Колькі гэта будзе каштаваць беларускім падаткаплацельшчыкам і дзяржаве ў цэлым, мы, відаць, не даведаемся ніколі. Але на рынку наяўнай валюты на загад Т. Віннікавай: “Долар, стой! Раз-два!” (“Белорусская деловая газета”, 9 красавіка г.г.) наравісты амерыканец не адрэагаваў і наблізіўся да 14-ці тысячаў рублёў. Самае цікавае наперадзе?

### НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ

Газета “Знамя юности” (10 красавіка г.г.) паведаміла цікавыя лічбы пра асабовы склад беларускага войска: “48,3 працэнта ваеннаслужачых Узброеных Сіл рэспублікі складаюць беларусы, 37,6 — рускія, 10,7 — украінцы, 1,2 — палякі, 0,5 — татары, 0,2 — яўрэі”. Лічбы па меншай меры дзіўныя, бо не адпавядаюць яны працэнтнаму нацыянальнаму складу насельніцтва Беларусі, хоць апошнія пяць гадоў войска камплектуецца выключна з грамадзян нашае краіны. Выснову можна зрабіць хіба адну: беларусы ў беларускім войску ў асноўным займаюць самую ганаровую пасаду — радавыя; старшыны і прапаршчыкі, відавочна, па савецкай традыцыі, — украінцы; на самым жа цяжкім участку — афіцэры і генералы — у асноўным рускія...

### ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

“Чым далей пойдзе працэс зліцця, тым больш не толькі Расія будзе ўплываць на Беларусь, але і Беларусь на Расію. Прычым у Вышэйшым Савеце сіла гэтых уплываў зусім неабавязкова будзе прапарцыянальнай памерам прадстаўляемых краін. Нават у цяперашнім яго складзе (Ельцын, Лукашэнка, Чарнамырдзін, Чыгір, Строеў, Селязнёў, Шарэцкі) большасць складаюць аднадумцы беларускага, а не расійскага прэзідэнта. Цяжка, вядома, загадзя сказаць, як будуць складвацца адносіны ў гэтым органе, які ўжо ахрысцілі “Палітбюро”. Верагодней за ўсё — як і ў Савеце кіраўнікоў дзяржаў СНД. Але пры пэўным зыходзе абставін можа атрымацца і так, што Лукашэнка без усялякіх выбараў можа стаць фактычным кіраўніком дзвюх дзяржаў разам”.

*(З артыкула Ю. Дракахруста “Лукашэнка ў Крамлі”, “Белорусская газета”, 8 красавіка г.г.)*

### ПРЫЕМНАСЦЬ ТЫДНЯ

У галандскім Эйндховене пачаўся чэмпіянат свету па хакею ў групе “В”. У першым матчы дэбютанты турніра — бел-чырвона-белыя (мусіць, усё ж невыпадкова ў такой форме выступалі беларускія хакеісты — яна для іх “шчаслівая”) — прыпаднеслі сюрпрыз: перамаглі фаварытаў, зборную Швейцарыі. На жаль, на дадатны імідж краіны Belarus у свеце працуюць цяпер толькі спартсмены.

*З нагоды*

# ЧАРНОБЫЛЬ — ГЭТА НАДОЎГА

У 1990 годзе я прысутнічаў у якасці карэспандэнта “ЛіМа” на рэспубліканскай нарадзе ўрачоў-гематолагаў (спецыялістаў у галіне захворванняў крыві). Нарада павінна была вырашыць праблему, не лягчэйшую за тую, што калісь выпала Хрысту — накарміць тысячы згаладнелых пяццю хлябамі і дзвюма рыбінамі, забяспечыць прыстойнае медычнае абслугоўванне тысячам, дзесяткам тысяч хворых пры міззэрных сродках, выдаткаваных на гэтую справу з дзяржаўнага бюджэту. Большасць справаздач так ці інакш закранала чарнобыльскую тэму. Бо, здаецца, анколагі і гематолагі з прычыны спецыфікі сваёй прафесіі першымі адчулі, што наступствы Чарнобыля — гэта не нейкая там далёкая перспектыва, праблема нашых унукаў, а сённяшні дзень, сённяшняя бяда.

Дысанансам агульнаму настрою прагучалі словы кіраўніка нарады, навукоўца высокага рангу, які сказаў літаральна наступнае: “Еще нужно доказать, что состояние здоровья населения Белоруссии после Чернобыля действительно ухудшилось, что это не политические спекуляции серенькиx людишек, рвущихся к власти”. Абсурднасць гэтай заявы была відавочнай нават для мяне, поўнага дылетанта ў справах медычных, а тым болей для прафесійнікаў — гэта я адчуў па іхніх здзіўленых тварах і перашэптваннях. А калі шаноўны доктар навук дадаў, што “ликвидаторы сами себе болезни придумывают”, сёй-той у зале нават абурыўся. Праўда, зноў-такі, шэптам...

Што прымусіла дырэктара рэспубліканскага навукова-даследчага інстытута, доктара навук, чалавека, чый аўтарытэт грунтуецца, мабыць жа, на рэальных заслугах, сапраўдных дасягненнях, казаць сваім калегам такую лухту (ставячы пад сумненне сваю кампетэнтнасць і сумленнасць), я даведаўся пазней. Рэч у тым, што навуковец удзельнічаў у выбарах у Вярхоўны Савет БССР і ішоў у адной звязцы з камуністычнай наменклатурай. Ён настолькі прызвычаіўся агучваць камуністычныя тэзісы (па чарнобыльскай праблеме, у прыватнасці) на сустрэчах з выбаршчыкамі, што “па інерцыі” рабіў гэта і перад людзьмі, дасведчанымі — сваімі калегамі. Тое, што бальшавіцкая партыйнасць, “класавая прынцыповасць” не стасуюцца з чалавечай сумленнасцю — не дзіўна. Іншае ўражвае: хлусіў чалавек, які ў нашым атэістычным грамадстве традыцыйна меў статус, блізкі да святарскага. “Устав КПСС” аказаўся вышэй за “клятву Гіпакрата”.

За тое, што чарнобыльская трагедыя стала здабыткам галоснасці, мы павінны быць удзячны “забугорным” журналістам і палітыкам. Калі б яны не ўтварылі розгалас, наша начальства засакрэціла б інфармацыю, зрабіла б выгляд, што нічога не было. А так давялося зрабіць сякія-такія захады (зноў жа па-савецку, бязглузда) па пераадоленні наступстваў катастрофы.

Спадар Гарбачоў, тагачасны кіраўнік СССР, выступіў перад народам з паведамленнем пра аварыю толькі праз два тыдні! Калі ж дэмакратычная грамадскасць Беларусі і Украіны, зразумеўшы, што ад дзяржавы дапамогі не дачакаешся, утварыла першыя чарнобыльскія фонды, наладзіла кантакты з дабрачыннымі арганізацыямі ў замежжы, дык першай праблемай стала тое, як дамагчыся, каб гуманітарная дапамога — лекі і медычнае абсталяванне — трапляла да чарнобыльцаў, а не “асядала” па дарозе ў Маскве.

Ад сябра дэлегацыі, якая ад імя Беларусі прэзентавала ў 1991 годзе Арганізацыі Аб’яднаных Нацый габелен “Чарнобыль”, я чуў, што ў часе фуршэту паміж беларускімі і расійскімі дыпламатамі ўзнікла ледзь не бойка. Рэч у тым, што на Захадзе кепска ведаюць геаграфію (Чарнобыль у Савецкім Саюзе, значыць — у Расіі, значыць, гуманітарную дапамогу трэба дасылаць у Маскву), і праз гэтую блытаніну менавіта Расія атрымлівала асноўную частку дабрачынных ахвяраванняў па “чарнобыльскай лініі”. А потым па-братэрску кідала нейкую костку Украіне і Беларусі. Прэзентацыя габелена “Чарнобыль” у штаб-кватэры ААН нагадала, што ад катастрофы найбольш пацярпела Беларусь, а гэта акалічнасць магла паўплываць на характар размеркавання гуманітарнай дапамогі. Расійскія дыпламаты недвухсэнсоўна выказалі беларускім калегам сваё абурэнне. Маўляў, тыя замахнуліся на “іхнія” грошы.

Абвясціўшы сябе правапераемнікам Савецкага Саюза, Расія прыдбала агульны здабытак усіх былых рэспублік СССР — золата і алмазы, маёмасць за мяжою, валютныя ўклады ў замежных банках, але не ўзяла на сябе цяжар даўгоў СССР. У прыватнасці, так і застаўся нясплачаным доўг Масквы Беларусі за ахвяры і страты, якія мы панеслі ў выніку чарнобыльскай катастрофы. Затое нам давялося, адклаўшы да лепшых часоў перасяленне людзей з забруджанай зоны, займацца ўладкаваннем на нашай зямлі савецкіх (расійскіх) войск, выведзеных з тэрыторыі краін былога Варшаўскага пакта.

Я нагадваю гэта для тых, хто па-ранейшаму сцвярджае, што без Расіі нам не справіцца з чарнобыльскаю бядою. Чаму “новая”, капіталістычная Расія павінна быць лепшай за “старую”, савецкую? І ўвогуле, калі такое было ў гісторыі беларуска-расійскіх стасункаў, каб з Расіі ў Беларусь вазілі грошы? Заўжды толькі наадварот. Калі ж Беларусь з Расіяй усё-такі “воссоединится”, мы страцім магчымасць звярнуцца да свету па дапамогу ад свайго імя, а як пра нас рупіцца Масква — вядома.

Сёння ў шасцідзесяці працэнтаў усіх немаўлят, што з’яўляюцца на свет у Беларусі, небяспечна завышана канцэнтрацыя цэзію ў крыві. Ёсць іншыя падобныя лічбы, іншыя падобныя факты. Чарнобыль — гэта надоўга, і гэта датычыць усіх нас. Усе мы, незалежна ад палітычных поглядаў, дыхаем адным паветрам, п’ём ваду з адных крыніц, сілкуемся з адных палеткаў. Нам, зрэшты, няма на каго спадзявацца. Нас яднае адна бяда. Разам пераадолеўшы яе, мы станем нацыяй. Інакш — Чарнобыль назаўсёды.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*ГЭТА І ПРА НАС*

# НАПЯРЭДАДНІ ДРУГОГА ПРЫШЭСЦЯ

## ПА РАСІЙСКІМ ТЭЛЕБАЧАННІ ПАКАЗАЛІ ФІЛЬМ АБ ЗЛАЧЫНСТВАХ КАМУНІСТАЎ

Такія фільмы цяпер — да чэрвеньскіх выбараў — трэба было б “круціць” круглыя суткі па ўсіх тэлеканалах. Каб да тых, у каго адабрала памяць, вярнулася хоць бы трошкі яе. Гэта фільм пра наша тройчы праклятае жыццё з моманту злашчаснага кастрычніцкага перавароту і да жнівеньскага путчу 1991 года. Пра наша жыццё пад уладараннем бальшавікоў.

Аднак тэлекіраўнікі не спяшаюцца прадстаўляць гледачам такія працы. Кажуць, аўтары гадзіннага фільма “Другое прышэсце?” яшчэ перад снежаньскімі выбарамі прапанавалі яго для паказу на ГРТ. Аднак тамашняе начальства палічыла яго занадта вострым. На мінулым тыдні ён прайшоў нарэшце па Расійскім тэлебачанні.

Расстрэлы, расстрэлы, расстрэлы... Трупы, трупы, трупы... Косці... Пыл... Лагерны пыл. Кат у партупеі крыж-накрыж страляе сваёй ахвяры ў патыліцу і, не даючы паваліцца, схапіўшы за валасы, кідае яе, яшчэ ў сутаргах, у кучу тых, што ляжаць ужо, астываючы, нерухома. А вось двое расстрэльваемых стаяць тварам да забойцаў па пояс у выкапанай самімі ж магіле. Грымяць стрэлы, і яны пакорліва ў ёй знікаюць... А вось нехта з наганам ідзе ўздоўж шэрагаў расстраляных і дабівае тых, хто выяўляе прыкметы жыцця... Гэтыя кадры чаргуюцца неаднойчы з іншымі: Галоўны Народазабойца, чые партрэты ў мундзіры генералісімуса мы і цяпер бачым на кожным камуністычным зборышчы, з задаволеным выглядам закручвае то адзін, то другі вус.

Забойствы, забойствы, забойствы... Забойствы — гэта ФОРМА ІСНАВАННЯ КАМУНІСТЫЧНАГА РЭЖЫМУ, гэтак жа як жыццё — гэта форма існавання бялковых цел (так нас калісьці вучылі). Забойствы праз расстрэлы, праз лагеры, праз перыядычна наладжваемы голад, праз бясконцыя войны і карныя аперацыі, праз ядзерныя выпрабаванні на людзях каля Тоцка, праз доўгазамоўчваемы Чарнобыль...

Сёння яны зноў ірвуцца да ўлады. Больш за тое, яны ўпэўнены, што перамога ў іх ужо ў кішэні. Мы бачым іх самазадаволеныя фізіяноміі, што льсняцца ад амаль фізіялагічнай асалоды — ад прадчування гэтай перамогі.

Але як жа ўсё-такі гэта можа быць? Як можа народ, які яны метадычна знішчалі 70 з гакам гадоў, як ён можа галасаваць за іх?.. У канцы фільма ідуць цітры: “...За гады знаходжання ва ўладзе КПСС краіна страціла 78280385 сваіх грамадзян. Па разліках дэмографаў, калі б гісторыя склалася інакш, яе насельніцтва ў 1990 годзе было б 529000000 чалавек. У 1991 годзе насельніцтва СССР складала 290325000 чалавек...”

Асноўны ўдар прыйшоўся, вядома, па Расіі. Яны не проста яе забівалі — яны яе ЗАБІЛІ. Забілі ў тым сэнсе, што, пэўна, нанеслі непапраўную шкоду яе генафонду. Выбілі дзесяткі мільёнаў ЛЕПШЫХ. (Аператар паказвае твары людзей Расіі дакастрычніцкай, угледзьцеся ў іх — якія твары мы незваротна страцілі!) Тут і заключана вытлумачэнне цяперашняга вар’яцкага галасавання перманентна забіваемых за сваіх нязменных забойцаў. Што рабіць, такі заканамерны вынік турэмных і лагерных эксперыментаў, што дзесяцігоддзямі праводзіліся над нашай няшчаснай папуляцыяй.

**Г. ПАЎЛАЎ**

*(“Литературная газета”, 27. III. 96)*

Надзённае

# ЭКС-ДЭПУТАТЫ ДЗЕЛЯЦЦА ВОПЫТАМ

Парламенцкія выбары — гэта не толькі дзяржаўная падзея, але і вялікае псіхалагічнае выпрабаванне для саміх дэпутатаў — і новых, і былых. Адны адыходзяць, пакінуўшы ў калідорах вышэйшай улады часцінку душы, другія толькі абжываюць высокія светлыя кабінеты.

Дыялектыка жыцця...

Знамянальная ў нейкім сэнсе падзея адбылася ў нашым Вярхоўным Савеце: сустрэча дзвюх камісій па адукацыі, навуцы і культуры, — ранейшай і цяперашняй. У кабінеце старшыні яны размясціліся візаві — як дзве дэлегацыі на міжнародных перамовах. Сам старшыня, доктар навук У. Плецюхоў мэту сустрэчы акрэсліў так:

— Мы прыйшлі не на пустое месца. У вас ёсць вопыт, ёсць напрацоўкі, ёсць здабыткі; значыць, пажадана, каб была пераемнасць у нашай рабоце. Нам не павінны перашкаджаць адрозненне палітычных поглядаў і пазіцый.

Натуральна, гаварыць болей давялося "старым" дэпутатам. Актыўна дзяліліся вопытам А. Трусаў і Л. Баршчэўскі. Першы адзначыў, што ўважліва сочыць за працай новага парламента, дзе "балота", на яго думку, стала менш. Ён расказаў пра асноўныя законы, прынятыя камісіяй пад старшынствам Н. Гілевіча. На жаль, не ўсе з іх працуюць, у прыватнасці па бібліятэках і архіўнай справе, не ўсе з падрыхтаваных (па музеях і творчых саюзах) разгледжаны. Галоўнае, як зазначыў А. Трусаў, — кантроль за выкананнем прынятых законаў, своечасовыя запыты ў адпаведныя міністэрствы і ведамствы. На сёння маюцца тры надзённыя пытанні: вытворчая практыка ў ВНУ, дзейнасць Дзяржаўнай інспекцыі па ахове помнікаў, дзе выяўлена шмат парушэнняў, і выданне навуковых прац.

Л. Баршчэўскі засяродзіў сваю ўвагу на праблемах адукацыі. Самае важнае, як лічыць ён, гэта захаваць навуковы патэнцыял і маральна падтрымаць беларускую школу. Моўнае пытанне ні пры якіх умовах не павінна быць палітычным, як і выхаванне нацыянальнай самасвядомасці. Што ж да рэформы сярэдняй школы, пра якую зараз многа гавораць, то распрацоўвалася яна ўжо пры прэзідэнцкім праўленні і без удзелу камісіі. Цвёрда і няўхільна ісці да сваіх мэтаў, працаваць комплексна, падтрымліваць Міністэрства адукацыі і патрабаваць ад яго — такім быў наказ аднаго з самых маладых дэпутатаў былога складу ВС.

З "новых" выступілі В. Цярэшчанка, І. Свірыд, В. Шаршуноў. Было падкрэслена, што такія тонкія сферы, як адукацыя, навука і культура, не церпяць камандных метадаў. Што цяперашнія члены камісіі гэта разумеюць — абнадзейвае.

Гаворка, як прынята казаць, прайшла на высокім узроўні і не без карысці. А ініцыятарам яе, дарэчы згадаць, быў старшыня падкамісіі па культуры М. Шаўцоў.

**Г. К.**

Выставы

# КУЛЬТУРА БЕЗ КНІГІ — НЕ КУЛЬТУРА

Менавіта так сказаў у сваім выступленні на ўрачыстым адкрыцці выставы "Беларуская кніга -95", на якой прадстаўлены кнігі, выпушчаныя ў 1995 годзе на Беларусі як дзяржаўнымі, так і прыватнымі выдавецтвамі, іншымі адпаведнымі структурамі, міністр культуры Рэспублікі Беларусь А. Сасноўскі. Прадстаўнічая экспазіцыя разгорнута на першым паверсе галоўнага корпуса Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Вынікі ж леташняга выдавецкага года як быццам унушальныя. У кнігавыданні бралі ўдзел 10 дзяржаўных выдавецтваў і 1262 выдаўцы, так сказаць, недзяржаўнага профілю. Імі выпушчана 3205 назваў кніг агульным тыражом 62,9 мільёна экземпляраў. Пра гэта, дарэчы, нагадаў на прэс-канферэнцыі для журналістаў старшыня аргкамітэта выстаўкі С. Нічыпаровіч (ён першым выступіў і на ўрачыстым адкрыцці). Гаварылася таксама і пра цяжкасці, з якімі сутыкнулася кнігавыданне апошнім часам. Хоць у цэлым колькасць назваў кніг павялічваецца, але тыражы памяншаюцца. Трывожнае становішча — і пра гэта сведчаць стэнды — з выпускам беларускамоўнай літаратуры. Праўда, дзяржава прымае загады, каб палепшыць яго. У прыватнасці, цалкам фінансуецца выпуск кніг серыі "Школьная бібліятэка".

Аднак як бы цяжка ні даводзілася, кніга жыве. І тое, што выходзіць, патрэбна чытачу. Пра сённяшнія справы на ніве кнігавыдання гаварылі старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь У. Бельскі, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Зуёнак, віцэ-прэзідэнт Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў, дырэктар выдавецтва "Юнацтва" В. Лукша, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Г. Алейнік.

У час работы выставы запланаваны шэраг мерапрыемстваў пра прапагандзе кнігі.

**А. М.**

# ПЕРШАЯ ЛЕГАЛЬНАЯ...

Першай легальнай грамадска-палітычнай і літаратурнай газетай на Беларусі быў "Минский листок". Ён выдаваўся ў Мінску з 14 красавіка 1886 года да 13 лістапада 1902-га. Заснавальнікам і выдаўцом "МЛ" стаў І. Фацінскі. Дзякуючы гэтаму выданню да чытача прыйшлі асобныя творы Я. Лучыны, К. Каганца і іншых аўтараў. Упершыню была апублікавана пад назвай "Тарас" ананімная паэма "Тарас на Парнасе". Змяшчаліся таксама краязнаўчыя і этнаграфічныя артыкулы, даследванні А. Багдановіча, А. Слупскага, М. Доўнар-Запольскага.

У канцы 1902 года "Минский листок" выходзіў пад назвай "Северо-Западный край". У гэтай газеце, як вядома, быў апублікаваны першы верш Я. Купалы на беларускай мове "Мужык".

# ПРАВА НА МОВУ

РЭЗАЛЮЦЫІ КАНФЕРЭНЦЫІ "ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў БЕЛАРУСІ: ГІСТАРЫЧНЫ, ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІНГВІСТЫЧНЫ АСПЕКТ"

## АБ СТАНЕ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ АДУКАЦЫІ

"Кожны чалавек мае права на адукацыю" — сцвярджае артыкул 26 "Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека". Аднак мільёны беларусаў, што жывуць у незалежнай Рэспубліцы Беларусь на сваёй зямлі, рэальна пазбаўлены гэтага права. Яшчэ нядаўна ў сталіцы краіны не было ніводнага беларускага класа, дый сёння тут няма ніводнай сярэдняй школы і ВНУ, дзе ўсё выкладанне вялося па-беларуску.

Прыняцце ў 1990 г. "Закона аб мовах" стварыла пэўныя ўмовы для адраджэння беларускай сістэмы адукацыі. Яшчэ большыя магчымасці адкрыў для гэтага прыняты ў 1991 г. Закон аб адукацыі. Працэс дэмакратызацыі грамадскага жыцця дазваляў адначасна з пераводам выкладання на беларускую мову ажыццявіць перагляд падручнікаў і дапаможных матэрыялаў па гуманітарных прадметах з мэтаю пазбаўлення ад расійскіх гістарычных міфаў, якія скажалі гістарычную праўду і зневажалі годнасць беларусаў, а таксама наблізіць гуманітарную адукацыю да еўрапейскіх стандартаў. Пачалі выходзіць новыя падручнікі гісторыі і літаратуры значна вышэйшай якасці, чым ранейшыя. Павялічылася колькасць беларускіх класаў і школ.

Аднак пасля антыбеларускага рэферэндуму 1995 г. гэты нармальны працэс быў спынены. Людзі, якія грэбліва ставяцца да ўсяго беларускага, хаваючы свае прозвішчы, але абапіраючыся на падтрымку прэзідэнта Лукашэнкі, распачалі рэвізію новых падручнікаў, разгледжаных і зацверджаных аўтарытэтнымі навуковымі радамі. Шавіністычнае чынавенства з Міністэрства адукацыі шэрагам яўных і прыхаваных захадаў рэзка скараціла колькасць беларускіх школ і класаў, пераводзячы дзяцей, якія ўжо 3—4 гады вучыліся па-беларуску, на рускую мову. Спыніўся працэс падрыхтоўкі новых падручнікаў і іх друкаванне. Вяртаюцца падручнікі савецкіх часоў. І без таго слабыя спробы перавесці выкладанне ў вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школе на беларускую мову спынены.

Мы патрабуем:

1. У найбліжэйшай перспектыве стварыць непарыўную сістэму беларускамоўнай адукацыі — ад дзіцячага садка да ВНУ;

2. Забяспечыць выданне падручнікаў на беларускай мове па ўсіх дысцыплінах і для ўсіх тыпаў навучальных устаноў;

3. Строга захоўваць пададзены статус беларускамоўных школ.

Мы патрабуем, каб вяртанне каланіяльнай сістэмы адукацыі было тэрмінова спынена. Мы патрабуем, каб чынавенства, якое ўтрымліваецца на сродкі беларускіх падаткаплатнікаў, дзейнічала ў межах закона на карысць беларускага народа.

Мы поўныя рашучасці дамагчыся таго, каб беларуская сістэма адукацыі была створана і ганебны для еўрапейскай краіны стан грубага парушэння правоў чалавека спынены.

## АБ СТАНЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

На працягу стагоддзяў беларуская мова застаецца неацэнным духоўным скарбам нашага народа. Гэта мова летапісаў, дзяржаўных і дыпламатычных актаў, справаводства, багаслужбы і прыгожага пісьменства. Яе заняпад пачаўся з канца XVII ст. і працягваўся да XX ст. у выніку працэсаў паланізацыі і русіфікацыі, калі беларуская мова стала выключна сродкам побытавай камунікацыі і фальклору. Аднак з пачаткам беларускага Адраджэння намаганнямі вялікіх сыноў беларускага народа В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, Я. Лёсіка, Б. Тарашкевіча ды іншых была створана новая літаратурная беларуская мова. Яна перажыла кароткі, але плённы перыяд росквіту ў 20-х гадах гэтага стагоддзя, спынены масавым тэрорам бальшавіцкай улады супроць дзеячаў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага Адраджэння. Была праведзена русіфікатарская рэформа правапісу і граматыкі беларускай мовы. Наша мова была выціснута спачатку са сцен ВНУ, а потым і большасці пачатковых і сярэдніх школ, перастала ўжывацца ў справаводстве і грамадскім жыцці. Планамерная кампанія задушэння мовы суправаджалася дыскрэдытацыяй і скажэннямі беларускай гісторыі і культуры.

Гэты працэс ужо ў 70-х гадах набыў памеры духоўнага генацыду. Сфера ўжытку беларускай літаратурнай мовы звузілася практычна да "рэзервацыі" Саюза пісьменнікаў ды яшчэ радыё і тэлебачання, дзе ўрэшце таксама запанавала руская мова. Многія беларусы пазбаўлены магчымасці атрымаць адукацыю на роднай мове і карыстацца ёю ў сваёй дзейнасці, перайшлі на неўнармаваную гаворку, своеасаблівы "Pidgin russian", сімвалам якога стаў крылаты выраз "хто как хаціт, тот так і гаварыт".

З уздымам новай хвалі беларускага Адраджэння ненармальны стан беларускай мовы ў Беларусі быў асэнсаваны грамадствам. Вярхоўны Савет XI склікання прыняў "Закон аб мовах", які надаў беларускай мове статус адзінай дзяржаўнай і пашырыў яе магчымасці як мовы адукацыі. Распачаўся павольны працэс пашырэння сферы ўжытку беларускай мовы. Аднак ён быў спынены пасля антыбеларускага рэферэндуму 1995 г., праведзенага па палітычных матывах з парушэннем канстытуцыйных норм і "Закона аб рэферэндуме", паспешліва і без шырокага абмеркавання яго наступстваў у сродках масавай інфармацыі.

Нягледзячы на тое, што гаварыць сёння пра "роўны статус беларускай і рускай моў" не выпадае, вынікі рэферэндуму справакавалі новы ўздым русіфікатарскай палітыкі. Рэзка скарацілася колькасць беларускамоўных дзіцячых садкоў і класаў у сярэдніх школах. Спыніўся працэс пераводу вышэйшай адукацыі на беларускую мову. Зменшыліся тыражы беларускіх кніг. Спыняецца выпуск нацыянальных энцыклапедый. Толькі лічаныя дэпутаты ВС і прадстаўнікі ўлады карыстаюцца роднаю моваю. Над беларусамі навісла рэальная пагроза поўнай дэнацыяналізацыі.

У гэтых абставінах удзельнікі канферэнцыі "Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі":

1. Выступаюць супраць рэвізіі канстытуцыйных палажэнняў і заканадаўства аб мовах;

2. Патрабуюць ад усіх службовых асоб строга выконваць дзейнае заканадаўства аб мовах;

3. Заклікаюць дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь стварыць заканадаўчыя механізмы для рэалізацыі "Закона аб мовах і падтрымкі беларускай культуры, адукацыі і сродкаў масавай інфармацыі;

4. Заклікаюць усіх свядомых грамадзян Рэспублікі Беларусь прыкласці ўсе магчымыя намаганні для захавання, узбагачэння і пашырэння роднай мовы — стрыжня і апірышча беларускай культуры і самасвядомасці нашага народа.

Канферэнцыі, прысвечаныя стану беларускай мовы, вырашана праводзіць штогод.

Варункі

# ПРЫЙДЗІ, ПРАЎДЗІВАЯ ВЯСНА...

**Даўно не было такой зімы, як сёлета. Адзін раз мы з сябрам нават выбраліся на паляванне. Свяціла сонца, аблокі лёталі, як птушынае пер'е, снег зіхацеў, як буйная чыстая соль. У лесе было поўна слядоў зайцоў, дзікоў, ласёў, а самі яны недзе спакойна качаліся ў снезе, пакуль мы, успацелыя, наўздагад таптылі снежны цалік — вышэй калень.**

**Памятаю з дзяцінства таксама снежную зіму. Я, малы, на вёсцы ў бабулі, пайшоў калядаваць па хатах сваякоў. У самым апошнім двары я ўшчаміўся ў браму, замеценую снегам і засеў. Наплакаўся, змерз, але потым выкараскаўся і сядзеў на печы ў гэтай хаце, у стрыечнай прабабкі, адаграваўся, усцешна перабіраючы назбіраныя белыя дзесятачкі ды пятнаццаткі і грызучы салодкія сушаныя грушы.**

**У 50-х гадах, распавядаў мой знаёмы, калі ён, русак, браў замуж слуцкую дзяўчыну, вяселле спраўлялі ў яе ў вёсцы. Снегу было столькі, што да суседзяў у хату хадзілі танчыць проста па сумётах панад плотам.**

**Снежныя зімы ў нас рэдкія ды прыгожыя. Дзеці добра адчуваюць гэта, з разбегу, як бы так і трэба, кідаюцца ў сумёты, выкочваюцца ў снезе, прамакаюць наскрозь.**

**Але пасля кожнай, нават самай працяглай і снежнай зімы надыходзіць вясна. Нашыя класікі любілі параўноўваць з ёй адраджэнне беларускага народа:**

Дык ідзі да нас, жаданая,
Ідзі,
Раскатурхай нашу дрэму,
Абудзі!

**— прасіў вясну Якуб Колас у 1912 годзе.**

**Прайшло тры пакаленні і ў 1988 годзе Алег Мінкін напісаў:**

Прыйдзі, вясна!
Вярні нам славу
І цеплыню далёкіх дзён!
Сарві з зямлі магільны саван!
Здымі са спячых душ заклён!

**Вось такая зацяжная ідзе ў беларусаў вясна. Ці гэта яшчэ прадвесне? Адно, што можна пэўна сказаць, аглядаючы гэтую перманентную вясну народа з працяглымі лютымі прымаразкамі — спыніць нацыянальнае адраджэнне немагчыма. Яго можна запаволіць, ужыўшы гвалт, яго можна абылгаць, зняважыць, але чым вышэйшыя лёдавыя заторы, тым з гучнейшым трэскам яны развальваюцца ад веснавой паводкі.**

**Той-сёй з горыччу гаворыць, што сёння для беларусаў апошні шанц. Няпраўда. Наш шанц — гэта нашая беларуская праца. Усё залежыць ад таго, наколькі рупліва і паслядоўна мы робім яе, ад таго, наколькі стане ў нас духу і цягавітасці. Пад ляжачы камень вада не цячэ.**

**Будзем назапашваць сілы, умацоўваць набытае і з аптымізмам глядзець наперад. Нашая праўдзівая вясна — яшчэ наперадзе.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## ГЭТЫЯ РОДНЫЯ... "РОДНЫЯ ДЗЕЦІ"

**Ну, канечне ж, гаворка ідзе пра раман у вершах народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча "Родныя дзеці", — адзін з самых папулярных твораў беларускай літаратуры апошніх гадоў. Таму гэты раман папулярны, што Н. Гілевічу ўдалося спасцігнуць у ім саму душу народную, то з гумарам, то ўсур'ёз, але з нязменным філасофскім заглыбленнем павесці гаворку аб тым, што хвалюе нас. І, безумоўна, на першым плане — праблемы духоўнасці, вернасці вытокам. Першае выданне рамана, як вядома, адразу стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Прымаючы гэта пад увагу, выдавецтва "Мастацкая літаратура" зноў выпусціла раман Н. Гілевіча. Прытым у палепшаным мастацкім афармленні і паліграфічным выкананні. А гэта адбылося дзякуючы цудоўным ілюстрацыям Уладзіміра Савіча.**

## НОВЫ ДОМ КУЛЬТУРЫ

**Ключы ад новага Дома культуры працаўнікам калгаса "Радзіма" Быхаўскага раёна перадалі будаўнікі перасоўнай механізаванай калоны N 274. У будынку вялікая канцэртная, танцавальная і спартыўная залы, бібліятэка, пакоі для заняткаў гурткоў самадзейнасці.**

*На здымку: новы Дом культуры адкрыў старшыня Быхаўскага райвыканкама Генадзь Васільевіч Гунькоў.*

*Фота Анатоля МАРУШЭЎСКАГА, БЕЛТА*

## І ЛЕГЕНДЫ ШМАТ ГАВОРАЦЬ...

**Пэўна, гэтак можна сказаць і пра зборнік Ірыны Масляніцынай "Легенды", што стаў лютаўскай кніжкай у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". І. Масляніцына часта выступае ў рэспубліканскай перыёдыцы з гісторыка-краязнаўчымі нарысамі, разам з М. Багадзяжам летась выдала кнігу "Слава і няслаўе", героямі якой з'яўляюцца славутыя жанчыны Беларусі розных часоў. Вядома І. Масляніцына і як драматург, атрымала Скарынаўскую прэмію ў галіне гістарычнай драматургіі за п'есу "Крыж Ефрасінні Полацкай". Піша яна і творы, у аснову якіх пакладзены народныя паданні, легенды. Лепшыя з іх і склалі гэты зборнік.**

## ПАПАЎНЕННЕ УНІКАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ

**"ЛіМ" паведамляў ужо, што выдавецтва "Юнацтва" пачало выпуск "Бібліятэкі замежнай дзіцячай літаратуры" ў 30 тамах. Юныя чытачы, як вядома, атрымалі тамы Р. Кіплінга "Маўглі" і Д. Дэфо "Рабінзон Крузо". І вось з'явіўся новы том — "Хрустальны калодзеж". У яго ўвайшлі казкі народаў Еўропы — аўстрыйскія, англійскія, балгарскія, дацкія, іспанскія, італьянскія, польскія, славацкія, французскія і, натуральна, беларускія народныя казкі. На нашу мову творы пераклаў В. Гардзей, а аформіў кнігу — выдатна! — мастак В. Тарасаў.**

**Неўзабаве ў гэтай папулярнай серыі пабачаць свет томікі Я. Корчака "Кароль Мацюсь на бязлюдным востраве" і Х. Андэрсена "Снежная каралева".**

**М. ПЛІСКО**

## ЭХ, ГРЫБЫ-ГРЫБОЧКІ!

**Хто не любіць грыбы збіраць?! І гатаваць — таксама! Вось толькі далёка не ў кожнага гэта атрымліваецца належным чынам. І зусім не таму, што адпаведнага майстэрства не стае. Няма пад рукой адпаведных рэцэптаў. У такім разе вам дапаможа кніга І. Яшкіна "Грыбы ў традыцыйнай беларускай кухні", выпушчаная выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. У ёй — больш за 40 рэцэптаў. І ўсё яны — арыгінальныя.**

**Дарэчы, як лепш гатаваць грыбы, прытрымліваючыся традыцый беларускай нацыянальнай кухні, аўтар даведаўся падчас дыялекталагічных экспедыцый, калі даследаваў народныя гаворкі і лексіку.**

Прэзентацыя

# "А ПЕСНЯ БУДЗЕ ЖЫЦЬ І ЖЫЦЬ!"

***У адной з лімаўскіх інфармацый згадвалася, што ў імпрэзе прыняў удзел і Міжнародны фонд імя Янкі Купалы. Згадка гэтая не прайшла міма ўвагі чытачоў. Л. Рычкова з Гародні, В. Семянюк з Брэста, Г. Пятручык з Гомеля папрасілі рэдакцыю расказаць пра фонд больш падрабязна — кім і калі ён створаны, якія яго мэты і задачы. Наш карэспандэнт сустрэўся з прэзідэнтам фонду В. РАГОЙШАМ і папрасіў яго адказаць на пытанні чытачоў штотыднёвіка.***

**— Вячаслаў Пятровіч, як узнікла ідэя фонду? Калі і дзе яна нарадзілася?**

— Пачалося ўсё з музея Янкі Купалы. Вынікла ідэя іменна тут, у музеі, летась у маі, падчас другога кангрэса Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Тады сабраліся ў музеі людзі з розных краін свету, захопленыя творчасцю нашага песняра, і ўтварылі арганізацыйны камітэт па стварэнні фонду. Мэтай яго бачылася больш глыбокае, дасканалае вывучэнне творчай спадчыны Янкі Купалы, садзейнічанне гэтаму вывучэнню. Творчая спадчына паэта — гэта не з'ява, замкнёная сама ў сабе. Гэта — вакно ў свет Беларусі, беларускай культуры, наогул у свет нашага народа. Праз творчасць Янкі Купалы, праз ягоныя вершы, паэмы, драматычныя творы, публіцыстыку мы можам глыбей зразумець саміх сябе, свой народ, свой родны кут. Праз яго творчасць мы зможам звязацца з беларусамі свету, і не толькі з беларусамі, а і з іншымі народамі, бо творчасць любога вялікага паэта — з'ява інтэрнацыянальная. Яшчэ Дастаеўскі гаварыў, што чым рупней сее пісьменнік на нацыянальнай ніве, тым больш дастае ён да душы ўсяго чалавецтва. Наш Купала — якраз такі пісьменнік.

**— Эмблема фонду — купалаўская папараць на фоне абрысаў сусвету. Які сэнс заключаны ў гэтым?**

— Менавіта так: купалаўская папараць на фоне абрысаў сусвету. Эмблема гэтая найперш і гаворыць пра мэты і задачы фонду. Ніці на ёй — гэта як сімвал прагі зямнога людства спазнаць, хто ёсць чалавек на зямлі і хто ёсць вакол нас. Купала — гэта вечнасць, гэта загадка, якую мы дагэтуль разгадваем. І бывае вельмі крыўдна, што Купалу ў свеце ведаюць часта такім, якім хацелася пэўным уладам яго падаць. Таму мы і мяркуем з дапамогай фонду раскрыць, а лепш будзе сказаць — раскрыліць Купалу сапраўднага, Купалу — мысляра, філосафа. Праз Купалу мы лепш спазнаем сябе як нацыю старажытную, з багатай і трагічнай гісторыяй, з даўнімі і адметнымі традыцыямі і звычаямі. Таму пра Купалаўскі Міжнародны фонд можна казаць як пра з'яву сусветную, касмічную, якая аб'яднае людзей на аснове, на грунце іх лучнасці з прыродай, з космасам, з сусветам, але зноў-такі — у цэнтры ўсяго будзе постаць Купалы.

**— Вячаслаў Пятровіч, з часу ўзнікнення ідэі фонду ягоны арганізацыйны камітэт, трэба думаць, не сядзеў склаўшы рукі? Наколькі я ведаю, адбыўся ўстаноўчы сход, абраны рада і праўленне фонду. Хто ў іх увайшоў? Назавіце хоць колькі імёнаў, калі ласка?**

— Віцэ-прэзідэнтам абрана дырэктар музея Янкі Купалы Жана Дапкюнас, адказным сакратаром — Антаніна Хатэнка. А сярод членаў праўлення — Сяргей Панізнік, Сяргей Законнікаў, іншыя паэты і пісьменнікі, людзі з розных краін свету — з Амерыкі, Англіі, Польшчы, Расіі, Літвы, Украіны. Назаву хоць бы такіх, як прафесар Лонданскага універсітэта Джым Дынглі, наш зямляк дырэктар Інстытута навукі і мастацтва з ЗША Вітаўт Кіпель, загадчык кафедры беларусазнаўства Варшаўскага універсітэта Аляксандр Баршчэўскі, доктар філалагічных навук, супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры імя Горкага ў Маскве Аляксей Каўка, украінскі паэт Раман Лубкіўскі і многія іншыя.

Хацелася б, каб у наш фонд уступалі тыя ўстановы і арганізацыі, якія ў сваёй назве маюць імя Купалы. Я лічу, што гэта вельмі важна. Бо не сакрэт жа, што гэтыя ўстановы і арганізацыі, трымаючы на шыльдах імя песняра, часам, на жаль, як бы забываюцца на яго. А менавіта ж яны найперш павінны памятаць і шанаваць Купалава імя. У статуце фонду запісана, што членамі яго могуць быць індывідуальныя і калектыўныя сябры. Напрыклад, гэта могуць быць Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, Гродзенскі універсітэт імя Янкі Купалы, Купалаўская мінская бібліятэка, школы, калгасы імя песняра. У ліку сяброў фонду хацелася б, натуральна, бачыць людзей, якія займаюцца купалазнаўствам, а таксама паэтаў, празаікаў, даследчыкаў літаратуры.

Купалава слова жыве і прыжываецца ў свеце. Напрыклад, калектыўным сябрам фонду стала Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў Рызе, стварaюцца суполкі фонду ў Дагаўпілсе, у Славакіі, Чэхіі, Польшчы, Лондане, Чыкага.

Увогуле ж хацелася б, каб наш фонд стаў своеасаблівым нацыянальным цэнтрам духоўнага жыцця Беларусі. Усё, чым жыве наш народ, яго спадчына, яго гісторыя, яго будучыня, — усё гэта павінна быць і будзе ў цэнтры ўвагі сяброў фонду.

**— Якія акцыі, ці, як цяпер стала модна гаварыць, імпрэзы праведзены фондам? Што ў бліжэйшых планах?**

— Мы распачалі серыю вечароў пад агульным дэвізам "З Купалам у сэрцы". Вечары гэтыя прысвячаюцца не толькі Купалу, аднак жа ён будзе так ці інач присутнічаць на кожным, бо — усё ад Купалы, усё з ім звязана. Прайшоў вечар, прымеркаваны да 100-годдзя з дня нараджэння Кандрата Крапівы. Адбылася вечарына народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Плануюцца вечары Сяргея Законнікава, Уладзіміра Някляева, Анатоля Вярцінскага, Вацлава Жыдліцкага, а таксама прысвечаныя памяці Барыса Сачанкі, Ларысы Геніюш, Цёткі, Уладзіславы Луцэвіч — цёці Уладзі і інш.

Будзем праводзіць міжнародныя Купалаўскія чытанні. Сёлетнія прымяркоўваем да 90-годдзя "Нашай Нівы". Янка Купала з "Нашай Нівай" быў звязаны на працягу ўсяго яе існавання, ён быў і яе заснавальнікам, і супрацоўнікам, і проста аўтарам, і рэдактарам, і выдаўцом. Гэта — з аднаго боку. А з другога ж, "Наша Ніва" — гэта і аснова ўсёй нашай культуры, гэта гісторыя нашага адраджэння і само адраджэнне.

Фонд будзе браць самы чынны ўдзел у правядзенні рэспубліканскіх свят нашай паэзіі ў Мінску, у філіялах Купалаўскіх музеяў у Вязынцы, Акопах, Ляўках і ў Казані.

Выспельваем думку і наконт выпуску — мо нават пачынаючы і з сёлетняга года — "Купалаўскага штогодніка", зборніка, куды ўвойдуць матэрыялы Купалаўскіх чытанняў, лепшыя публікацыі пра Купалу, якія з'явяцца на працягу года, а таксама новыя, дагэтуль невядомыя матэрыялы пра жыццё і дзейнасць песняра.

Мяркуем праводзіць конкурсы на лепшыя пераклады Купалавага слова на рускую, англійскую, славацкую мовы, выпусціць пласцінку з музыкай на словы песняра, а таксама відэафільм пра яго. Час падумаць і пра перавыданне на мовах свету ягонага славутага "А хто там ідзе?"

**— На заканчэнне — далікатнае пытанне, Вячаслаў Пятровіч. А як са сродкамі? Ці адшукаліся спонсары на такую добрую справу?**

— На жаль, іх пакуль што не так і многа. Карыстаючыся нагодаю, хачу падзякаваць першых нашых фундатараў, такіх, як Фонд Сораса, Уладзіміра Шахновіча і іншых і звярнуцца да ўсіх, каму неабыякавы Янка Купала, неабыякавыя наша культура, гісторыя, спадчына, літаратура, з просьбаю аб дапамозе. Пасільныя ўнёскі можна зрабіць на *р/р 3041000003620, філіял N 510, АСБ "Беларусбанк", Код 603, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы, для Міжнароднага фонду Янкі Купалы.* Загадзя ўсім удзячны.

Калісьці, у вершы "Песняру-беларусу", Янка Купала пісаў:

**Няпамяць імя пяўца зліжа,**
**А песня будзе жыць і жыць!**

Што да самога Купалы, дык вечна будзе жыць і імя ягонае, і песня. А разам з ёю, у ёй і пры дапамозе яе будзем жыць і мы.

**Гутарыла Марыя ГІЛЕВІЧ**

МІЖНАРОДНЫ ФОНД Янкі Купалы

# З МАНКУРЦТВАМ — У ЦЫВІЛІЗАВАНЫ СВЕТ?

## СЛОВА НА АДКРЫЦЦІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ НАВУКОВАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ "ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў БЕЛАРУСІ: ГІСТАРЫЧНЫ, ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІНГВІСТЫЧНЫ АСПЕКТЫ"

Ніл ГІЛЕВІЧ

ШАНОЎНЫЯ КАЛЕГІ!

Мы сабраліся з вамі ў гэтай утульнай зале, каб разам, агульнымі намаганнямі даць навуковае асвятленне таго, што вынесена ў назву канферэнцыі. Пытанне гэта, як бачна з раздадзенай вам праграмы, будзе разглядацца ў трох аспектах: гістарычным, палітычным і лінгвістычным. Такі падыход дазволіць паўней ахапіць агульную моўную сітуацыю ў Беларусі і глыбей пранікнуць у сутнасць справы.

Даўным-даўно, можа, і каля тысячы гадоў назад, па мудрай волі Усявышняга, на ладным кавалку еўрапейскай тэрыторыі, на аснове блізкароднасных племянных аб'яднанняў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, пачала складацца і фарміравацца як адно этнічнае цэлае беларуская народнасць. Беларускай, вядома, яна будзе названа значна пазней, але гэта акалічнасць ні ў якой меры не адмяняе самога гістарычнага факта.

З фарміраваннем беларускай народнасці фарміравалася яе адзінае цэлае і аснова беларускай мовы: складваліся і замацоўваліся тыя яе якасці, якія ўрэшце сталі вызначальнымі і канчаткова адасобілі нашу мову ад расейскай і ўкраінскай. Паўтараю, працэс гэты адбываўся па волі Божай, у пэўных гістарычных умовах, арганічна і натуральна, як і пры этнічна-нацыянальным станаўленні любога іншага народа. Вядома, якім драматычным, а дакладней — трагічным аказаўся ў далейшым лёс і нашай дзяржавы, і нашага народа, і нашай мовы. Мовы, якая, прынамсі, тры стагоддзі была дзяржаўнай і літаратурнай — зразумела, у сваіх старабеларускіх лексічных і граматычных формах. Дастаткова прыгадаць кнігі Скарыны, Буднага, Цяпінскага, тры выданні "Статута ВКЛ" і многія іншыя помнікі беларускага пісьменства XV—XVII стагоддзяў.

На бяду-няшчасце наша, вымушаная унія Вялікага княства з каралеўствам Польскім прывяла пастулова нашу суверэнную дзяржаву да поўнага заняпаду, да ліквідацыі яе суверэннасці, да гвалтоўнай паланізацыі насельніцтва Вялікага княства, а ўрэшце — да амаль поўнага выцяснення беларускай мовы з афіцыйнага і літаратурнага ўжытку. Гэтым тлумачыцца тое, чаму, у параўнанні з большасцю паднявольных славянскіх краін, нацыянальнае адраджэнне Беларусі пачалося вельмі няўпэўнена і амаль на цэлае стагоддзе пазней. Аднак жа яно пачалося і асновай адраджэння стала існаванне жывой беларускай мовы. Іменна гэтая акалічнасць, што яна не знікла, што ў вуснах мільёнаў простых людзей беларуская мова жыла, і жыла ў дасканала развітых формах, — падказала прадстаўнікам мясцовай інтэлігенцыі, адукаванай ліцвінскай шляхты на магчымасць выкарыстання гэтае мовы ў якасці літаратурнай. Хацелася б падкрэсліць, што к таму часу (канец XVIII ст.), калі тэрыторыя Вялікага княства ўжо была далучана да Расійскай імперыі, жывая беларуская мова існавала ў тых жа граматычна і эўфанічна завершаных формах, у якіх яна існуе і сёння. Вось радкі вясельных песень, запісаных на Лагойшчыне амаль 200 гадоў назад — у 1800—1802 гг.

**Да прапою, прапою**
**Да Тацянкін татулька,**
**Да прапіў сваё дзіця**
**Да на новым ганачку,**
**Да за мёду шкляначку,**
**За гарэлкі чарачку.**
**Добра ж было прапіваці —**
**А кім будзеш пасылаці**
**У крыніцу па вадзіцу,**
**У шэры бор па брусніцу.**

Або:

**Звінела камора, звінела,**
**Дзе наша Тацянка сядзела,**
**Тонкія абрусы заткала,**
**Мыслямі ўзоры паклала.**

Калі такая чыстая і цудоўная была наша жывая мова ў канцы XVIII стагоддзя, то можна не сумнявацца, што гэтак жа чыста і цудоўна яна гучала і на 100, і на 200 гадоў раней, г.зн. і ў канцы XVII і ў канцы XVI стст., а можа, і яшчэ раней, бо істотныя змены ў мове, у яе лексіцы, марфалогіі, сінтаксісе, а тым больш у фанетыцы, хутка не адбываюцца. На гэта хацелася б звярнуць увагу тых гора-навукоўцаў, якія сцвярджаюць, што ніякай спрадвечнай беларускай мовы не было і няма, што яе штучна пачалі ствараць у XIX ст. тагачасныя "беларускія нацыяналісты", і асабліва "нацыяналісты" пачатку XX ст. — такія, як Я. Купала, Я. Колас, Цётка, А. Гарун, М. Багдановіч, М. Гарэцкі і дзесяткі іншых, менш вядомых. На працягу ўсяго XIX ст. беларускай мове ходу за парог вясковай хаты не давалі — асобныя прарывы ў кніжнае пісьменства (Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч, Фр. Багушэвіч, Я. Лучына і інш.) толькі падкрэслівалі поўную і глухую дыскрымінацыю правоў 10-мільённага народа на карыстанне сваёю мовай, на стварэнне сваёй уласнай прафесійнай культуры. XX ст. тройчы давала нашай мове аддушыну — у самым пачатку веку, у 20-я гады і нарэшце зусім нядаўна — у першай палавіне 90-х. Але ў цэлым і XX ст. — гэта працяг усё той жа асіміляцыі, усё той жа нялюдскай палітыкі паступовага задушэння беларускай мовы, звядзення яе месца і ролі ў жыцці грамадства на нішто. У суме ж выходзіць, што ўжо колькі сот гадоў нашу родную мову і душаць, і душаць, і душаць, і напэўна самі дзівяцца, што ніяк не задушаць, і ўсё не могуць зразумець простай ісціны: ну калі за некалькі стагоддзяў задушыць не змаглі — значыць, яе ўвогуле задушыць нельга, значыць, яна — вечна жывая, несмяротная, і таму — спыніцеся, панове!

На вялікі жаль, панове не спыняюцца. Наадварот, у самы апошні час павялі нечуваны наступ і на правы мовы, дзяржаўны статус якое ніхто не адмяняў, і на пазіцыю тых, хто яе бароніць, хто адваёўвае для яе права жыць, развівацца і служыць людзям, служыць гуманізму і культуры. Проста як нейкае ачмурэнне найшло на імпершавіністаў, усякую элементарную чалавечую логіку пераварочваюць дагары нагамі, ставяць з ног на галаву. Гаворыш ім: "Беларускую мову трэба ратаваць, трэба ёй дапамагчы выжыць, вы ж бачыце, у якім яна становішчы!" — а яны ў адказ: "Не бярыце за горла са сваёй беларушчынай і дайце рускай мове аднолькавы статус з беларускай!" Гаворыш ім: "Мы любім і шануем родную мову і хочам гэтыя пачуцці прышчапіць дзецям, каб яны не вырасталі дзікунамі" — а нам у адказ: "Вы ненавідзіце рускую мову, адрываеце моладзь ад рускай культуры і распальваеце русафобію!" Трое няўдзячных, якія, відочна, прыехалі сюды, кажучы словамі паэта "на ловлю счастья и чинов", займаюць увесь тэлеэкран і абзываюць лепшых людзей беларускай нацыянальнай культуры антыпатрыётамі, ды яшчэ і пагражаюць, што "этим националистам не место на нашей белорусской земле". Здорава, ці не праўда? Тыя, хто не можа звязаць на мове гэтай зямлі нават трох слоў, — патрыёты, а тыя, каму родная мова бясконца любая і каму неймаверна баліць за яе лёс, — тыя, аказваецца, антыпатрыёты. Сапраўды, ачмурэнне нейкае!

Праявы і факты дыскрымінацыі беларускай мовы ў Беларусі на сучасным этапе выступаюць — хачу гэта падкрэсліць — у асабліва здзеклівых формах. З нашае мовы сёння здзекуюцца ўсе і ўсюды — на ўсіх узроўнях: ад прэзідэнта на тэлеэкране да апошняга п'янага бомжа на вуліцы ці ў гарадскім транспарце. З мовы — і з тых, хто выступае ў яе абарону. І заступніцтва з боку дзяржавы — аніякага. І гэта зразумела: хто ж заступіцца, калі прыклад ігнаравання і здзеку падаецца з самага верху?

А было ж ужо, было — на самым пачатку 90-х намецілася радаснае ажыўленне адраджэнскіх настрояў у гушчах народа, людзі пачалі ўсведамляць неабходнасць перамен у стаўленні да беларускай мовы, і наданне ёй статуса адзінай дзяржаўнай па Законе аб мовах успрынялі ў цэлым спакойна, з разуменнем. Гэтак жа, як і замацаванне яе дзяржаўнага статуса ў Канстытуцыі Беларусі. І былі дасягнуты першыя поспехі ў пашырэнні беларускай мовы ў грамадскім ужытку. І ішоў бы гэты працэс далей — спакойна і без эксцэсаў, як натуральны і зразумелы ўсім, хто не вораг сваёй Бацькаўшчыне. Ішоў бы — калі б не хітра-подлая задума з рэферэндумам. Арганізаваны на сацыяльна-палітычнай дэмагогіі рэферэндум узарваў і разваліў працэс нацыянальнага адраджэння Беларусі. Пад націскам апантанай ідэалагічнай апрацоўкі многіх людзей, у тым ліку маладых, ахапілі сумненні, многія пахіснуліся. Асабліва адчувальныя ўдары па беларускай мове пачалі наносіць у сферы адукацыі. У цэлым жа можна сказаць, што рэферэндум паклаў пачатак курсу на небывалую палітычную канфрантацыю ў грамадстве, што мы і бачым сёння. Цынізм кіраўніцтва дзяржавы ў тым, што вінаватымі ў канфрантацыі аб'яўляюцца зусім невінаватыя, што з хворай галавы ўсё перакладваецца на здаровую.

У такім становішчы натуральна ўзнікла пытанне: як быць і што рабіць? На аргкамітэце Канферэнцыі гаварылася: нам нічога не застаецца, апрача як звярнуцца да сусветнай грамадскасці з просьбай, каб яна аказала нам маральную падтрымку ў змаганні за правы нашай роднай беларускай мовы на нашай роднай беларускай зямлі. Маўляў, грамадскасць свету не можа даваць рэкамендацыі наконт моўнай палітыкі ў нашай суверэннай дзяржаве, але можа даць маральную ацэнку самому факту дыскрымінацыі беларускай мовы ў Беларусі. Можа выказаць абурэнне гэтай нялюдскай, ганебнай моўнай палітыкай, якая праводзіцца асімілятарамі і іх прыслужнікамі ў Беларусі. Зрабіць гэта трэба для таго, каб у кожнай краіне свету дзяржаўныя і палітычныя лідэры ведалі, з якімі людзьмі ім даводзіцца мець справу, калі яны сустракаюцца з дзяржаўнымі кіраўнікамі Беларусі. Аднак самае страшнае тое, што нашым дзяржаўным мужам ніякі маральны суд не страшны, іх нічым не спалохаеш. Яны валодаюць, выбачайце, надзвычайным маральным "бясстрашшам". Колькі было ўжо выпадкаў, калі тут, у Мінску, на пэўнай урачыстасці, прадстаўнік замежнага пасольства гаворыць на беларускай (хай сабе і з цяжкасцю), а прадстаўнік нашага ўрада ці міністэрства — на мове суседняй дзяржавы. І нічога! А ні сораму, а ні канфузу. Маральнае "бясстрашша"! У псіхалогіі гэту з'яву яшчэ называюць цынізмам, у народзе — проста дзікунствам. Хоць і вельмі непрыемна гэта гаварыць, але так яно і ёсць: дзяржаўная палітыка, скіраваная на вынішчэнне мовы, а г.зн. і духоўнай культуры свайго народа, — гэта дзікунства. Толькі дзікуны і манкурты не здольныя думаць і клапаціцца пра духоўнае аблічча нацыі, да якое яны самі належаць, пра заўтрашні дзень нацыі, якога ў яе проста не будзе, калі народ пазбавіць яго ўласнай мовы, калі ў душы народа знішчыць жывыя карані і карэньчыкі сваёй уласнай, прыроднасамабытнай духоўнай творчасці.

І рэч не толькі ў тым, што гэтыя нашы дзяржаўныя дзеячы, распарадчыкі жыцця і лёсу народа не ведаюць і таму не карыстаюцца мовай народа; многія з іх якраз ведаюць, і нават няблага ведаюць мову роднай зямлі, некалі гаварылі ёю і ў школах вучыліся на ёй. Рэч у тым, што гэтыя дзяржаўныя мужы, адміністратары і палітыкі свядома і наўмысна грэбуюць беларускай мовай, свядома ігнаруюць патрабаванні прынятых у свеце, на міжнародным узроўні, законаў, патрабаванні агульналюдскай маралі і культуры; рэч у тым, што яны свядома праводзяць антыбеларускую нацыянальную палітыку, што ідэю нацыянальнага беларускага Адраджэння яны адвяргаюць у прынцыпе, што свой уласны дзяржаўны дом, пабудаваны і абстаўлены на беларускі лад, ім наогул непатрэбны: ім дастаткова і таго, што яны будуць жыць у прыбудаваным флігелі ці дзе-небудзь у прызначанай для чэлядзі бакавушцы.

Але беларускі народ не можа на сваёй зямлі жыць у нейкай прыбудове ці бакавушцы, ён павінен быць гаспадаром у сваім доме, для чаго сам дом павінен быць беларускім; не можа ж ён гаспадарыць у доме чужым, у доме, дзе беларускага ўжо амаль нічога няма. Значыць, задача задач для ўсіх нас і для ўсяго беларускага народа — дабіцца таго, каб Беларусь як краіна і дзяржава стала ў поўным сэнсе слова Беларуссю, каб наш беларускі дом быў іменна беларускім домам. Само сабой зразумела, што такім ён можа стаць толькі тады, калі ў ім будзе панаваць беларускі дух, беларуская памяць і беларуская культура, а найперш — беларуская мова: самабытная і цудоўная ў сям'і славянскіх моў беларуская мова! Тыя, каго Янка Купала назваў "ворагамі беларушчыны", гэта выдатна разумеюць: разумеюць, што калі ў Беларусі ў грамадскім і бытавым ужытку будзе пашырацца беларуская мова, то будзе пашырацца і паглыбляцца і гістарычнанацыянальная самасвядомасць народа, будзе расці колькасць нацыянальна свядомых беларусаў, якія канешне ж зробяць свой дзяржаўны дом беларускім і незалежным. Не дапусціць да гэтага ёсць у сваю чаргу задача задач і галоўнай мэтай асімілятараў Беларусі. Любой цаной не дапусціць, каб беларускі дзяржаўны дом стаў незалежным! Чаму? Таму што суверэнная і назалежная Беларусь можа стаць ім перашкодай у ажыццяўленні вялікай геапалітыкі. І ў гэтым — уся справа. І ўся наша бяда. Гэта — галоўная прычына нашай глабальнай і нескончонай нацыянальнай трагедыі.

Вядома, нацыянальныя інтарэсы нашай усходняй суседкі, як і ўсіх іншых суседзяў, маглі б быць задаволенымі і пры існаванні суверэннай і незалежнай Рэспублікі Беларусь. Безумоўна, маглі б! Але для гэтага трэба, каб сёе-тое архіважнае, архіістотнае адбывалася ў галовах, у розумах, у менталітэце тых, хто фарміруе, прапагандуе і насаджае праімперскую ідэалогію. Ці можам мы разлічваць, што такія перамены ў галовах імпершавіністаў у блізкім часе і самі па сабе адбудуцца? Думаю, што разлічваць на гэта было б недаравальнай наіўнасцю. Самі па сабе ды яшчэ ў блізкім часе яны не адбудуцца. На прыбліжэнне гэтых перамен трэба напорна і актыўна працаваць. Іншага нічога не застаецца. Ну, а сам час, само жыццё будзе спрыяць гэтаму. Павінна спрыяць! Ёсць жа нейкая найвышэйшая мудрасць у асновах самога светаўладкавання — мудрасць, якая заўсёды давала людзям надзею і веру ў перамогу справядлівасці.



Фота Ул. Кармілкіна.

## СПАСЦІЖЭННЕ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

**У Доме літаратара прайшла прэм'ера дакументальнага фільма "Акафіст Уладзіміру", створанага рэжысёрам С. Лук'янчыкавым і аператарам А. Суханавай па сцэнарыі народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна. Як вядома, гэта не першы зварот кінематографа да вобраза таго, каго смела можна назваць гонарам нацыі. Пасля смерці Уладзіміра Сямёнавіча пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка расказаў у сваёй стужцы "Быў. Ёсць. Буду" Ю. Цвяткоў. Гэтым жа разам погляд на У. Караткевіча ўжо і з адлегласці. Таму ў фільме не столькі бачыцца У. Караткевіч "вядомы", колькі робіцца спроба (і яна ўдаецца) глянуць на яго як на творцу, чалавека, грамадзяніна, які ў сваіх справах і памкненнях у многім і абганяў час, ідучы наперадзе яго, а тым самым і праторваў дарогу нам, яго наступнікам.**

**Пасля прагляду фільма сваімі ўражаннямі падзяліліся народны мастак Беларусі Г. Вашчанка, сябра У. Караткевіча і аўтар кнігі пра яго А. Мальдзіс, даследчык творчасці Уладзіміра Сямёнавіча і аўтар дзвюх кніг пра яго (адна яшчэ не выйшла) А. Верабей...**

**А тым самым у нечым і дапоўнілі воблік У. Караткевіча сваім разуменнем, сваім бачаннем яго няпростай асобы.**

## "БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЧАСОПІС", N 1

**Першы за сёлетні год нумар штоквартальніка адкрываецца артыкулам галоўнага рэдактара "Беларускага гістарычнага часопіса" В. Кушнера "Адукацыя на рубяжы стагоддзяў: праблемы і перспектывы". На пытанні рэдакцыі часопіса адказвае першы намеснік міністра адукацыі Расійскай Федэрацыі В. Болатаў — "Шукаем разам, але кожны для сябе".**

**Л. Лазько і М. Мурашка выступаюць з артыкулам "На скрыжаванні вялікай палітыкі: аб вяртанні Гомельшчыны ў склад БССР". Пад рубрыкай "З гісторыі партый і рухаў" прапануецца артыкул Н. Стужынскай "Трагедыя зялёнадубаўцаў". Яшчэ адна пастаянная рубрыка часопіса — "Народы Беларусі". Гэтым разам слова дадзена Э. Іофэ ("Яўрэі на Беларусі").**

**Працягвае "БГЧ" змяшчаць матэрыялы, прысвечаныя пэўным рэгіёнам. Пад агульным загалоўкам "Случчына" аб'яднаны артыкулы Л. Калядзінскага "Верхні замак Слуцка", С. Рыбчонка "Алелькавічы і Слуцк", Т. Бліновай "З гісторыі Слуцкай езуіцкай калегіі", развагі У. Басалыгі аб сваім шляху ў мастацтве — "Вытокі творчасці".**

**З іншых публікацый нельга не вылучыць артыкулы І. Святліцкага "Эпоха фармальнага цэнаўтварэння. Чаму Сталін мог зніжаць цэны?", А. Хадкевіча "Аб разбраенні груповак Арміі Краёвай у Нарачанскай і Налібоцкай пушчах (1943—1944)" (публікацыя пасмяротная, слова пра аўтара гаворыць В. Кушнер: "Памяці старэйшага таварыша"), А. Мартынюка "Гістарычныя крыніцы XIII—XIV стст. аб нацыянальным характары манголаў", Л. Побаля "Антычныя нумізматычныя багацці Міншчыны і Віцебшчыны", М. Цубы "Беларускі нацыянальны рух на пачатку XX ст."...**

## КНІЖНЫ КІРМАШ



**У Рэспубліканскім выставачным цэнтры прайшоў Мінскі міжнародны кніжны кірмаш. Ён праходзіў ужо трэці раз. У ім прынялі ўдзел больш за 150 фірм з краін бліжняга і дальняга замежжа — ФРГ, Нідэрландаў, Літвы, Балгарыі, Польшчы, Расіі і Беларусі.**

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

Алесь БЕЛЬСКІ

# "САМОТНАЕ СТАІЦЬ НАД НАМІ НЕБА..."

ПАЭЗІЯ НАШЫХ ДЗЁН

"ПАЭЗІЯ, ТВОЙ КРОК ЧУВАЦЬ!" — усклікнуў калісьці паэт. А ці заўважны сёння яе крок? Ці чуе хто паэтаў — "галаснікоў вякоў"? Зрэшты, у розныя часы крок беларускай паэзіі быў розны: паскораны і магутны, як на пачатку XX стагоддзя, па-маладому энергічны і шматабяцальны, што было характэрна для 20-х гг., гучны, але запаволены, як у 30—50-я гг., уздымны і паходны ў гады вайны, напорысты і мужны, спароджаны так званай "адлігай", разважлівы і крыху аднастайны, як у 70—80-я гг., разняволены і непрадказальны — з сярэдзіны 80-х... Праўда, паэтычнаму слову заўсёды была ўласціва шматстайнасць канкрэтных праяў, а не выключна адна мастацка-стылёвая арыентацыя. На зыходзе XX стагоддзя хада нашай паэзіі вельмі розная, часам нязвычная, але, калі вызначаць духоўна-эмацыянальную змястоўнасць і эстэтычную скіраванасць па галоўнай дамінанце, то нельга не заўважыць, што гэтая хада стала ўнутрана асэнсаванай, роздумнай і, я б сказаў, больш мудрай.

У паэзіі апошніх гадоў паменела безасабовай агульшчыны і барабаннага грукату. Пад заслону веку, які прынёс нам так багата зла, бяды і расчараванняў, час гучных і радасных рытмаў нібыта мінае, бо надышла пара сумных вершаў, інтымнай споведзі, у якой вядучым стаў драматычны пафас.

Трывожныя элегіі С. Грахоўскага гучаць як вынік перажытага болю, няпраўды, непрымання сённяшняга разбурэння чалавечых асноў свету, распаду духоўнасці, фальшу і маны:

**О, дзікі свет! Скажы, каму паверыць?**
**З якімі прайдзісветамі ісці?**
**Якою меркаю іх душы мераць,**
**Каго маліць, каго клясці?**

*("Пакутнікам за народ")*

Так, паэт перажыў "інфаркт... душы", і таму вельмі зразумелая яго абвостраная туга, нават роспач.

У абладзе невясёлага роздумнага настрою і Г. Бураўкін, які, наракаючы на "жорсткі час", задае трывожнае пытанне: "Няўжо былыя святы адплылі і радасць не заграе больш на дудцы?" (верш "Што ты зрабіў са мною..."). Паэт шчыра прызнаецца: "За ўсіх баліць маё слабое сэрца..." Што і казаць, збалеліся, моцна зняверыліся, напоўніліся элегізмам і драматызмам сэрцы многіх паэтаў. "Пазмрачненне — гэта ўжо цалкам з сённяшняга светаадчування, з нясцерпна-балючай сутнасці нашых сацыяльных і нацыянальных ускладненняў і трагедый", — слушна піша М. Арочка. Але, думаецца, прычына тут не толькі ў гэтым. Не адзін творца перажывае нешта сваё балюча-асабістае або ідзе, як некалі Я. Купала, У Дубоўка, Я. Пушча, шляхам трагедыйнага светапазнання. Наогул жа паэт па прыродзе сваёй — самотнік, адзінотнік, бо толькі сам-насам адкрываецца праўдзівая і глыбінная сутнасць быцця. Мае рацыю М. Мішчанчук: "Культ адзіноты, культ асобы, культ бязмежнай каштоўнасці таго, што адбываецца ў душы АДЗІНКІ, — традыцыя, без якой літаратура, мастацтва ўвогуле не могуць існаваць". Сённяшняя паэзія, вобразна кажучы, востраў чалавечай самоты, смутку і трывогі ў тлумным моры рэчаіснасці.

"Заложнікам цемры" адчувае сябе лірычны герой Л. Галубовіча. Ён знаходзіцца ў палоне медытатыўных рэфлексій, апускаецца "ў нетры... прыроды чалавечай з вечным часам". Паэт асэнсоўвае тое адвечнае, што неадступна паўстае побач: дабро і зло, святло і змрок, вечнае і часовае, Боскае і падманна-фальшывае. Верш Л. Галубовіча адчувальна герметызаваны, напоўнены суб'ектыўна-інтымнай роздумнасцю. Тым не менш у "Элегіі зыходу. XX век" ён звязвае свае думкі з агульна-значнай праблемай быцця: "О, Маці Боская, хто пашкадуе нас і хто падзеліць нам пароўну хлеба? Дзе сын-прарок твой, хоць на гэты час?" Каб пераканацца ў тым, што матывы адзіноты і скрухі, вечара і змроку на схіле XX стагоддзя — дамінантная рыса паэтычнай свядомасці, прывяду яшчэ колькі прыкладаў:

**Самотнае стаіць над намі неба,**
**Самотная плыве з-пад ног зямля.**

*(Т. Бондар)*

**На востраве душы маёй ліхтар,**
**Што свеціць праз туман і завіруху,**
**Якому я прынsocшу на алтар**
**Свае памкненні, адзіноту, скруху.**

*(Н. Гальпяровіч)*

**І я зняверыўся ў сабе**
**І памыліўся я ў прыродзе,**
**А ўжо за спінаю сапе**
**Мае наступнае стагоддзе.**

*(А. Жыгуноў)*

Адзін з самых сэнсава-значных і трагедыйных вобразаў сучаснай паэзіі — вобраз крыжа. Крыж і іншыя біблейска-хрысціянскія матывы нібы вяртаюць нас да паэзіі пачатку стагоддзя, творчасці клерыкальных паэтаў і паэтаў эміграцыі. У гэтым бачыцца адраджэнне вялікай духоўнай і маральнай традыцыі нашай паэзіі. У Р. Барадуліна крыж сімвалізуе пакутніцкі лёс Беларусі, становіцца знакам трагедыі і разам з тым увасабленнем надзеі на выратаванне. Паэт складае пранікнёную малітву:

**Усявышні,**
**Хоць крошак зор накрышы,**
**Разгавей беларусу вячэру.**
**Згінь, крумкач, не кружы,**
**Беларусь на крыжы**
**Уваскрэсне ў пакутах за веру.**

*("Беларусь на крыжы")*

Трагізм у Р. Барадуліна згушчаны, часам, здаецца, безвыходны: "І непрытомная душа ў паганстве Асланяе сябе крыжам, Крыжам чарговай магілы..." ("Душа, як ні прагнецца ёй..."). Алегорыя крыжовага лёсу вымалёўваецца і ў пейзажы: "Адно вароны, як чорныя геніі, Абсяг крыжуюць да небакраю" ("Сухотныя крыгі..."). Паэт прапаведуе "Евангелле ад Мамы" — усё самае святое і чалавечае, што можа духоўна ўратаваць нас і ўзвысіць як народ.

Крыжовы шлях — гэта злавесная і цяжкая кара, бо сёння наша Беларусь "на Чарнобыльскім Крыжы" (Зніч). Паэты ўсім сэрцам перажываюць наступствы бяды, апялююць да Бога, выгаворваюць свае балючыя нараканні, задаюць шчымліва-хвалюючыя пытанні:

**Дакуль нам спіны гнуць, укленчваць**
**Прад Лёсам Злым — здавён, здавён?..**

*(М. Стрыгалёў)*

Пакутніцкі крыж, мусіць, невыпадкова дадзены народу, які выракаецца Бацькаўшчыны, сумлення, гатовы прадаць сваю душу і памяць д'яблу: "Якія мы — такая й доля..." (А. Пісарык. "Крыжы памяці"). В. Шніп стварыў не адзін малюнак разбураных храмаў, апаганеных крыжоў і святыняў. Праўда, заўважаецца ў вершатворчасці паэта і пэўная вобразная аднастайнасць. Тым не менш ён здолеў праз алегарычнасць, прытчавасць інтанацый выказаць хвалюючую думку пра трагічнасць нашага нацыянальнага быцця:

**Людзі волю шукаюць у полі,**
**Толькі ў полі — чарнее турма.**
**Называюць турму родным домам,**
**Хто знявечыў і дом свой і Храм.**

*("Там")*

Жыццёвы шлях чалавека ў нечым абавязкова драматычны і складаны. "Кожны нясе свой крыж?" — ужо самой назвай верша пытаецца М. Купрэеў і ўсім яго вобразна-эмацыянальным зместам уражліва даводзіць, што мукі, пакуты — наканаванасць лёсу, цяжар душэўных выпрабаванняў на гэтай зямлі:

**Крыж белы ў радзіміцкім полі ляжыць,**
**бяздушна**
**стаю па-над ім нахілёны.**
**З ранаў капае кроў...**
**Як мне жыць без душы?!**
**Як мне крыж свой падняць,**
**на спіну палажыць?**
**Як Усявышняга збыцца праклёну?..**

Падобныя радкі — сведчанне глыбокага ўнутранага самаасэнсавання.

І ўсё ж, калі б я сказаў, што толькі трагедыйнае вызначае духоўна-эмацыянальны свет радка, то несумненна памыліўся б. Хіба можна ўявіць лірыку без зямных светлых і радасных пачуццяў? Аднак аптымістычнае — гэта хутчэй не тыповы стан сённяшняй паэзіі, а покліч душы, прага ідэалу, імкненне сцвердзіць "над абрывам" неўміручасць усяго вечнага і прыгожага на зямлі. З Богам, светлымі сіламі заручае надзею на збавенне паэт С. Панізнік, выказвае, праўда, свае пачуцці неяк крыху абстрактна:

**Заўтра будзе святлей**
**ад сяброў і надзей.**
**І асвеціцца дом,**
**дзе мы з Богам жывём.**

*("Я люблю!")*

"Палюбім свет, які пяе ля вокан..." — заклікае паэт М. Дукса, але разам з тым сваёй вершаванай публіцыстыкай нібы пераконвае ў адваротным: "Ні вольнасці, ні лёту, ні адхлання — хтосьці хоча нам перахапіць дыханне" ("Спрут"). Яго вершы надзённа-змястоўныя, напоўненыя шчырай трывогай, асэнсавальным роздумам, але часам, на жаль, уяўляюць сабой больш сацыяльна-палітычны аналіз нашай сучаснасці, чым паэзію глыбокіх перажыванняў.

Вельмі заўважна, што нацыянальна-адраджэнская тэма набыла таксама драматычнае гучанне, пра што могуць красамоўна пасведчыць вершы Р. Барадуліна "Аддзяка", В. Гардзея "Пасля рэферэндуму", Г. Бураўкіна "...Ідзе ў кабінетах высокіх гульня..." Драматычна-трагедыйная мова многіх вершаў абсалютна зразумелая — сёння стаіць "санцапёк чужых ідэй, чужое мовы" (В. Сахарчук. "Манкурт"). Празорлівым, на вялікі жаль, аказаўся паэт: "...Далёка нам яшчэ да Беларусі!" (Н. Гілевіч). Часам трывожна думаецца: няўжо збудзецца сумнае прароцтва-папярэджанне П. Панчанкі: "Гэта наша настала змярканне. Гэта з мовай маёй... Развітанне"? Нібы аглух народ, не чуе сваіх шчырых сыноў. Сумнеў, адчай, трывога б'юцца ў шматлікіх вершаваных радках: "І гэтак жахліва, калі не ўваскрэсне народ..." (В. Іпатава). Дык ці даляціць голас паэтаў да беларусаў, ці ўстрывожыць іхнія сэрцы і роздум? Адчуваю, што міжволі збіваюся на публіцыстыку, але нічога не зробіш: горыч,

балючая праўда часу ў вершах паэтаў — гэта ж і мая крэўная трывога сэрца.

І ўсё ж сама надзённасць, тэматычная праблемнасць, як падаецца, другасны хлеб паэзіі. Першаснае — асабовасць самавыяўлення, глыбіня пачуццяў, краса слова і вобразаў. І яшчэ думаецца пра тое, што сацыяльная публіцыстыка, грамадзянскія вершы не павінны засланяць вечныя тэмы, лірыку прыроды ці кахання, бо калі адбываецца крэн, знікае раўнавага, то непазбежна ідзе інфляцыя паэтычнага радка як мастацкага слова. Нехта з катэгарычнасцю запярэчыць: без палітыкі, сацыяльнай крытычнасці сёння нельга. Што ж, сапраўды паэзія — жанр, так бы мовіць, хуткага рэагавання. Але, паўтаруся, добра, калі ва ўсім захоўваецца мера. Тое, што ў зборніку В. Зуёнка "Пісьмы з гэтага свету" (1995) публіцыстыкі і палітыкі праз край, дык гэта відавочна. Не сказаць, каб паэту бракавала майстэрства прамаўлення, наадварот, у лепшых творах ён піша з сэнсава-вобразнай ёмістасцю, узважанасцю слова, па-грамадзянску узрушана, наступальна, нярэдка са з'едлівай іроніяй. Асабліва ягоны радок кранае там, дзе гучыць з роздумнай спавядальнасцю, з пачуццёвай прачуласцю:

**"Ойча наш..." — ці ў грымотах дарога,**
**Ці ў чарнобыльскай мляўкай цішы, —**
**"Ойча наш..." — я прашу толькі ў Бога**
**Хлеба і ўратавання душы.**

**Я ў сваіх універсітэтах**
**Не спазнаў да неба шляхоў, —**
**Ды здагадку меў, што ў Сусветах**
**"Ойча наш..." — мой надзейны схоў.**
*("Ойча наш...")*

Мяне як чытача неаднойчы захаплялі творы В. Зуёнка яркага вобразна-выяўленчага жывапісу, медытатыўнага настрою. "Лістапад-прадзімнік...", "На полі, як сусвет...", "Прадвесне", "Цікава ўсё ж зірнуць...", "Дзе разнатраўя шугалі рэкі...", "Разарвуцца сутак абручы...", "Зноў — насуперак календарам..." — тыя вершы-залацінкі ў "Пісьмах з гэтага свету", эмацыянальна-энергетычнае поле якіх асабліва прыцягальнае. Тут ярка раскрываецца пейзаж і філасофія душы паэта. І ў публікацыях апошняга часу ("Полымя", 1995, N 5; "Маладосць", 1995, N 6 і інш.) В. Зуёнак уражвае як творца глыбокага філасофскага светаадчування. У яго лірыцы паболела элегічна-медытатыўных перажыванняў, роздумаў пра вечнае, лёс чалавечы, душу і Бога:

**Супакаенне з бярозак**
**Вусцішна ападае:**
**Што адмаўляе розум,**
**Ціха душа прымае.**

**Будзе за раніцай вечар,**
**Дзень абляціць пазалотай,**
**Вечная толькі вечнасць.**
**Іншае ўсё — лістота.**
*("Светлая радасць асенняя...")*

Але досыць часта, на мой погляд, з яго вуснаў чуецца палітычная рыторыка, прасякнутая ваяўніча-выкрывальным пафасам, голая фактаграфія. Дастаецца былому ЦК, партакратам, камуністам, псеўдадэмакратам, камерсантам і г.д. Безумоўна, не можа не імпанаваць грамадзянская пазіцыя паэта, яго пачуццё адказнасці за наш агульны лёс. І ўсё ж, здаецца, гэта якраз той выпадак, калі аўтара паглынае час з яго палітычнымі павевамі і калізіямі:

**Курс выпраўляюць**
**мужчыны-цэнтрысты**
**І ў капіталісты бягуць з камуністаў.**
*("Новыя цэны, каштоўнасці новыя...")*

**Колькі прайшло партакратаў,**
**Дробненькіх і вялікіх,**
**Колькі прайшло дэмакратаў, —**
**Людзі ўжо збіліся з ліку.**
*("Амфітэатра кола...")*

На мой погляд, у цэлым атрымаўся зборнік палітлірыкі, які выклікае неадназначнае ўспрыманне.

Але што зробіш, калі рэчаіснасць наша поўная абсурду, усялякага гідкага вычварства, дурноты. Мусіць, Р. Барадулін невыпадкова назваў свае лімаўскія сатырычныя мініяцюры менавта так: "Дурноты". Смех паэта бойкі, з'едлівы, куслівы, часам па-народнаму грубы:

**Не думае аб этыкеце**
**Бугай калгасны на паркеце.**
**Не галава,**
**А рык і рогі**
**Яго вядуць да перамогі.**
*("Паркет і этыкет")*

У цесным духоўным кантакце з рэчаіснасцю знаходзіцца Р. Тармола-Мірскі. Ён выяўляе смеласць і інтэлектуальную вастрыню думкі, робіць ёмістыя абагульненні.

Вершы Р. Тармолы-Мірскага — палкі грамадзянска-публіцыстычны водгук сэрца, абвостранае "перажыванне рэчаіснасці" (выраз Ю. Марцінкявічуса). Аднак хацелася б, каб паэт паглыбляў эстэтычную глыбіню вобраза, пазбягаў штучнай асацыятыўнасці: "Я цалую цябе ў твае дзяржаўныя губы. Ты яшчэ не памерла... Не будзеш ты мерцвяком!.." ("Дзень роспачы").

Грамадзянскае і асабістае заўсёды цесна паядноўвалася ў мастацкім свеце Г. Бураўкіна. У гэтым плане яму як спадарожнічала творчая ўдача, так надараліся і відавочныя пралікі.

Вершы "Наіўная і смешная ўлада...", "Цяпер шыкуюць новыя паны...", "Нехта кажа..." і некаторыя іншыя сведчаць пра абвостранае ўспрыманне паэтам рэалій часу, пра яго маральную пазіцыю. За радкамі выразна праглядваецца асоба творцы. І асабліва радуе тое, што поруч з публіцыстычна-прамоўніцкімі інтанацыямі ёсць месца і адухоўленаму палёту пачуццяў, паэтызацыі кахання, прыгожага на зямлі:

**...Быццам туман сто раёў пералётных**
**Мірна акрыў барадою сівою...**
**Чуецца звон несціханы, клапотны.**
**Вечнасцю пахне.**
**Пахне царквою.**
*("Грэчка цвіце")*

У наш змрочна-брыдкі час адчуваеш асаблівую прагу па лірыцы чыстай красы: яна — таксама спаталенне душы, ратунак да д'ябальскага матэрыялістычнага наслання, набліжэння духоўнасці, чысціні, любові ў гэтым свеце, далёкім ад прыгажосці і дасканаласці. Хіба можна пражыць без красы прыроды і кахання? Не дай Божа, каб зноў у ахвяру грамадскаму, калектывісцкаму самазабыўна прыносілася светлае, высокае, інтымнае і паэты заглушалі тыя глыбінныя імпульсы, якія сілкуюць чалавечае жыццё. У гэтым сэнсе імпануе шчырае прызнанне Г. Бураўкіна ў вершы "Я думаю...": "Не, без кахання я не пражыву. Не пражыву я без цябе ніколі..."

"Песні пра каханне" — так красамоўна назваў сваю нізку вершаў А. Сыс ("ЛіМ", 1995, 29 снежня). Яна запамінаецца драматызмам паэтавага светаадчування, спавядальнасцю інтанацый:

**Даруй, любы мой Божа,**
**што вярэджу душу,**
**што абраў бездарожжа,**
**як грашу, так пішу.**

**А папраўдзе: як дзеці,**
**мае вершы растуць,**
**няма сілы памерці,**
**бо яны не даюць...**
*("Песня пра каханне")*

А. Сыс выпявае свае пачуцці тугі і смутку, ён, наракаючы на лёс, выказвае тое, як няпроста яму жыць, кахаць, любіць. Здаецца, у паэта няма самалюбавання, ёсць цяжар душэўнага пакутніцтва, жаданне распавядацца перад Паэзіяй і Богам.

Харaство паэзіі, акрамя ўсяго, у музычнай пластыцы радка, маляўнічай вобразнасці слова. Гукапісам і сінтаксісам гіпнатычна валодае Э. Акулін. Яго лепшыя вершы нагадваюць цудоўныя кветкі, дагледжаныя з любоўю і пяшчотай:

**З занябёсных глыбіняў,**
**адкуль не вяртаюцца птушкі,**
**дзе сасмяглая гліна**
**сумуе без богавых рук,**
**саламяны прамень**
**на паркалевым снезе падушкі —**
**свежазжаты ўспамін —**
**паратунак ад сонных пакут.**
*("Золак")*

Прыцягальнасць паэтычнага радка М. Скоблы ў неардынарнай вобразна-асацыятыўнай выяўленчасці:

**На парэпаных лапах ялін**
**выпаўз ельнік на мокрае ўзлессе**
**і да свежых туліў каляін**
**мяккі сум жураўлінае песні.**
*("Зорных шаляў, віхор, не вагай...")*

Метафарычная вобразатворчасць паэта яркая, каларытная, яна ў лепшых традыцыях беларускага паэтычнага жывапісу: "І дрыжаць ліхтары жаўтаротыя ў гнёздах, сплеценых з мокрых галін" ("Назіркам"). Тут міжволі згадваецца віртуозная жывапісная маляўнічасць У. Дубоўкі і Я. Пушчы, А. Вялюгіна і Р. Барадуліна. Памастацку ўражлівая пейзажная карціна створана ў творы "Чатыры паклоны лесу", які па сутнасці можна назваць міні-паэмай. Лес — адвечны архетып беларуса, яго храм, і таму паэт прычашчаецца красою і мудрасцю зялёнага свету.

Увогуле кажучы, сённяшняя паэзія ўпісала не адну яркую старонку ў паэтычную энцыклапедыю беларускай прыроды. У гэтым сэнсе бывае крыўдна слухаць пра тое, што мастацкае ўвасабленне вобразаў флоры і фаўны, пейзажныя замалёўкі — гэта ўсяго эстэтызаваныя "охі", драбнатэм'е, свядомая ізаляцыя ў сваім мікрасвеце. Даводзілася чуць, што на тэму прыроды лягчэй за ўсё графаманіць, што яна, гэтая тэма, узроставая хвароба маладых ці старых паэтаў. І такое гавораць людзі, якія ведаюць пра пейзажныя шэдэўры Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча! А мо проста дрэнна, раўнадушна чыталі класікаў? Выдатна сказаў Р. Гамзатаў: "Той, хто перакладае мову прыроду на чалавечую мову, той паэт... Паэт добры тады, калі становіцца часцінкай прыроды. Хаця б лістком дрэва". В. Вітка — адзін з такіх выдатных перакладчыкаў мовы прыроды. Яго пейзажная лірыка поўніцца чуйнай любоўю да ўсяго жывога, усхваляванымі экалагічнымі матывамі (вершы "Зацвіла акацыя", "Пчала" і інш.). Вось як пранікнёна, з тонкай гукавой інструментоўкай радка перадае ён музыку вясновага вечара:

**А як нам іграла вячэрняя цішыня —**
**У сотні, у тысячы тонкіх смычкоў!**
**Так бы, здаецца, і слухаў да дня**
**Такі суладны аркестр скрыпачоў.**

**Але неўзабаве складуць яны скрыпкі**
**Да заўтрага зноў у футаралы.**
**Яблыні спяць, сціхлі вішні і ліпкі,**
**І спевакі, што адспявалі харалы.**
*("Каларадскі прымак")*

"Паэт, як вір..." — трапна сказаў Р. Барадулін. Здаецца, гэтыя словы можна цалкам аднесці да Н. Гальпяровіча — паэта ўнутрана самапаглыбленага, одумнага:

**Я ж бы часцінка, бы ад сонца цень,**
**У безлічы і з'яваў і прадметаў,**
**Чакаю кожны раз, што прыйдзе дзень,**
**І з асалодай дзякую за гэта.**
*("Нібыта чмель над кветкаю завіс...")*

Лірыка Н. Гальпяровіча пазбаўленая пазёрства, эмацыянальнай расхістанасці радка. У ёй галоўнае — настраёвасць фарбаў, мяккасць абрысаў верша.

Сёння, кажучы словамі старэйшага паэта В. Віткі, "на полі слова новыя ўжо ратнікі". Сярод іх А. Гуцаў, С. Явар, А. Пашкевіч, К. Мяшкова, В. Угрыновіч і іншыя маладыя. Але хто гэта там выйшаў на літаратурнае поле з тазікамі ды балейкамі? Напэўна, вы здагадаліся: то сваволіць Бум-бам-літ. Маладыя абвяшчаюць, што іх"рух вольны (хутчэй броўнаўскі)", таму "выдумы і творы могуць быць усялякія". Чытайце іхнія творы — і мяркуйце самі, што гэта: эпатаж, гвалт над формай ці нешта іншае... Мне асабіста было весела, пацешна знаёміцца з вершатворчасцю З. Вішнёва, С. Мінскевіча, У. Гарачкі, Н. Шкурдзь і іншых. Часам я нават імкнуўся быць глыбакадумным, каб зразумець, што тут да чаго. Галоўнае, каб гэтая "маладзёжная класава-карпаратыўная субкультура" (С. Чупрынін) не стала эталонам высокіх эстэтычных густаў, не ператварылася ў зацяжную хранічную хваробу. Думаецца, што нехта з сённяшніх бум-бам-літаўцаў рана ці позна задумаецца пра сваё "Узвышша".

У сённяшняй паэзіі — і вострасацыяльнай і на вечныя тэмы — далёка не ўсё яркае, выдатнае, тым больш шэдэўральнае. Недахопаў багата, і многія з іх бачацца такімі старымі, як неба над намі. Тым не менш рызыкну вылучыць дзве асноўныя негатыўныя тэндэнцыі.

Першая з іх — гэта трывіяльнасць, інертнасць паэтычнага мыслення, гладкапіс. Прачытайма наступныя радкі:

**Магчыма, ты цяпер таксама**
**Не спіш і думаеш аб тым,**
**Што наша сувязь — гэта драма**
**З канцом, вядомым нам адным.**
*("Сярод залётных хмар блукае...")*

**Ты па мінулым не тужы.**
**За боль, за вернасць, за чаканне**
**Я зберагу тваё каханне,**
**Як зорку вечную ў душы.**
*("Прабач, каханая, жыццё...")*

Асобу працытаваных вершаў цяжка ідэнтыфікаваць, бо яны пазбаўлены вобразнай яркасці, магнетызму пачуцця. Належаць радкі З. Марозаву — паэту, які, трэба прызнаць, зрэдку ўсё ж здольны выказвацца інтымна, пранікліва-хораша (вершы "Дзе вы цяпер, мае сябры?", "Зноў хмурыны здалёк прыплылі...")

Другая тэндэнцыя звязана з імкненнем многіх паэтаў да празмернай ускладненасці моўна-выяўленчых сродкаў, а то і абсалютна цьмянай, як беспрасветная ноч, вобразатворчасці. Падобныя вершы, праўда, могуць выклікаць алюзію нейкай новай мовы, але больш за ўсё, на маё ўспрыманне, ствараюць эфект сапсаванай мазаікі, нагадваюць вершаваныя практыкаванні, пазбаўленыя эмацыянальна-сэнсавай, духоўна-эстэтычнай глыбіні. Архімудрагельства — прыкмета творчасці В. Куртаніч і В. Аксак, якія часам падаюцца мне паэткамі эміграцыі: "...І выдзеўб мой розум зняўцерпу адзін. Зняўцерпу накрыў мяне іншы" (В. Куртаніч), "і мой гаўбец цяжарны змесцівам", "Вядлее кава, цямнее настоены трунак, на небакраі натурыцца ўскрэснуць святло. Фалдай ядвабу аздобіла змрочны прытулак..." (В. Аксак).

Колькі слоў варта сказаць пра эпас. Час зараз, скажам шчыра, не паэмны і не эпічны. Вось чаму паэма прыкметна лірызуецца, становіцца больш лаканічнай і дынамічнай. Прыкладам тут могуць служыць паэмы В. Зуёнка "Падарожжа вакол двара" і А. Лойкі "На залатым перазове". Паэма В. Зуёнка вянчае ліра-эпічны цыкл з пяці твораў, які па сутнасці ўяўляе паэтычную пенталогію — "Сяліба", "Маўчанне травы", "Прыцягненне", "Лукам'е" і "Падарожжа вакол двара". Заключная паэма напісана на лірычна-спавядальнай ноце, з маральна-публіцыстычным пафасам. Наогул, гэты твор шматпластавы, шматслойны. Цэнтрам сусвету, "павелічальным шклом" у светасэнсаванні паэта паўстаюць вобразы роднага двара і маці:

**Двор без мамы —**
**народ без мовы.**
**Ды агонь святы не пагас.**
**Ёсць душа — будуць вешчыя словы,**
**Двор збірацьме, зняверaных, нас...**

Увесь эпічны цыкл В. Зуёнка — маштабна-філасофская карціна быцця нашага народа, яго гісторыі, духоўных шуканняў.

Паэма А. Лойкі — сімфонія радзімы, у якой гучыць перазвон назваў вёсак і гарадоў, музыка ўзнёслая і драматычная пра лёс бацькоўскай зямлі. Паэт пакланяецца людзям, дрэвам, пейзажам бацькаўшчыны, усяму роднаму, дарагому, з чым звязана памяць асабістая і народная.

Бадай як ніхто іншы, сёння шмат робіць для развіцця філасофскай паэмы А. Разанаў. Ад міні-характарыстыкі рэчыва ў вершаказе "Гліна", змешчаным у зборніку "У горадзе валадарыць Рагвалод" (1992), ён у паэме "Гліна" ўзняўся да эпічна-разгорнутага, шматграннага асэнсавання прыроднага матэрыялу — гліны. Ракурс светапазнання, інакш кажучы, пашырыўся і паглыбіўся. Думка А. Разанава мае важкую гісторыка-эстэтычную і культуралагічную ўгрунтаванасць. Паэт адкрывае "сэнс... невядомы" рэчыва, робіць яго своеасаблівым люстэркам прыроды чалавечай, вопыту і гісторыі чалавецтва.

Адметна ўзвышаецца ў сучасным эпасе гісторыка-філасофская паэма А. Разанава "Усяслаў Чарадзей". Тут думка паэта скіравана да "прадоння мінулых гадоў", спазнання духу гістарычнай асобы, філасофіі быцця чалавека ў сваім часе, у плыні вечнасці. Паэт выяўляе зайздросную інтэлектуальную праніклівасць і асацыятыўную раскаванасць мыслення.

У сённяшняй паэзіі, як бачым, ёсць на што звярнуць увагу, аб чым пагаварыць і нават паспрачацца. Паэзія — тая дарога ў свет трывог, красы, любові, на якой адчуваеш сябе духоўна паўнацэннай асобай. Сапраўдная паэзія для нераўнадушнага чалавечага сэрца "адна, З якой мы робімся шчаслівей, Ці спальваем сябе да дна" (Р. Тармола-Мірскі).

Проза

# СЫЧ

Андрэй ФЕДАРЭНКА

АПАВЯДАННЕ



ВУЛІЦА яшчэ спіць, захутаная ў белы ранішні туман; спіць сваімі шэрымі, вільготнымі ад багатай расы платамі, мокрымі дрэвамі і травою ў агародах, спіць нязвыклай для вёскі цішынёю хлявоў і хат, нават пеўні яшчэ маўчаць, — а Сыч ужо тупае з веласіпедам; сам ідзе сцежкаю паўз плот, дзе цупчэй і не бярэцца да падэшваў мокры пясок, а веласіпед стараецца каціць па траве, каб памыліся расою шыны. Адна рука ляжыць на рулі, другая — прытрымлівае вялікі кашэль* на багажніку, абвязаны чыстай марляю. Ад прахалоды каўнер пінжака ў Сыча падняты, клінковая кепка з гузікам зверху насунутая па самыя вочы; правая калашына, каб пры яздзе не ўкручвалася ў цэп, забраная ў шкарпэтку, як робяць дзеці, таму правы чаравік на тонкай каля костачкі назе здаецца большым за левы. З-пад кепкі зыркаюць то на дарогу наперадзе, то на кашэль пільныя строгія вочы, вочы чалавека пажыўшага, які ніколі ні ў чым не засумняваецца, які цвёрда ведае, што ўсё, што робіць ён, адзіна правільнае і ўсё навокал для яго аднаго: сцежка — каб па ёй ступаць, раса — каб памыць ёю колы веласіпеда, сонца, што неўзабаве выблісне з-за хат — каб абагрэць яго, Сыча, у дарозе.

Вось ужо гадоў дваццаць, з таго часу, як пахаваў жонку, кожны выхадны, у любую пару года, у любое надвор'е Сыч — з кашалём за плячыма, калі непагадзь і бездарожжа і да горада можна дабрацца толькі папуткамі, ці, калі суха, як цяпер, на веласіпедзе — выпраўляецца адным і тым жа маршрутам у няблізкую дарогу. Час нібы забыўся на гэтага чалавека (увогуле, няўмольны час чамусьці заўсёды бывае найбольш літасцівы да людзей педантычных, абмежаваных, якім хоць кол на галаве чашы, а не адступяцца ад свайго разназаўсёды выбранага рэжыму): за ўсе гэтыя дваццаць гадоў Сыч, здаецца, зусім не змяніўся знешне. Такі ж гладкі, высокі, прамы — нават не сагнецца, калі нясе паўнюткі кашэль за плячыма. Веласіпед яго ніколі не ламаецца, тупаносыя, грубай работы чаравікі не стоптваюцца, выхадны касцюм, цесны яму, бо куплены некалі з эканоміі на памер меншым, ніяк не зносіцца, не падзярэцца, не прашмуляюцца аб сядло веласіпеда штаны. Аднак яшчэ больш, чым сваё дабро, беражэ Сыч самога сябе. Увесь век — і да пенсіі, і ўжо гады два пасля пенсіі — на лёгкай рабоце, вартаўніком у легспрамгасе.

У самога дворык, хата, агарод — хоць на выстаўку, чыстыя, акуратныя, дагледжаныя; хата абшаляваная і перакрытая новым шыферам, у хляве свінчо, у загарадцы (каб двор не загаджвалі) куры, грады на сотках высокія, разоры роўненькія, у канцы сотак, дзе ён звычайна на перамену засявае латку зямлі канюшынай і грэчкаю, тры вулеі, пад хатаю — два клёны, з якіх увесну можна браць сок, і ў лес хадзіць не трэба... Калі не на службе, Сыч не прысядзе, з досвітку будзе корпацца то каля вулеяў, то на сотках, тупае па двары, стругае штосьці пад паветкаю, піліць, грукае, прыбівае, паднаўляе... Але напросіць памагчы хто чужы — пальцам не зварухне. Прычым выдумляе абы-што, абы-якую прычыну, і не саромеецца, не баіцца сурочыць: "У мяне кіла!" — гучна, на ўсю вуліцу заяўляе, калі трэба рабіць што цяжэйшае; калі лягчэйшае: — "У мяне рак касьці доктар абнаружыў!.." І ўсе ведаюць, што брэша ў вочы, што ён за ўсё жыццё не знаў, як зуб баліць, што ён кожны год праходзіць медкамісію і з такімі хваробамі, якія сам на сябе выдумляе, ніхто б яго, вядома, на службе не трымаў.

Здаецца, не толькі знешнасць, але й душа яго, успрыманне ім усяго вакольнага разназаўсёды некалі застылі. Чым чалавек жыве, пра што думае?.. Вечна насуплены, да ўсяго недаверлівы, скептычны; адзінае, на што рэагуе, дык гэта на новыя грошы і цэны, да якіх ніяк не прывыкне, усё пераводзіць на "брэжнеўскія". У краме бохан хлеба па тры тысячы, гумавыя боты — па трыццаць тысяч, Сыч паглядзіць, пакрэкча, перавядзе: "Хлеб, лічы, тры рублі, боты — трыццаць... Балдзёж!" Мужчыны збяруцца, загавораць пра палітыку, радыяцыю, пра "калі было лепш, тады ці цяпер?", — яму нічога не цікава. Ссупіць бровы, слухае маўчком і толькі рэдка, калі ў гуморы ці калі папытаюць: "А ты, Іван, што думаеш?", адкажа ўпэўнена:

— А што тут думаць — балдзёж адзін, і ўсё!

Свой старэнькі, першага выпуску тэлевізар, які, аднак, ні разу не быў у рамонце, ён амаль ніколі не ўключае: "А што я там не бачыў, балдзяжу іхняга?" Увогуле, гэтым універсальным словам ён абазначае ўсё, што не разумее, што яму цяжка ўявіць, усё, што недзе далёка і не з ім, а з іншымі. Калі доўга мочыць дождж, ці стаіць суша, ці асабліва ўвосень і ўвесну, калі надвор'е пераменлівае і снег сыплецца разам з дажджом, задзярэ ўверх галаву:

— Нябесны балдзёж!

...Да горада кіламетраў пятнаццаць. Цяпер ясна, чаму Сыч так рана выпраўляецца: едзе ён не намнога хутчэй, чым іншы малады ішоў бы пехам. Паднялося ранняе сонейка, трава на лузе паўз абодва бакі шашы ззяе-пераліваецца бліскучай расою, туман па нізінах і каля лазовых кустоў ружавее, радзее і проста на вачах знікае; роўны асфальт, усё яшчэ мокры, бы пасля дажджу, таксама пакрысе высыхае, шарэе плямамі. Праносяцца то насустрач, то ззаду, абганяючы маруднага веласіпедзіста, машыны, але Сыч і не зірне на іх, едзе сабе з краю шашы роўненька, як па шнурку, а дно яшчэ ніжэй насунуўшы кепку, бо сонца слепіць вочы, адбіваецца ад нікеляванага руля.

Пры самым уездзе ў горад Сыч зноў спешваецца — дужа многа транспарту, небяспечна, — і вядзе веласіпед у руках па тратуары. Ісці недалёка. Цэнтральны гарадскі базар ён не прызнае, яго, Сыча, любімае месца тут, на краіне горада, каля магазіна, дзе таксама заўсёды поўна народу і дзе можна прадаць тавар і хутчэй, і даражэй, чым на галоўным базары. Гандляроў-канкурэнтаў тут звычайна няшмат, заўсёды знойдзецца месца на шырокім, зручным, бы прылавак, парапеце ўздоўж універсама. Сыч стараецца выбраць месца ў адзіноце, няважна, што далей ад уваходу ва універсам, хай нават вось тут, з задняга двара, дзе каля дзвярэй з надпісам "Прыём шклатары" гара парожніх скрынак; галоўнае, з гэтага боку цянёк — і самому здаравей, і для тавару лепш, і шыны ў веласіпедзе не напячэ сонцам... Выбраўшы месца, Сыч рассцілае на парапеце марлю ў дзве столкі, з кашаля выкладае вялікія, карычневыя, адно ў адно яйкі, пучкі вымытай чырвона-белай радыскі, маладой аранжавай морквы, пахучага кропу, шчаўя, дастае палатняны мяшэчак са свежымі лісічкамі і ставіць побач літровы слоік-мерку...

Гандляр ён дзіўны. Папытай у кожнага — кожны ведае, як лепш гандляваць: трэба ўсміхацца, дагаджаць пакупнікам, падлізвацца да іх; на мужчыну можна сказаць "парэнь" ці "бярыце, малады хазяін!", на жанчыну — "дзевушка", да якой-небудзь старой каргі, якая ўсе перамацае, перанюхае і нічога не купіць, усё адно пажадана звяртацца ласкава — "бабушка"... Сыч — не; стаіць маўчком, насуплены, ганарысты, склаўшы рукі на грудзях, пазірае на ўсіх з вышыні свайго росту і, відаць, пагарджае і нават за людзей не лічыць гэтую публіку вакол, якая толькі сноўдаецца туды-сюды і не здатная сабе ж вырасціць корчык цыбулі ці з'ездзіць у лес ды набраць вядро лісічак. Кошт за тавар назначае самы высокі і ніколі не скіне. На справядлівае здзіўленне, што "вунь у той бабкі ўдвая танней", без цырымоніяў раіць: "Дык ідзі і бяры ў яе!" Не кожнаму яшчэ скажа што па чым, перш агледзіць чалавека з галавы да ног, і калі той здасца падазроным, без сумкі ці сеткі ў руках (а такіх тут, каля універсама, таўчэцца свет), таксама спытае:

— А ты будзш браць?

— Адкуль я ведаю. Назавіце цану, тады паглядзім.

— Як не будзеш браць, то нашто табе цана?

Ці ён настолькі ўпэўнены ў якасці свайго тавару, ці проста слова нейкае знае, але яшчэ больш дзіўна, што пры такім гандлі бяруць у яго ахвотна і раскупляюць хутчэй, чым у тых, хто кідаецца дагаджаць пакупніку і адразу ж гатовы скінуць кошт, абы ўзялі.

Распрадаўшы ўсё, Сыч прымацоўвае на багажніку пусты кашэль і няспешна, не зважаючы на людзей вакол, не саступаючы нікому дарогі, кіруецца праз плошчу гандлёвага цэнтра за універсам, за вугал пошты, у двары — туды, дзе на рагу цеснай вулічкі прыляпіўся цагляны, аблезлы, аднапавярховы будынак з бляклай шыльдачкай паміж дзвярыма і адзіным акном: "Бюро рытуальных паслуг". Тут, каля ганка, на лавачцы пад клёнам, сядзіць жанчына ў чорнай хустцы, каля ног — кошык, поўны штучных пярэстых кветак. Як і Сыч каля універсама, так і яна тут амаль кожны выхадны. Пабачыўшы Сыча, жанчына яшчэ здалёк усміхаецца і пачынае папраўляць на сабе чорную хустку і перабіраць ніз сіненькай трыкатажнай кофтачкі.

— Добры дзень вам, — ціхім, нейкім ненатуральна-пакорлівым голасам кажа яна, калі Сыч падыходзіць, і схіляе галаву ў паклоне.

— Добрае здароўе! — так, як вітаюцца ў іхняй вёсцы, адказвае Сыч, прысланяе да клёна веласіпед і стомлена мосціцца побач на лаўку.

— Як торг ваш сёння?

— А, гарадскія, яны табе чорта з'ядзяць на сухі рот! — махае рукою і гучна, як у сябе дома на вуліцы, аб'яўляе Сыч.

Жанчына палахліва ўздрыгвае і глядзіць на яго з дакорам — маўляў, мог бы такі сур'ёзны, разумны, гаспадарлівы чалавек, як Сыч, абысціся і без згадкі нячыстай сілы.

— Душна сёння, — кажа яна, каб перавесці гаворку. — То дождж быў, а цяпер вось пагоду паслаў Бог.

Сыч сцягвае кепку, прыгладжвае ўзмакрэлыя сівыя валосікі на патыліцы, чухае шырокую чырвоную паласу на лбе, пакінутую кепкай, думае нешта, крэкча, хітравата пазірае на жанчыну, нібы збіраецца з духам.

— Так... — пачынае ён, — вось вы, як бы мовіць, верыце...

— І вы верыце, і ўсе вераць, — хутка перабівае жанчына, — у малітвах яко нощчных, і кожнаму па веры яго...

— Хай так, — згаджаецца Сыч, які не ведае ніводнай малітвы. — Тады чаму, скажам, — тыцкае ён пальцам у бок гандлёвага цэнтра, дзе каля камерцыйных кіёскаў таўкуцца людзі, — чаму, скажам, Бог дапусціў такі балдзёж? А?

— Воля твая прасвятая, Госпадзі, і Дзевы Марыі непарочнай Багамацеры, і царства твае нынe і ва векі вякоў... — жанчына, закаціўшы вочы, дробна і часта хрысціцца і неўрастэнічнай скорагаворкай мармыча няўцямныя словы: — і нам, грэшным, плоць твая і навечнае іскупленіе...

Сыч, аднак, цалкам задаволены і сваім пытаннем, і такім адказам. Выслухаўшы, палічыўшы гэты набор слоў за малітву, ён адразу пераходзіць да справы:

— Па чым? — і паказвае на кветкі ў кошыку.

— Даражэй сёння, — вінавата адказвае жанчына, мігам вяртаючыся ў будзённае, практычнае жыццё. — Воск падаражэў. Усё цяпер даражэе па волі Божай... Гваздзічкі па пяць, ружы па восем, рамонкі — па шэсць...

— Тысяч? — як заўсёды, перапытвае Сыч.

— Цяпер усё на тысячы, — як заўсёды, ведаючы Сыча, уздыхае жанчына.

— Лічы, ружы па восемдзесят капеек, а гваздзікі — па пяцьдзесят! — падагульняе Сыч і лезе па грошы ва ўнутраную, знізу пінжака, кішэнь, зашпіленую на гузік.

З кошыка ў кашэль перабіраюцца чатыры крывава-чырвоныя буйныя ружы з ярка-зялёнымі, глянцаватымі ад воску лістамі, чатыры пластмасавыя рамонкі — белае з жоўтым, нібы разрэзаны напал вараныя яйкі, чатыры пунсова-паркалёвыя гваздзікі, да таго падобныя да сапраўдных, што рука цягнецца абламаць са сцяблін малюсенькія нераскпукнутыя бутончыкі, якія звычайна бываюць і на сапраўдных, жывых кветках.

Цяпер, калі так удала зроблена асноўная справа, асталося зазірнуць у краму — і дамоў.

У вялікі універсам Сыч не заходзіць: адно, што веласіпед на вуліцы не кінеш, а другое, "балдзёж" там... Перш выберы ў аддзеле, тады на касу, тады зноў у аддзел, ды ўсё запомні, ды кожнаму скажы. Ён любіць маленькую, пры выездзе з горада, драўляную крамку, падобную на іхнюю вясковую; там (Сыч лічыць) і выбар большы, і веласіпед можна ўкаціць з сабою, паставіць каля дзвярэй — ніхто сварыцца не будзе, і прадаўшчыц усяго дзве, а галоўнае, казаць шмат не трэба. Глянеш на прылавак, тыркнеш пальцам, і прадаўшчыца ўжо ведае, што чалавеку трэба: хлеба пару боханаў, селядзец, пляшку гарэлкі, кавалак каўбасы...

Назад ехаць лягчэй, сонца свеціць не ў вочы, а збоку, і шаша ад горада як бы патроху збягае ўніз і ўніз. Але Сыч рухаецца акурат з такою з хуткасцю, як і ў горад, — марудна, упарта, бы танк; сінхронна круціць педалі, і проста дзіўна, як з такой хуткасцю яшчэ ўмудраецца трымаць вертыкальна веласіпед. Ды вось, урэшце, паваротка на вёску, адсюль нават відаць бліжнія хаты. Аднак Сыч, спусціўшыся з насыпу шашы, кіруецца не на гэтую вясковую дарогу, а напрамкі праз луг — балазе, расы ўжо няма і ў паміне, — па ледзь прыкметных у траве слядах ад колаў трактара. Там сярод лугу, непадалёку ад хат, якраз насупраць Сычовых двух клёнаў, віднеецца агароджаны зялёны пагорак могілак.

Даўно пераваліла за поўдзень. Над нагрэтай травою ходзіць гарачымі хвалямі паветра, дрыжыць у сiняватай смузе, аж вачам балюча... Ціха, толькі пераспелая пруткая трава стракоча аб спіцы ды аднастайна трашчаць конікі... Сыч абыякава аглядае гэтую летнюю лугавую раскошу, гэтае багацтва самых розных кветак вакол. Кветкі, не паспееш сарваць, як у руках завянуць...

Трактарны след падводзіць прама да могілкавых варотаў, за якімі адразу ж, як зайсці, у куточку пад маладой, абцярэбленай знізу елкаю — акуратная, нядаўна пафарбаваная ў вясёла-блакітны колер агароджа магілкі. Магілка дагледжаная, зямля на ёй жоўтая, толькі дзе-нідзе прабітая свежымі іголкамі маладой травы. З-пад выпуклага авальнага шкла на помніку, зробленым у выглядзе звычайнага аб'ёмнага трохкутніка з нержавейкі, з крыжыкам зверху, глядзіць трывожна, неяк замучана худы жаночы твар, копія даўняй павялічанай няякаснай фотакарткі. Вось ужо дваццаць гадоў з адным і тым жа выразам глядзіць з помніка гэты твар... Сыч прыбірае з магілкі пацямнелыя за тыдзень, паліналыя кветкі, нясе і без жалю выкідвае цераз плот у ямку, куды зносяць вянкі, розны друз, калі на Радаўніцу прыбіраюць могілкі. Тады кладзе пад помнік свае, "свежыя" кветкі, сядае каля магільнага грудка на цёплую, прытаптаную траву, дастае з кашаля свой слоік-мерку, дзе на дне, сярод жмені забракаваных пакупнікамі чарвівых лісічак ляжаць два трэснутыя, але яшчэ цэлыя яйкі, дастае пляшку, каўбасу; вырваўшы пук травы, праціpae ўзятую з-пад помніка чарачку.

Перад тым, як выпіць, доўга ўглядаецца ў партрэт, і твар яго пакрысе пачынае змяняцца, спаўзае з яго маска заўсёднай упэўненасці, і хутка ўжо замест скептычнага, ганарыстага, такога моцнага для сваіх гадоў мужчыны-Сыча сядзіць каля магілы прыгорблены, расслаблены, адзінокі, няшчасны чалавек, чалавек, які не разумее нічога, баіцца і гэтага жыцця і яшчэ больш — блізкай смерці, і адзінае, што ён можа — прыходзіць і туліцца вось да гэтай, такой жа адзінокай, як сам, магілкі...

— Вось, Алена, — ціха кажа, трымаючы чарачку ў здаравеннай далоні, нібы сабраўшыся казаць тост, — вось ізноў я, Лена... — і вечная коснаязыкасць не дае яму нават у думках звязна пагаварыць з жонкаю.

А пагаварыць, калі б умеў складна, хацелася б багата пра што!.. Пра халодны ўжо дваццаць гадоў ложак, пра тое, што так і не забыўся ён на сваю Алену, не здрадзіў ёй, не ўзяў нікога, не пайшоў у прымы; расказаць, які цяпер у горадзе ды і ўвогуле ў свеце "балдзёж", паплакацца на іхняга бяспутнага Юрку, сына, пра якога ўжо злосці не хапае думаць, які так і не ўзяўся за розум, хутка сорак, трэба, каб ужо ўнукі былі, а ўсё не жэніцца, і ў вёску вачэй не кажа, не трэба ні бацька, ні матчына магілка... А нядаўна які фокус выкінуў — прыслаў паштоўку з 9-ым мая... з Германіі! Як гэта чалавек можна апынуцца ў Германіі?! І што там, у той Германіі, можна рабіць?..

Патроху, з кожнай выпітай чаркай Сычу робіцца лягчэй, пачынае здавацца, што і не трэба ніякіх слоў, што Алена і так усё разумее і ківае яму спагадліва, з жалем, з партрэта... Ад гарэлкі і расчуленасці ў Сыча выступаюць слёзы на вачах і ён, каб прамаргаць іх, глядзіць у высокае бела-сіняе неба, тады, калі вочы высыхаюць, углядаецца ў бок вёскі і там, на вуліцы, каля калодзежнага "бусла" бачыць дзвюх жанчын. Сыч ведае, што яны таксама бачаць яго на могілках, як і ведае і тое, пра што яны могуць казаць цяпер:

— Радаўніца ў Сыча!

— У яго кожны выхадны Радаўніца.

— А што чалавеку: ні сям'і, ні хваробы — трэба ж нейкая забаўка!

Але далей абгаворваць не будуць — пабаяцца. Гэта ж як чары хто накінуў на чалавека: дваццаць гадоў так помніць і любіць нябожчыцу-жонку, так даглядаць магілку і амаль кожны выхадны насіць на яе кветкі!.. І вось за гэтую боязь, якую ён усяляе ў аднавяскоўцаў, — спракавечную боязь звычайных людзей перад рознымі юродзівымі, знахарамі, ведзьмакамі, "кручанымі" — і даруецца Сычу яго прагнасць, брахня ў вочы, незразумеласць, нелюдзімасць... Зачэпіш яго, скажаш якое слова не ў час — мала што, яшчэ хваробу накіне...

А ён вып'е, закусіць, пагаворыць са сваёю Аленаю, павышморгвае-праполе з мяккай зямлі іголачкі травы, — а ў думках пераносіцца ўжо ў наступны выхадны, загадае, якая будзе пагода, можа, гуркі першыя падыдуць, мёд яшчэ ёсць, сала, куры добра нясуцца, лісічак яшчэ па нізінах кош можна назбіраць... і зноў у горад, па кветкі.

---

*Кашэль (дыял.) — прамавугольны, сплецены з ліпы кораб; носяць за плячыма, перакінуўшы на грудзі шырокую шлейку.*

# ДАРОГІ РАДАСЦІ І БОЛЮ



**Вядомаму беларускаму мастаку, гомельскаму жывапісцу Роберту Яфімавічу Ландарскаму — 60 гадоў. Нарадзіўся ён у сям'і франтавіка. З маленства будучы мастак любіў белую кіпень садоў, луг, поле. Імклівы бег коней... З малых гадоў Роберт Ландарскі не цураўся і вясковай працы, дапамагаў бацькам, ды і калгасу, у час школьных канікулаў.**

**— Сёння я жыву ў вялікім горадзе, — гаворыць Роберт Яфімавіч. — Але ўсё ж, як магнітам, мяне цягне ў вёску, да шчырых сейбітаў, да сціплых сельскіх пейзажаў. Цягне яшчэ і таму, што ў сённяшняй вёсцы, нягледзячы на пэўныя цяжкасці, па-ранейшаму жывуць і працуюць людзі сумленныя, сардэчныя...**

**"Вясновыя клопаты хлебаробаў" — адна з карцін мастака на гэтую тэму. Галоўны яе герой — чалавек працы. Душэўнае багацце простага чалавека — працаўніка, непарыўная сувязь і пераймальнасць пакаленняў — галоўная ідэя гэтага твора. Яна мастаком выражана і ў іншых палотнах: "Вясновая сяўба", "Касавіца", "Уборка бульбы".**

**Цыкл работ Роберта Ландарскага яшчэ носіць і лірычны характар: "На Прыпяці-рацэ", "Травы лугавыя", "Жаўрук".**

**— Я, як чалавек жыццярадасны, імкнуся стварыць творы ўзнёслыя і аптымістычныя па настроі, — дзеліцца думкамі Роберт Яфімавіч. — Вясковы чалавек заўсёды з'яўляўся носьбітам упэўненасці ў будучыні. У гэтым яму дапамагаюць прыродная кемлівасць, працавітасць, той жа гумар. Ён ніколі не адступаў ад той справы, якой служыў і сэрцам і душой.**

**Да вясковай тэматыкі ў творчасці Р. Ландарскага арганічна далучаецца пейзажны жанр. Сотні работ мастака аб прыродзе — гэта магутны гімн роднаму краю. Мастак асабліва любіць ціхія маляўнічыя куточкі Беларусі, якую ён усю аб'ездзіў.**

**Пейзажы Р. Ландарскага "Бабіна лета", "Вясна на Палессі", "Бярозавы гай", "Вячэрняя мелодыя", "Звон восені", "Коні на лузе" і многія іншыя надзвычай лірычныя. На іх — высокі блакіт неба, павольная плынь рэк і рачушак, люстраная роўнядзь азёр, зялёныя шаты лясоў...**

**Шмат твораў прысвяціў мастак і гераізму нашых людзей у гады мінулай вайны. Гэта карціны "Чэрвень 1941 года", "Балада пра маці", "Вёска Радуга ў маі 1945 года". У іх — порах і смерць, подзвіг і неўміручасць. І свята Вялікай Перамогі!**

**У пачатку 80-ых гадоў Роберт Яфімавіч аблюбаваў мясціны ля Камарына на поўдзень ад яго на Дняпры. Мясціны, што і казаць, надзвычай прыгожыя. Мастак ствараў пейзажы радасці, святла, мажору. І вось грымоткі выбух Чарнобыльскай АЭС над тымі здзіўляючымі па красе краявідамі. Р. Ландарскі, як сумленны мастак, блізка прыняў да сэрца боль Чарнобыля, свайго народа, стварыў аб страшнай катастрофе серыю работ. З яе трэба выдзеліць трыпціх "Боль мой Беларусь".**

**Творы Р. Ландарскага экспанаваліся ў Мінску, Маскве, Бранску, Чарнігаве, Германіі, Францыі, Аўстрыі, Фінляндыі, Польшчы, Чэхаславакіі. Іх набылі музеі Мінска, Гомеля і іншых гарадоў.**

**Асабліва неабходна адзначыць дзейнасць Роберта Яфімавіча ў Саюзе мастакоў Беларусі. Тройчы ён выбіраўся старшынёй праўлення Гомельскай абласной арганізацыі і членам прэзідыума праўлення СМ Беларусі. Вялікую работу вёў і вядзе ў фондзе культуры, шмат зрабіў для падрыхтоўкі і выхавання творчай моладзі. Узнагароджаны шматлікімі граматамі, у тым ліку Вярхоўнага Савета рэспублікі. Жадаем яму шчаслівых дарог па роднай Гомельшчыне, зычым здароўя і шчасця.**

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ,**
**мастацтвазнаўца**

Выставы

# ЧАКАННЕ ПРАДВЕСНЯ Ў ЧАС РАЗВІТАННЯ

БОСЫЯ стаяць на снезе — сімвал мінулагодняй выставы суполкі "Пагоня". Босыя — гэта ўжо не сляпыя, што ідуць за павадыром, і не тыя, што назіраюць за жыццём з канапы праз рэнтген блакітнага экрана. Босымі на снезе стаяць з балеснай душою, на мяжы адчаю і вялікай надзеі, з неймаверным чаканнем прадвесня і нязгаснай прагай працы. Неабыякавыя. Творцы. Мастакі.

Чамусьці так заўжды складвалася, што наперадзе грамадства аказваліся менавіта яны, "босыя" і тым не меней моцныя. І ніякія сцвярджэнні афіцыёзу аб "задураным" чалавеку, які найперш клапоціцца пра свой страўнік, а ўжо пасля, можа, і збярэцца ўспрымаць нейкую там "прыгажосць на паперы", не маюць рэальных падстаў. Кожны народ шануе ўсё, што застаецца сведчаннем яго гісторыі і найперш мастацтва. Кожны кавалачак здрукаванай паперы, накід, замалёўка, няскончаны малюнак даносіць ён думкі, надзеі і дзеі мінуўшчыны, што прайшлі праз творчыя і душэўныя пакуты мастакоў, і таму яны такія сапраўдныя, прыцягальныя, шчырыя і заўжды сучасныя.

Зрэшты, чым сённяшнія творцы не "босыя"? Абдзеленыя пашанаю роднай зямлі і памятлівасцю свайго ж народа. Знясіленыя бесперспектыўным змаганнем з яго ж недасведчанасцю і недальнабачнасцю. Спрадвечныя шукальнікі выйсця, шчырага слова і дасціпнага вобраза, галоўнага, што да глыбіні кранае сэрца кожнага, нават самага шараговага. Таго неакрэсленага паняцця "ідэал", што цяпер набывае сапраўднае, непаўтор-нае па прыгажосці і адухоўленасці, рамантычнае гучанне, якое адзінае можа падштурхнуць людзей глянуць на сябе і сваю культуру са спадзяваннем і гонарам.

У кожнага з нас баліць сэрца за радзіму, кожны з нас адчувае сучаснасць бессмяротнага паланеза Міхала Клеафаса Агінскага. Праўда, і ён развітваўся з радзімай усё ж са спадзяваннем — вярнуцца, хоць у думках...

Мастацтва сёння — як індыкатар болю і адчайнага стану грамадства. Мастацтва сёння, нават пры ўсёй безаднoснасці да форма творчасці, не можа існаваць у вакуумнай прасторы. Яно напаўняе і тым самым фарміруе нашу сучаснасць, штораз на крок апярэджваючы непрадказальныя падзеі сённяшняга дня. І гэтым выконвае сваё прызначэнне — грамадскае і грамадзянскае.

Тым і адметная выстава суполкі "Пагоня", якую штогод чакаем ужо 25 сакавіка (дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі) у вялікай зале Палаца мастацтваў. Праўда, штогод чакаем і яе небыцця, што таксама можа стацца акцыяй, толькі ўжо з афіцыйнага боку. Зрэшты, бель і чырвань, карыкатуры А. Карповіч (паспяховыя і з'едліва-трапныя накіды палітычных партрэтаў), так і не адкрытая, але адлітая ў бронзе дошка А. Шатэрніка для дома, дзе была абвешчана незалежнасць БНР, нязменная калектыўная інсталяцыя ды і само адкрыццё выставы з выступамі З. Пазняка, В. Быкава — усё гэта вяртае нас да сучасных палітычных варункаў, якія пры самым найлепшым раскладзе заўжды жорсткія. Ачмурэлая ад усіх падзей свядомасць чакае ўжо іншага, яна стамілася ад агорклай бесперспектыўнасці, ад звыклага непрыемнага асадку безнадзейнасці. І мы разам з Агінскім пачынаем таксама развітвацца з радзімай — ставім куфар, чамаданчык, бутэльку, чарку ды лаўку, каб прысесці перад доўгай дарогай — толькі вось куды?.. Падкідваем яшчэ дарожны капялюш з птушыным пяром — бывай... Усё нібы звычайна і проста, без слёз і слоў, з нявыказаным безнадзейным адчаем, што так і застываў у душы беларусаў, якія шмат гадоў таму мусілі пакідаць радзіму. Мусіць, зноў гэткая горыч становіцца сімвалам — гэтым разам маладой — Беларусі. Работа А. Пушкіна так і называецца "Бывай, радзіма". І няхай яна не афіцыйны сімвал выставы, яна — той апокрыф, які дапаможа нам у пошуках саміх сябе. Развітаемся, каб прыдбаць нешта новае, каб вярнуцца акрыленымі і моцнымі, каб зноўку заўважыць фарбы бацькаўшчыны, яе прыгажосць і знайсці супакаенне збалелай душы. Напярэдадні адкрыцця выставы "Пагоні" А. Пушкін спрэзентаваў у Віцебску сваю новую акцыю, якая, пры пэўнай штучнасці, сталася якраз працягам ідэі ягонага твора — пошук новай супольнасці творчасці, новага шляху да беларушчыны нават у бязмежным авангардзе.

Хадзіла па выставе, пазнаючы імёны і творчыя почыркі, ловячы крайком размовы пра мажліва недастатковую палітычнасць экспазіцыі... І раптам апынулася ў дзіўным, абсалютна нечаканым адчуванні чысціні, якая зыходзіла ад скульптурных партрэтаў Марыі, Рагнеды і Ефрасінні з белага-белага шамоту Т. Васюк, ад замілаваных пейзажаў Я. Батальёнка, керамічных фантазій Л. Талбузіна, ад чысцюткага бела-блакітнага габелена П. Бондара. Можа, гэта наш адзіна магчымы сёння шлях — праз ачышчэнне, праз дакрананне да светлай, чыстай, белай, такой да болю знаёмай і такой да здзіўлення новай Бацькаўшчыны? Да занатавання дробных, нязначных на першы погляд імгненняў яе існавання, быццам ў ёй чалавека ва ўсёй ягонай існасці, забытай і знікшай за паваротам часу?

Нездарма, мусіць, на выставе так многа белага колеру, "цёплых" матэрыялаў — дрэва, гліны. Нездарма такія пазнавальныя многія "сюжэты" работ — крыжы і капліцы, трава, анёлы і вялікія, як у дзяцінстве, дрэвы (У. Васюк, "Прывіды майго маленства"). А бульба і цыбуля на прыз-бе, дровы, страха хаты ў серыі Р. Сітніцы "Святло адвечнае", выпісаныя з такой дакладнасцю, нават далікатнасцю, з такім замілаваннем, што да іх хочацца дакрануцца, адчуць, як пахне пасля дажджу старое дрэва, як праціснулася з-пад ганку кветка, як азванчаецца страха вясною птушыным пагалоссем. Малая радзіма, без якой немагчымы палітычныя пераўтварэнні, якую мо і няварта абагаўляць, але без якой проста немагчыма дыхаць...

Выстава "Пагоні" — гэта мелодыя, высокая і чыстая нават у творах авангарднай моладзі. І не дысанансам, а гармоніяй загучалі "функцыянальныя падтэксты" В. Маркаўца і А. Разанава, гэтыя вялікія палотны і знакавыя сістэмы — магічныя сімвалы далёкай мінуўшчыны, знакі продкаў і сучаснай цывілізацыі, тыя абрысы бацькаўшчыны, якія натуральна ўпісваюць у тэхніцызм стагоддзя сякеру, плот, разрэз магутнага дрэва ("Страх", "Сумленне", "Цвік", "Піла і сякера"). Гэтак жа натуральна суіснуюць на выставе натуралістычныя краявіды П. Шарыпы, У. Сулкоўскага, У. Хадаровіча і колеравыя плямы і асацыяцыі С. Цімохава, авангардныя фантазіі П. Русака (дыпціх "Вой і плач"), трохі штучныя, але пажаноцку вытанчаныя творы М. Шматавай ("Малітва", "Настрой"). І ўсё гэта разам зайграла — колеравай радасцю, якая ў любым выпадку цалкам выключыла нават магчымы папрок у аднабокавасці ці запалітызаванасці, у бяскроўі і шэрасці. Новыя крылы выраслі не толькі ў сталых і прызнаных. Загучалі імёны маладых, напрыклад, К. Дзягілевай, зусім маладой, таленавітай мастачкі з пластычнай палітрай вобразаў ("Мелодыя адраджэння"); Т. Маркавец, якая поруч з бацькам і цёткай, габеленшчыцай Н. Маркавец-Бартлавай, дэбютавала на выставе выдатнымі, паўнавартас-



*На адкрыцці выставы суполкі "Пагоня" З. Пазняк дэманструе ўзор друкаванага пашпарту БНР.*



*А. Пушкін. "Бывай, радзіма".*



*Р. Сітніца. "Святло адвечнае. III".*



*Т. Васюк. "Ефрасіння".*



*А. Марачкін. "Зомбі" (фрагмент).*

ными габеленамі.

І раптоўна пачынаеш, гледзячы на даўно знаёмых майстроў, бачыць іх новымі і акрыленымі. Загараецца колеравым россыпам "Жнівень" А. Мацієвіча, высвятляючы яго каларытную манеру пісьма, часта, праўда, схаваную за задужа цёмнай колеравай гамай. Іскрацца, лунаюць у паветры неймаверна лірычныя, яркія жаночыя вобразы П. Багданава ("Спакушэнне ліставеем", "У ноч на Каляды"), дзе мастак нібы пераўзышоў самога сябе. Зусім нанова, праз фантастычныя напластаванні чытаецца беларускі вобраз у насычаным жывапісе С. Рымашэўскага ("У краіне пагоркаў"). Канкрэтызуецца праз пластыку беларускіх народных посцілак, праз паганскія сімвалы, праз някідкія колеры роднай прыроды А.Марачкін ("Снегавік", "Кароль", "Страла", "Вестка", "Вакно", "Знак"), які, адышоўшы ад партрэтна-палітычнай пластыкі, знайшоў сябе нечакана ў абагулена-абстрактных вобразах і філасофскіх асацыяцыях. Даніна палітычным амбіцыям у ягонай творчасці ўсё больш яўна саступае месца шчырым развагам і жывапіснай пластыцы...

Вось і замкнулася кола экспазіцыі. Светла на душы. Можа, і праўда, удалося мастакам знайсці тое сапраўднае, што дае ачышчэнне, адчуванне незвычайнай асалоды і замілаванасці і — доўгачаканага выратавання? Стварыць той самы ідэал, які мусіць быць і рамантычна прыгожым, і натхняльным. Натхняльным для ўсіх творцаў, нягледзячы на іх прыналежнасць да сацарту альбо авангарду. Бо на самай справе значэнне мае толькі адно — мастацкі ўзровень твора і шчырасць укладзеных у яго пачуццяў.

**Наталля ЖОГЛА**



*Ю. Гудзіновіч. Доспех гусарскі XVII ст.*
Здымкі М. ЖЫЛІНСКАЙ

# ПАМЯЦІ ТАВАРЫША

Не стала Уладзіміра Бойкі. Таленавітага журналіста, мастацтвазнаўцы, крытыка, мастака. Не стала мудрага, чулага чалавека, абаяльнасць якога было дадзена адчуць шматлікім яго сябрам і калегам. Мы сябравалі з ім і чыста пачалавечы, і творча, будучы аднадумцамі, амаль трыццаць гадоў. Не праміну ўспомніць і такую немалаважную для сябе дэталь — Валодзя Бойка быў маім, так бы мовіць, хросным бацькам, надрукаваўшы ў свой час у "ЛіМе", калі ён там працаваў у аддзеле выяўленчага мастацтва, мой першы ў жыцці артыкул. Потым былі незлічоныя сустрэчы, гутаркі, сяброўскія дыскусіі ў Саюзе мастакоў рэспублікі, дзе ён быў адказным сакратаром, у секцыях крытыкі і мастацтвазнаўства, на шматлікіх выставах, вернісажах, у майстэрнях мастакоў з многімі з якіх Уладзімір Андрэевіч ладзіў цесную дружбу.



Ён быў вельмі чыстым і прыстойным чалавекам, які высока нёс імя беларускага інтэлігента, ні разу не запляміўшы яго, ні разу не зрабіўшы ўчынку, якога можна было б саромецца. У Валодзі не было ворагаў, хоць ён ніколі не паступаўся сваімі прынцыпамі, сваімі поглядамі ў мастацтве. Проста ўмеў ён сказаць праўду чалавеку не крыўдзячы яго. І наогул, быў Уладзімір вялікім чалавекалюбцам. І гэта праяўлялася ў яго артыкулах, яго выступленнях па радыё і тэлебачанні, а ён быў выдатным папулізатарам мастацтва, ды і проста ў зносінах з таварышамі.

Хто з нас, яго сяброў, не ведаў, якім адданым і любячым мужам ён быў, у якой згодзе і любові жыў са сваёй Ліляй, яго, можна сказаць, другой паловай, мудрай дарадцай, душэўным сябрам.

Застаецца толькі здзіўляцца Валодзінай мужнасці, калі, будучы смяротна хворым і ведаючы пра гэта, ён паранейшаму апантана працаваў — афармляў кнігі (і з асаблівай любоўю — незабыўнага Алеся Адамовіча), выступаў, хадзіў на выставы мастакоў, сустракаўся з сябрамі.

Лодка Харона адвезла на той бераг яшчэ аднаго харошага, мілага, цудоўнага чалавека. Вечны спакой табе, наш дарагі Валодзя. Зробленае табой застанецца з намі, у нашай культуры, на ніве якой ты так шмат зрабіў. Бывай.

**Барыс КРЭПАК**

**Ад рэдакцыі.**

Шмат гадоў Уладзімір Андрэевіч Бойка папрацаваў і ў "ЛіМе", быў нашым калегам, сябрам, таварышам. Усе мы далучаемся да згаданых вышэй цёплых слоў развітання з Валодзем. Памяць аб ім будзе доўга жыць у сэрцах усіх, хто яго ведаў і любіў.

**ЛІМАЎЦЫ**

# ДЗЯКУЙ, ШВЕЙЦАРСКІЯ СЯБРЫ

Для мінчан знаёмства з мастацтвам Щвейцарыі пачалося з выставы Сусаны Баўман. Выстава гэтая адбылася ўжо даўнавата, але, да гонару нашага, не прайшла для мастачкі бясследна. Сусана з'ездзіла на Беларусь і зразумела, што пакінула тут сваё сэрца. Так, з яе актыўнага ўдзелу і распачалася вялікая акцыя швейцарскага мастацтва на Беларусі — мастакі Аб'яднання арыгінальнай графікі горада Цюрыха арганізавалі "перасоўную" выставу дваццаці пяці мастакоў з шасцідзесяці работ.

Аб'яднанне было арганізавана ў 1948 г., каб падтрымаць графічную творчасць у краіне. Цяпер яно складаецца з 1500 сяброў, не звязаных ніякім стылёвым напрамкам, мастацкім накірункам, адзінае — патрабаваннем бесперапыннай дзейнасці.

Выстава, прывезеная швейцарскімі графікамі, ужо прайшла з вялікім поспехам у Віцебскім мастацкім музеі і днямі распачала сваю работу ў Нацыянальным мастацкім музеі РБ. Вельмі прыкметна ва ўсім гэтым тое, што Нацыянальны мастацкі музей (дзякуючы грамадскай і творчай актыўнасці Сусаны Баўман і з дабрачыннасці такой вядомай установы як "Про Гельвецыя") атрымаў сапраўдную "гуманітарную дапамогу" — пяцідзесяцітомную бібліятэку выданняў па мастацтве Швейцарыі. А ўсе паказаныя на выставе графічныя аркушы будуць пакінуты на беларускай зямлі — пароўну падзелены паміж Нацыянальным мастацкім музеем і Віцебскім мастацкім музеем — у якасці падарунка швейцарскіх мастакоў.

Выстава швейцарскай графікі сапраўды адметная ў коле экспазіцый замежнага мастацтва. Адметная рэальнымі магчымасцямі распачаць дыялог паміж нашымі культурамі. Выставу беларускіх мастакоў ужо чакаюць у Швейцарыі, і гэта шанс для працягу мастакоўскіх сустрэч. Не менш цікавае і наша знаёмства са швейцарскім мастацтвам, якое вылучаецца ў Еўропе тым, што не існуе ў выглядзе нечага адзінага нацыянальнага. Шматлікія мастакі з "нямецкай" часткі краіны арыентаваны на нямецкую культуру, адпаведна жывапісцы і графікі "французскай" і "італьянскай" частак скіроўваюцца да Парыжа і Мілана. Выстава ж, прадстаўленая Аб'яднаннем арыгінальнай графікі, больш-менш аб'ядноўваецца стылёва, таму што мастакі паходзяць з адной, "нямецкай" часткі Швейцарыі. Экспазіцыя павінна па задуме Швейцарскага савета мастацтваў стаць усяго толькі ўводзінамі ў тэму "Мастацтва ў Швейцарыі", не вылучаць ніякіх напрамкаў і пакінуць для гледача адкрытым пытаннем: ці існуе сапраўды швейцарскае мастацтва?

Экспазіцыя падабрана надзвычай прафесійна. Графічныя аркушы швейцарскіх мастакоў прадставілі ўвесь спектр тэхнічных магчымасцяў мастацтва ад дрэварыта да галаграфіі, усю разнастайнасць тэматыкі ад філасофскіх разважанняў Томаса Люхінгера ("Айцец і сын") да абстрактна-прасторавых пабудоў Корсіна Фонтана ("Кампазіцыі з кругам"). Натуральна, што позірк спыняецца на шасці аркушах Хрысціны Дзюбуа, прысвечаных Чарнобылю, вартых увагі хаця б з-за звароту мастачкі да балючай тэмы. Паглядзіш на віртуозныя аквантыты Уве Вітверы, асабліва работы "Горад А" і "Карола"; выдатныя дрэварыты Франца Эгеншвілера, якія колеравай гамай блізкія да японскіх матываў; на бесперапынна бягучыя лініі работ Гаспара Мельхера, што нагадваюць, нягледзячы на фантастычнасць назвы — "Аранта", прыматы трыснёг на ўзбярэжжы ракі — і абыякавым на выставе не застанешся. А ці ж не ў гэтым асноўная вартасць мастацтва?

**Н. ШАРАНГОВІЧ**

# ПЕРАВАГА ТАЯМНІЦЫ

*(Прыцяг. Пачатак на стар. 1)*

**— Уладзімір Аляксеевіч, вы так шмат герояў-каханкаў ігралі. Усё жыццё. І што ж, ізноў за старое?.. А калі сур'ёзна, дык якая яна для вас — сустрэча з роляю?**

— Разгадка таямніцы. Як знайсці там, у Гогаля (і ў любога аўтара) чалавека, пры гэтым не страціўшы Гогаля і самога сябе. Пакутліва бывае, не схаваю. А тое, што герояў-каханкаў іграў — дык згодны, аднабакова мяне эксплуатавалі. Затое ў спектаклі "Вайна пад стрэхамі" паводле Адамовіча рэжысёр Шчарбакоў упершыню даў мне ролю здрадніка. Сапраўднага здрадніка Казіка Жыгоцкага. Ролю характарную і неадназначную. Віцебск быў скалануты! Крытыкі, нават тыя, што ўхвалялі, пыталіся, на што мне трэба здраднікаў іграць. А пасля фільма "Фруза" (Уладзімір Аляксеевіч зняўся ў 25 фільмах. — **Ж. Л.**) дужа не залюбіла мяне жаночая частка гледачоў. Пераважна тая, што не з Віцебска і ў наш тэатр не ходзіць. Сыграў, казалі яны, добра. Але навошта такую жанчынку (Фрузу) кінуў? Здраднік! Так атаясамілі мяне самога з маім героем.

**— А як вы разгадвалі сваіх персанажаў "ад імя Леніна", або падобных камуністаў ці сацыяльных герояў?**

— Там мала чаго патрабавалася разгадваць. Дый жа камуністы — чалавекі таксама. Дзеці часу. У іхнім часе я іх і пакінуў...

**— Самы ваш нечаканы, нетрадыцыйны герой бадай што ў "Хаме" Элізы Ажэшкі?**

— Для Ажэшкі спатрэбілася ўсё, што назапасіў і на сцэне, і ў кіно. Барыс Уладзіміравіч (Эрын, рэжысёр-пастаноўшчык "Хама". — **Ж. Л.**) часцяком даваў мне ролі нечаканыя. І "Хама" я рэпеціраваў пакутліва, карпатліва, і Павел мой вынікнуў з-пад друзу спробаў ды намаганняў нечакана. Нават для Барыса Уладзіміравіча. Мы ўжо выйшлі праганяць спектакль, нерваваліся разам са Святланай Акружной, партнёркай. Тут для Эрына і ўзнік Павел. "Валодзя, зайдзі да мяне ў гатэль", — Эрын увесь час жыў у гатэлі. Я зайшоў. Барыс Уладзіміравіч, усё яшчэ збянтэжаны, дастае... бутэлечку. "Каб выпіць за адкрыццё, — кажа. — Цяпер я спакойны. Я цябе ўжо не чапаю". Самая дарагая мая роля! Філосаф ад прыроды, сялянскі інтэлігент. Сам пра гэта не ведае. А як свет адчувае! Для яго ўсё — прырода, людзі — загадкавае. Усё трымае свае таямніцы. Я іграў не для залы. Не ў масу гледачоў, як казалі. Столькі аддаваў людзям, а яны мне яшчэ больш на сцэну вярталі, — гэта на апішаш. Яны нават апладзіраваць пачыналі не адразу. З залы ішлі — кожны сам... у сабе. Роля — абсалютнае адчуванне... чысца... І дабра. Якога ўсім бракуе. Заўжды.



**— Чаму вы аддаяце перавагу — новаму вобразу, характару ў новай драматургіі або чамусьці класічнаму, вядомаму, папулярнаму?**

— Усё залежыць ад рэжысуры. У любым выпадку аддаю перавагу... таямніцы. Каб было што адкрываць. А тэатральнымі таемнасцямі можна бавіцца ўсё жыццё. У тэатры. Калі ж роля трапляе павярхоўная... Бывае, і вышэй за галаву скачу, і дагары нагамі...

**— У вас тэатральная сям'я. Жонка — актрыса Коласаўскага тэатра, дачка да нядаўняга часу працавала ў Альтэрнатыўным тэатры ў Мінску. Сям'я ўплывае на ваша... разгадванне таямніц? На работу?**

— Я толькі слухаю. Не слухаюся. Сабе зрэдчас дазваляю што-небудзь параіць абедзвюм, але потым дрэнчуся. Навошта ўлез? Мо каб чалавек шукаў самастойна, ён бы і на адкрыццё натрапіў.

**— А як вы адчуваеце сённяшні тэатр?**

— Усё менш роляў, здатных скалануць. Мы занятыя работай. А яе сутнасці, як і радасці, не адчуваем.

**— Сутнасці й радасці яе таямніцы?**

— Я ўжо казаў, што люблю іх адкрываць.

*На здымку: У. Куляшоў (Павел) і С. Акружная (Франка) ў спектаклі "Хам" Э. Ажэшкі.*

**З Уладзімірам КУЛЯШОВЫМ гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

Фота Аляксея МАЦЮША і Аляксандра ДЗМІТРЫЕВА

*г. Віцебск*

# ЖЫВЕ Ў БРЭСЦЕ МАСТАК



**У мастака Брэсцкага камбіната "Мастацтва" Льва Акімава, можна сказаць, сусветная вядомасць. На працягу шэрагу гадоў ён — удзельнік многіх міжнародных выставак. Яго работы экспанаваліся ў Жэневе, Лондане, Маскве, Сан-Францыска, Нью-Йорку, Барселоне, Варне, Варшаве, Токіо і іншых гарадах. Многія з іх набылі сусветнавядомыя музеі і галерэі. У 1992 годзе ў міжнародным біяграфічным цэнтры ў Англіі Акімаў названы чалавекам года і дваццатага стагоддзя. Мінулы год быў таксама "ўраджайным" для брэсцкага майстра. Яму было прысвоена званне акадэміка графікі беларускай Акадэміі выяўленчага мастацтва. А ў Японіі на выставе "Міжнароднае Трыенале графікі Токіо-95" ён заваяваў III прэмію ў конкурсе сярод 1815 мастакоў з 67 краін.**

*народжаны ў масцы (профіль у кепцы).*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

# ДА ЮБІЛЕЮ МУХАРЫНСКАЙ...

**19 красавіка ў Беларускай акадэміі музыкі адбудуцца Пятыя навуковыя чытанні памяці выдатнага навукоўцы-этнамузыколага Лідзіі Савулаўны Мухарынскай. Тэма — "Музычная культура Беларусі ў сучасных даследаваннях". Сёлетнія чытанні — юбілейныя. Яны прымеркаваныя да 90-годдзя з дня нараджэння Л. Мухарынскай. Яшчэ два юбілеі, што прыпадаюць на 1996 год, - 110-годдзе этнамузыкалогіі як фундаментальнай навукі і 5 гадоў кафедры беларускай музыкі, якая традыцыйна і ладзіць чытанні ў акадэміі.**

**Праграма чытанняў складаецца з трох частак. Першая — мемарыял: "Л. С. Мухарынская: лёс, жыццё, спадчына". Выступяць калегі, вучні Лідзіі Савулаўны, адбудзецца прагляд тэлефільма па сцэнарыі Л. Барадзіной "Мне не хапае Вас, настаўнік..." У канцэрце лаўрэат міжнароднага конкурсу студэнтка БАМ Н. Пазнякова выканае санату ор. 106 Л. Бетховена (гэтаму твору была прысвечана першая лаўрэацкая работа Л. Мухарынскай у Маскоўскай кансерваторыі), прагучаць спевы гуртка народнай музыкі Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага (кіраўнік З. Русель). Выкладчыкі, студэнты, аспіранты БАМ возьмуць удзел таксама ў дзвюх уласна навуковых частках чытанняў: "Этнамузыкалогія" і "Гісторыя музыкі".**

**На такі размах змушае спадчына Л. Мухарынскай. Як пісала мастацтвазнаўца Т. Якіменка, "даследаванне фундаментальных праблем беларускага музычнага фальклору — традыцыйнага і сучаснага, беларускай прафесійнай музыкі, стыляў кампазітарскай творчасці на гістарычным абсягу ад Баха да Мяскоўскага, Пракоф'ева, Шастаковіча — усё гэта сталася толькі часткай вялікага плёну яе жыцця. Было, нарэшце, яшчэ адно, таксама вялікае — стварэнне буйной навуковай школы... А над усім — цвёрдасць у барацьбе за беларускае музычнае мастацтва. Сапраўднае, высокае, нацыянальнае".**

**Наталля КСЁНЦ,**
**студэнтка Акадэміі музыкі**

# ЯНА СЕЯЛА ЗЯРНЯТЫ ДАБРЫНІ

## 15 КРАСАВІКА СПОЎНІЛАСЯ Б 80 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАРЫНЫ БАРСТОК

Кожны нагадвае месяц свайго нараджэння... Красавік падарыў Марыне шчодрасць душы і руплівасць сейбіта. Яна ўсё жыццё сеяла зярняты дабрыні, саргравала людзей непадробнай любоўю. Сваю Віцебшчыну, Полаччыну Марына Барсток называла краем легенд і песень, зямлёю, "дзе спалучаюцца старажытнасць і наватарскія прыкметы нашага часу". Бераг прывольнай Дзісны і невялічкая вёска Наркавічы з'яўляліся на старонках літаратуразнаўчых кніг і ў паэзіі Марыны. Так, яна пісала і вершы — някідкія, вельмі шчырыя.

Першая публікацыя з'явілася ў газеце "Чырвоная Полаччына" (1934). Адкуль і пачыналася сённяшняя Марына Барсток. Яе глыбокае разуменне жыцця, адчуванне беларускага слова — у даследаваннях, прысвечаных Я. Коласу, М. Багдановічу, К. Чорнаму, Я. Маўру, П. Броўку, П. Глебку, М. Танку. Паказ творчай індывідуальнасці пісьменніка ў сувязі з развіццём літаратуры вызначалі стыль работ М. Барсток.

Вось, да прыкладу, кніга пра Генадзя Бураўкіна "Руплівы поўдзень". Крытык выступае і як гісторык, тонкі знаўца старажытнай і сучаснай Полаччыны, дзейнасці яе вялікіх вучоных-гуманістаў, паэтаў, мастакоў. "Для пісьменніка, — піша М. Барсток, — вельмі важна адчуваць традыцыю, на якой ён узрастае, культурную, літаратурную, патрыятычную"... Яна гаворыць пра Г. Бураўкіна і мы бачым Расоншчыну з яе прыроднай прыгажосцю, з яе драматычным ваенным лёсам, адчуваем: зямля, якая ўзгадавала выдатнага беларускага паэта і яго літаратурных папярэднікаў, блізкая душы Марыны. Названая кніга, як і многія іншыя работы М. Барсток, пазбаўлена сухой аналітычнасці. Яна адчувала "шчырасць пачуцця, глыбіню лірызму, якая ідзе з сэрца паэта, пяшчоту, што жыве ў ім".

Паэты актыўнай жыццёвай пазіцыі вабілі яе і сваёй тонкай інтымнай лірыкай, якую паілі крыніцы паэзіі М. Багдановіча. Творы Багдановіча, сам яго вобраз былі любоўю Марыны. Ездзіла ў Ялту, з глыбокім жалем і болем расказвала пра магілу Паэта. А я захоўваю ракавінку, прывезеную адтуль маёй добрай сяброўкай. Па сваёй натуры яна была і паэтам, і настаўніцай. Пэўна таму многія свае творы прысвячала літаратуры для дзяцей: "Ля вытокаў беларускай дзіцячай літаратуры", "Якуб Колас — дзецям", "Алесь Якімовіч, Новы год", "Вывучэнне творчасці Кузьмы Чорнага ў школе", "Палымяная паэзія" (Аб творчасці П. Панчанкі).

Хіба ўсё пералічыш? І я ўдзячна за ўвагу М. Барсток да маёй работы ў гэтым захапляючым, але нялёгкім жанры. Яна душой гарнулася да дзяцей. На пачатку 70-х гадоў зацікавілася літаратурным клубам "Брыганціна" (Украіна, Арцёмаўск), запрасіла ў госці школьнікаў — чалавек трыццаць і настаўніцу Л. Бажко. Прымала іх у былым Доме літаратара на вул. Энгельса, шчодра частавала. А назаўтра ездзіла з імі па Мінску. З лёгкай рукі Марыны з брыганцінцамі пасябравалі К. Буйло, М. Лужанін, П. Панчанка, Е. Лось, У. Верамейчык, я. Выпісвалі ім нашы газеты, часопісы "Вясёлка", "Бярозка". Марына была ў гэтай дружбе і самай прыязнай, і строгай. Раіла дзецям не выпрошваць грошы ў бацькоў для афармлення клуба прафесійнымі мастакамі, а самім упрыгожваць сцены свайго клуба. Мабыць, разуменне дзяцей і праблемы выхавання засталіся з Марынай з таго часу, як настаўнічала ў Ветрынскай сярэдняй школе, пасля заканчэння Полацкага педагагічнага тэхнікума.

Цікава было размаўляць з Марынай — чалавекам высокай культуры, шырокіх далягля-даў. Яе адкрытая душа ўсюды знаходзіла добрых людзей, яна не замыкалася ў вузкіх сценах сваёй "хрушчоўскай" аднапакаёўкі, цягнулася да новых, неабжытых земляў. Так, некалі разам з атрадам беларускай моладзі паехала на цаліну. Зведала напаўгалодны быт, жыццё ў бараках. Прыехала дадому раман-тычна-ўзнятая і нататкі напісала "Гераіка працы на цаліне". Любіла Марына вандраваць, адкры-ваць для сябе новыя краіны. У Балгарыю мы ездзілі разам. Пазней зачараваліся прыдунай-скімі жывапіснымі берагамі, архітэктурай і мастацтвам Будапешта, Бухарэста, Бялграда, Браціславы, Вены, Прагі. "Гэта ўсё адлюстроў-ваецца ў маіх вачах", — казала Марына.

Пасля тых падарожжаў часцей за ўсё прыгадвалася Балгарыя: яе прыгожыя, гасцінныя людзі, раздольныя песні, яркія вочы дзяцей. У Сафійскім універсітэце вучоныя-славісты з цікавасцю слухалі эмацыянальны расказ М. Барсток пра беларускую літаратуру, пра нашы творчыя кантакты. Услед за вершамі Багдановіча і Купалы, якія цудоўна чытала Марына, гучалі "Зорка Венера", "Як на свет радзіўся Янка". А самавітыя вучоныя прыгожа спявалі балгарскія народныя. Потым, праз колькі гадоў, мы ўспаміналі з Марынай той вечар, а таксама наш "паход" на Шыпку.

А было такое: гід збіраўся паказаць легендарную Шыпку турыстам з Беларусі і Сібіры. Над гарой стаяў густы туман. Два тыдні ішлі дажджы. Але экскурсійны план заставаўся ў сіле. Збіраліся паехаць аўтобусам, затым дабірацца пеша. Я "забаставала": не паеду! Што мы там убачым у такую непагадзь? Можа, на шчасце, выпадзе ясная раніца? Марына здзіўлялася: ну, што за ўпартасць? Пасля няўдалай экскурсіі турысты прыйшлі змучаныя... А назаўтра раным-рана засвяціла сонца. Я пайшла адна. У дарозе мяне дагнала Марына: "Адкуль у вас такая інтуіцыя?" Падымаліся да помніка Героям Шыпкі, заварожаныя чысцінёй неба, свежасцю паветра. Дзесьці, зусім па-беларуску кукавала зязюля...

"Добр дэнь!" — гэты покліч-вітанне, з якім сустракалі нас балгары, мы прывезлі з сабой.

Здаецца, вось-вось зазвоніць тэлефон і пачуецца адметны, прыгожы голас Марыны — "Добр дэнь!" Гэта стала нашым вясёлым паролем.

Марына жыла для людзей, любіла сяброў, шанавала. А памірала адзінока. Трагічна-адзінока...

Яе сціпласць не ведала межаў. Жыла далёка ад цэнтра. Не прызнавала ні тэлефона, ні тэлевізара. Што тычыцца тэлевізара, дык у нас былі аднолькавыя погляды. Часта згадвалі словы аднаго японскага пісьменніка, які называў гэтую шумлівую скрынку дамавіком дваццатага веку! "Адвучае дзяцей ад кніг, а сяброў ад цікавых размоў!" Ну і смяялася, кпіла Марына, калі некалькі гадоў назад у нашым доме завёўся гэты "дамавік".

Многія людзі ўспамінаюць Марыну самымі добрымі словамі.

Галіна, дачка Веры Палтаран, расказвае: "Мама з Марынай сябравалі з юнацтва. Разам вучыліся. Разам, у час Айчыннай вайны, працавалі на заводзе работніцамі ў Горкаўскай вобласці. Як родныя сёстры, яны заўсёды былі побач... Вельмі цяжка памірала мая мама. Марына не адыходзіла ад ложка. Калі маме было трошкі лягчэй, чытала ёй уголас старонкі з любімых кніг. Уначы казала мне: ідзі, паспі. Сама ж ледзь не падала ад стомы. Былі хвіліны, калі мама пазнавала толькі Марыну, а не мяне... Яна была для мяне другой маці. Як жа не хапае мне Марыны!"

Гаворыць Клаўдзія Краўцова, якая доўгі час працавала ў Міністэрстве асветы Беларусі, сябравала з Марынай. Ведала яе, як чалавека і друга настаўніцтва: "І ў жыцці, і ў літаратуры яна паўстае па-сялянску руплівай і працавітай, добразычлівай, абвострана сумленнай ва ўсім: у стаўленні да людзей, да любой працы — незалежна ад ступені яе значнасці. Ці была гэта манаграфія, ці школьны падручнік, ці артыкул аб творчасці паэта-пачаткоўца. Яе характару ўласцівы былі нязмушанасць, рамантычная прыўзнятасць, адарванасць ад прозы жыцця. З жывым вобразам Марыны Мікітаўны ўдзячная памяць узрушана звязвае адчуванне свята і радасці, цеплыні, шчырасці і адданасці. Відаць, можна лічыць сябе шчаслівай, калі ў тваім жыцці былі такія людзі, як Марына Барсток".

Марына адчувала пільную неабходнасць — дапамагаць людзям. Калі яе калега Святлана Марчанка не мела ў Мінску ні хаты, ні прапіскі, — Марына прытуліла яе ў сваёй "хрушчоўцы", пакуль сяброўка не атрымала кватэру.

Святлана Марчанка: "Марына Мікітаўна была спагадлівай не толькі да мяне. Са мной жа дзялілася, чым магла. Надзвычай шырокая, паэтычная натура".

Віктар Каваленка працаваў побач з Марынай у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі:

"Марына Мікітаўна Барсток... Яе характар — цудоўнае ўвасабленне паняцця дабрыні не толькі ў побытавым вузка-жыццёвым сэнсе, але і ў філасофскім, агульна-чалавечым значэнні. Калі ж гаварыць пра яе дабрыню, як прынцып штодзённых паводзін, то, здаецца, многія гэтым карысталіся з вялікай мажлівасцю. Я выйшаў з-пад яе выхаваўчага крыла і мая памяць пра яе, як таленавітага крытыка і цудоўнага чалавека, будзе заўсёды ў сэрцы, пакуль буду жыць на гэтым свеце".

Думаю, што пад гэтымі праўдзівымі словамі Віктара Каваленкі можа падпісацца кожны, хто добра ведаў Марыну.

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

Пошта

# "ЦЯЖКА ВЫКАЗАЦЬ І НЕ ВЫКАЗАЦЬ..."

Вялебны Максім Іспаведнік у свой час (што актуальна і нашаму) папярэджваў: "Калі што пішацца, пішацца ці для сябе на ўспамін, ці для карыстання іншымі, ці для аднаго і другога, ці да шкоды некаторых, ці на паказ, ці па неабходнасці. Хто ж піша ад чалаве-кадагаджальніцтва, дзеля славы і выставы сябе, той губляе ўзнагароду сваю і ніякай ад таго карысці не атрымае ні цяпер, ні ў будучым веку, але асудзіцца, як чалавекадагаджальнік і вераломны раскрадальнік Слова Божага" (з кн. "Хрысціянскае жыццё па Даброталюбстве", М., 1991, с. 89). Горкі сум агортвае ад таго, што адбываецца наўкола. Параметры палітычных авантур катастрафічна пашы-раюцца. І чужакі, і айчынныя пярэваратні розных масцей усё болей нахабнічаюць. Кіруючыся перш за ўсё сваімі шкурнымі інтарэсамі, выплываюць напаверх палітычна неадукаваныя, з нізкім узроўнем культуры людзі і прапаноўваюць сябе, як павадыры, усё яшчэ духоўна соннаму народу, які ніяк не можа ўцяміць, што з ім адбываецца, якая над усёй нацыяй навісае трагедыя. Няўжо да такой ступені знясілены гарэлкаю розум і выціснута сумленне, што народ не ў стане ўсвядоміць, чым можа скончыцца ўчыняемы над ім гвалт? Як жа балючаназіраць за ніякаватымі тварамі падчас пасяджэнняў і мітынгаў як у былыя часы "ў падтрымку", тварамі, на якіх не абудзілася чалавечая годнасць, не прарэзаўся інтэлект, не высветліўся розум. Адказваючы на пытанне, "як можна па-хрысціянску ацаніць нежаданне большасці беларускага народа размаўляць і ведаць сваю мову", рэдакцыя праваслаўнай газеты "Царкоўнае слова" (N 3, 1996 г.) адзін толькі гэты, моўны, аспект вызначыла наступным чынам: "Так можа рабіць толькі духоўна хворы і знямоглы народ, які дзесяцігоддзямі спавядаў бязбожжа, невуцтва да сваіх духоўных і нацыянальных святынь. Нежаданне ведаць, пазнаваць і размаўляць на Богам дадзенай мове — гэта хула на Госпада, які дараваў нам не толькі гэты цудоўны край, але і не менш прыгожую мову сярод мноства тысяч іншых моў. Такое становішча можна ахарактарызаваць як апакаліпсіс народа, які сам хоча сябе загубіць і знікнуць з твару зямлі. Да гэтага ён, мяркуючы па сённяшніх справах, ідзе..." Як бы выйгралі ўсе, каб, вызваліўшыся з-пад дзяржаўнага і іерар-хальнага ўціску, выявілі сябе і патрыёты-святары і дапамагалі аблудлым авечкам сваім не знішчаць сябе канчаткова. Пампезнае падпісанне ў суправаджэнні шматлікай світы з забаўляльнай праграмай у час Вялікага Посту (чым не баляванне падчас чумы) дагавора аб пашыранай інтэграцыі ўспры-маецца жыццёвым малюнкам, калі малое дзіця, нацешыўшыся складанай для яго цацкай, аддае яе, як непатрэбную, пад рогат гасцей таму, хто яе падарыў. Ці не ўпадабляешся ты, мой любы народзе, гурту авечак, якіх прывезлі на бойню? Ад перапалоху яны збіліся ў кучу і ніяк не скрануць іх з месца. Але справа лёгка вырашаецца пры дапамозе дрэсіраванага барана-контры. Яму, адкормленаму, ганарыс-таму, такому па-свойску залатарунному, зляканыя жывёліны адразу давяраюць свае жыцці. Не дадзена барану зразумець, што ў рэшце рэшт ягоны апошні шлях след у след супадзе з тымі, каго вёў.

Тройчы запытаўся аб адным і тым жа ў выніку здрадніцкага выракання свайго вучня ахвярны баранку свету Гасподзь наш Ісус Хрыстос у апостала Пятра, ці любіць ён Яго, каб наказаць і яму, як і іншым, перад сваім ушэсцем пасвіць авечак сваіх. У іншых Ён не сумняваўся, як бачна. (Яна, 21; 15-17). Добры пастух не будзе здраднікам, не пераганіць свой статак на чужую вытараваную пашу, аддаючы сваю, лепшую на знішчэнне. Менавіта каб не пашкодзіць сваім статкам, не ўліліся, а разышліся абраныя Богам праведнікі Аўраам і Лот, добра разумеючы верагоднасць страт для абодвух бакоў. (Быц., 13; 6-9).

Хай жа намаганні манкуртаў пад прыкрай пампезнасцю і ахоўнай вопраткай на ўзроўні царскай світы застануцца ўсяго толькі красавіцкім жартам суровай гісторыі. Выезд іх быў прызначаны на дзень ушанавання памяці Святой Сафіі Слуцкай. Святая Маці наша Сафія, малі Бога за свой беларускі народ. Усе святыя, маліце Бога за сваю шматпакутную Беларусь, каб зняў Ён заслону з туману з вачэй абраных у Вярхоўны Савет, каб не ўпусцілі яны апошні шанц выжывання, не далі ходу капітуляцыйнаму выпаду сляпога павадыра. Госпадзі Ісусе Хрысце Сыне Божы, выратуй нас грэшных!

**Ларыса РАБЦЭВІЧ-БРАНАВІЦКАЯ**
*г. Мінск*
*2.04.1996*

*Галоўнаму рэдактару газеты*
*"Літаратура і мастацтва"*
*Міколу ГІЛЮ*

***Адна афіцыйная (урадавая) газета прапанавала мне напісаць артыкул да 100-годдзя з дня нараджэння Кандрата Крапівы. Слова пра драматурга веку і, дарэчы, свайго настаўніка я сказаў шчыра і праўдзіва. Яно было падрыхтавана да друку супрацоўнікам газеты. Аднак з 300 радкоў машынапіснага тэксту галоўны рэдактар выкрасліў 200.***

***Відаць, цяпер ужо нельга казаць ні пра родную мову, ні пра культуру і яе абароншчыкаў, ні, у прыватнасці, пра тое, што літаратурныя героі Кандрата Крапівы не толькі жывуць, але і квітнеюць.***

***Прашу Вас надрукаваць мой ненадрукаваны артыкул цалкам, выдзеліўшы тое, "что не устроило уважаемого главного". Не для задавальнення амбіцый, а — "каб ведалі"...***

**З павагай Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ**

*29.02.96 г.*

# НІХТО НЕ ЛЮБІЦЬ САТЫРУ, АПРАЧА ГЛЕДАЧА

Кандрат Крапіва. Два словы — імя і прозвішча. І перад вамі магутная, незвычайная, амаль легендарная постаць карыфея беларускай культуры ў самым шырокім сэнсе гэтага слова-вызначэння. Скарына, Купала, Крапіва — на такіх і да іх падобных трымаецца і выходзіць з любых нягод нацыя беларусаў. Божай міласцю драматург, выдатны байкапісец XX стагоддзя, таленавіты празаік, вучоны-мовазнавец, грамадскі дзеяч, народны пісьменнік, акадэмік, доктар філалагічных навук, Герой Працы, заслужаны дзеяч навукі — і ўсё гэта адзін чалавек Кандрат Кандратавіч Атраховіч (Кандрат Крапіва).

Сёлета ўсе беларусы, акрамя тых, хто яшчэ не пазбавіўся таўра "Тулягі", адзначаюць, святкуюць 100 гадоў з дня яго нараджэння.

Не так даўно нацыя развіталася са сваім слынным мужным сынам — барацьбітом і працаўніком, — а ўсё здаецца, што ён побач з намі, сярод нас. Відаць, гэта пачуццё ад таго, што створанае ім жыве, што народ ім карыстаецца, што скарбніца яго духоўнага багацця і глыбокая, і шырокая. Кандрат Крапіва пакінуў нам усё, што меў, усё, што паспеў зрабіць за сваё нялёгкае жыццё ў кручанай рэчаіснасці XX стагоддзя.

Больш глыбока і аб'ёмна, чым вызначыў асобу Кандрата Крапівы народны пісьменнік Янка Брыль, і не скажаш, не вызначыш. Яго я і працытую: "Ёсць людзі, якія маюць як быццам не адно жыццё, не адну біяграфію, — жыццё іх упрыгожваюць многія тысячы жыццяў, біяграфій! Дзелячыся з мноствам людзей багаццем сваёй душы, чалавек тады не бяднее, а наадварот — узбагачаецца сілай народа, яго ўдзячнасцю і любоўю. Такім чалавекам — сапраўдным сынам народа — мы называем і Кандрата Крапіву".

Пры ўсіх сваіх тытулах, званнях і надзвычай высокім аўтарытэце сярод сваіх паплечнікаў навукоўцаў і літаратараў ён быў надзвычай простым, даступным і добразычлівым, у вышэйшай ступені дэмакратычным, далікатным і інтэлігентным. У пэўных жа сітуацыях пры вырашэнні прынцыповых праблем і пытанняў ён быў, як кажуць, жалезным і непахісным. Да гэтых праблем і пытанняў можна аднесці бадай што ўсе тыя, якія тычыліся развіцця, абароны і захавання культурнай спадчыны народа і асабліва яго мовы. Можа, таму яго так не стае сёння?! Сёння, калі гістарычнае бэсціца, як нешта шкоднае, культура марнее, як нешта другараднае, а мова вынішчаецца, як нешта непатрэбнае. Свята жывата выходзіць на першы план, на пярэдавыя пазіцыі.

Мне пашчасціла назіраць зблізку, сустракацца і даволі часта гутарыць з Кандратам Кандратавічам. Звяла нас шчаслівая акалічнасць — Пётр Усцінавіч Броўка прапанаваў мне заняць пасаду адказнага сакратара Галоўнай рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, каб, як кажуць, на голым месцы разам з ім стварыць гэтую самую Галоўную рэдакцыю. Трэба было набраць 120 чалавек штату, а ў нас — ні кала, ні двара. І двор, і дах Акадэміі навук дапамог прыдбаць Кандрат Кандратавіч, які быў тады не толькі віцэ-прэзідэнтам Акадэміі, але і старым сябрам П. У. Броўкі. Яны выдатна разумелі, што значыць для нацыі і яе бесмяроцця уласная энцыклапедыя. Нездарма ж людзі кажуць, што нацыя толькі тады можа назваць сябе нацыяй, калі мае сваю мову, свой Герб, Сцяг і Энцыклапедыю.

Уладкаваўшыся пад крылом Кандрата Крапівы, мы з Пятром Усцінавічам яго ж і пачалі ўгаворваць ўзначаліць тэрміналагічную камісію БелСЭ. Як жа без камісіі? А раптам не хопіць беларускай тэрміналогіі на ўсе 500 навук, зафіксаваных у свеце? Мы ж размахнуліся аж на 12 тамоў, якія павінны змясціць 40 тысяч навуковых тэрмінаў! Ці вытрымае такі экзамен наша мова?!

Мы даволі моцна насядалі на адмысловага моваведа, а ён слухаў нас і хітравата пасміхаўся. А потым сказаў: добра, ўгаварылі, толькі не спатрэбіцца вам тая камісія. Сэнс гэтых слоў і крапівоўскую ўсмешку я зразумеў толькі напрыканцы выдання першай нацыянальнай энцыклапедыі. І сапраўды, ці трэба была тая камісія? Асаблівых тэрміналагічных цяжкасцяў мы не сустракалі, а нескладаныя філалагічныя пытанні вырашалі не з камісіяй, а асабіста з яе старшынёй. На 40 тысяч тэрмінаў за сем гадоў увялі толькі два новыя, якіх сапраўды не было ў пісаных слоўніках, але якія жылі ў народзе самі па сабе і былі вельмі дакладнымі. "Надгробие" мы пераклалі як надмагілле, а "скважину" як свідравіну. Ад аднаго тэрміна Беларуская Энцыклапедыя пазбавілася назаўсёды. Гэта — "свінаматка".

Кандрат Кандратавіч пажартаваў: калі, маўляў, пусціць у Энцыклапедыю "свінаматку", тады да яе трэба і "свінататку".

Хто-хто, а Кандрат Крапіва ведаў цану беларускай мове, ён, можа, як ніхто, уяўляў яе невычэрпныя скарбы і лексічнае багацце. Таму і пасміхаўся на нашу занепакоенасць, што ў роднай мове на энцыклапедыю слоў не хопіць. Толькі ў першым слоўніку Кандрата Кандратавіча іх 90 тысяч. А іншыя слоўнікі, а навуковая і мастацкая літаратура, а россыпы яе на роднай зямлі!

Дзіўным, недарэчным здаецца, калі сёння чуеш ад гультаёў і невукаў пра тое, што, маўляў, на збедненай беларускай мове, якую і мовай не назавеш, нельга выказаць разумную думку. Кандрату Крапіве іх хапала і для баек, і для апавяданняў, і для рамана, і для п'ес. Хапіла іх і на 250 тамоў энцыклапедычных кніжак, якія выпушчаны за 26 гадоў, хоць даўно няма той камісіі, якую тады, у 70-я гады, хацелася мець для падстрахоўкі. Аказалася, што для падстрахоўкі трэба мець веды, пазбавіцца ляноты і вядома ж, паважаць самую мову і яе носьбіта, яго вялікасць беларускі народ. А прыкладам таго, як авалодваць роднай мовай, на пачатку маглі б паслужыць і слоўнікі Кандрата Крапівы, якія зачытаны да дзірак супрацоўнікамі выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Мне здаецца, што сёння тым слоўнікам месца ў Музеі беларускай культуры. Шкада, што такога музея пакуль няма, дзе б на нашу нацыянальную культурную спадчыну "глазели ротазеи". Глядзіш, можа, што-небудзь і ўбачылі б.

Я не літаратурны крытык, не даследчык творчасці Кандрата Крапівы. Я — чытач, прыхільнік яго незвычайнага таленту, урэшце, з яго добрай ласкі і ўвагі — калега-драматург. З пэўным веданнем, што гэта такое — драматургія і тэатр, хачу засведчыць, што творчасць класіка нацыянальнай літаратуры, асабліва драматургія — гэта цэлы кантынент. Сёння яго трэба адкрываць занава. Яго выдатныя сатырычныя п'есы "Хто смяецца апошнім", "Мілы чалавек", "Брама неўміручасці" не старэюць, як і яго байкі. Іх персанажы не толькі жывуць, але і набіраюць такую сілу і размах, што становіцца жудасна.

У героі дня, а можа, і наступнага веку, зноў вылупіліся ўсё тыя ж авантурысты, прайдзісветы, невукі, кручкатворы, нахабнікі, зладзюгі, хабарнікі, правакатары, падхалімы па вертыкалі і гарызанталі, і Бог ведае, хто яшчэ на ўсіх паверхах улады, ва ўсіх закутках, здранцвелых ад страху перад горшым, гарадоў і вёсак. І ў першых шэрагах, вядома ж, не Тулягі, а Гарлахвацкія, Зёлкіны, Жлукты, Застрамілавы, Дажывалавы, Караўкіны і іншыя захрыбетнікі працоўнага люду. І ўсім ім хочацца не толькі жыць і свяціцца на гэтым свеце, але і набыць правы на бессмяротнасць, прашмыгнуць, пралезці, прарвацца праз вузкую браму неўміручасці.

Папытаецеся, а дзе ж масавыя Тулягі? Туляюцца, спрадвеку скаваныя і звычкай і страхам. А раптам іх зноў нейкі Гарлахвацкі западозрыць у тым, што яны служылі палкоўнікамі ў Дзянікіна ці ў нейкага іншага на радавых пасадах. Самыя ж туляжыстыя ціха сядзяць на бульбе з кефірам і мараць толькі аб тым, каб горш не стала. Такі ўжо ў іх туляжысты менталітэт, як цяпер кажуць тыя, каго гэты дзіўны менталітэт не толькі цікавіць, але і трывожыць.

Пры сённяшніх тулягах сённяшнія гарлахвацкія маюць магчымасць даследаваць не толькі "свінтуса грандыёзуса" і абараняць дысертацыі па археалогіі. Яны бяруцца за любую тэму хоць па гісторыі, хоць па эканоміцы, хоць па філалогіі, хоць па народнай асвеце, хоць па банкаўскай справе, а трэба, дык і па геральдыцы. Абы зырка засвяціцца, каб зверху заўважылі, каб ацанілі, каб да сябе прыблізілі і далей праштурхнулі за халуйскія паслугі. Халуяж вялікіх і малых клеркаў становіцца ўсенародным бедствам, эпідэміяй. Дагадзіць, завесці ў зман, замыліць вочы начальству... А там хоць трава не расці. І трава не расце, станкі не круцяцца, мужык не жадае ні сеяць, ні збіраць. Будучы смяротным, і сялянскі і рабочы люд чакае, што будзе далей, каб паназіраць, хто там яшчэ ў браму неўміручасці ўшчэміцца. Пасмяяцца з небаракі кожнаму ахвота.

Кандрат Крапіва ўмеў смяяцца — і гучна-раскаціста, і ціха-з'едліва, і нават з жалем да аб'екта свайго мастакоўскага асмяяння.

Суровы і стрыманы з выгляду, Кандрат Кандратавіч быў чалавекам вясёлым, у вышэйшай ступені валодаў пачуццём гумару, радаваўся, калі гэту якасць заўважаў у іншых. А калі гэты "іншы" свой гумарыстычна-сатырычны погляд на наша "смешное" жыццё спрабаваў пакласці на паперу, то пабацькоўску радаваўся і стараўся падтрымаць. Яны многія, і я, грэшны, абавязаны пэўнымі сваімі поспехамі ў драматургіі, у тым ліку і сатырычнай.

Відаць, натуральна тое, што кожны пачынаючы пісьменнік свой першы твор імкнецца паказаць пісьменніку сталаму, аўтарытэтнаму, хоча пачуць ад яго словы адабрэння ці парады. І канечне, безумоўна і тое, што шчаслівы быў кожны з драматургаў, хто меў магчымасць паказаць сваю першую п'есу такому майстру, як Кандрат Кандратавіч Крапіва. Першую сваю камедыю "Адкуль грэх?" паказваць Кандрату Кандратавічу я не рызыкнуў. Прайшоў нейкі час і ён прачытаў мой "першы грэх" у часопісе "Полымя". Тады я і папрасіў Кандрата Кандратавіча прачытаць адразу дзве новыя п'есы: "Трывогу" і "Злыдня". Было гэта якраз у той час, калі рэжысёр губіў на карані новую сатырычную камедыю Кандрата Кандратавіча "Браму неўміручасці", пра што ён з болем гаварыў пры нашых сустрэчах.

Абедзве п'есы Кандрат Кандратавіч прачытаў надзіва хутка і пазваніў, каб я зайшоў да яго на гаворку. Пачаў са "Злыдня". Сатыра на партыйна-савецкі бюракратызм спадабалася яму як зместам, ток і формаю. Адзначыў мову і вобразны строй. Сказаў, што п'еса з чортам — гэта цікава, нечакана і можа прыйсціся даспадобы не толькі артыстам і пастаноўшчыкам, але і гледачам. Пад усмешку сказаў, што паколькі сатыру, акрамя гледача, ніхто не любіць, то мне са "Злыднем" будзе цяжка... Угадаў. У хуткім часе "Злыдня" нейкім чынам прачытаў П. М. Машэраў і, пахваліўшы форму твора, сказаў: калі ваш Злыдзень будзе такім актыўным, то мы ніколі не пабудуем камунізму. Хоць я сумняваўся, што мы яго калі-небудзь пабудуем, але "Злыдня" з вёрсткі часопіса "Полымя" давялося выскрабсці. А як ужо выскраб, то да сёння ён свету і не пабачыў. А праблема бюракратызму, цяпер ужо дэмакратычнага, абвастрылася да такой ступені, што ў гэтым тысячагоддзі "Злыдзень" мой бадай што пастаўлены не будзе... А з другога боку як возьмеш, то і падумаеш: якая бяда?! Яго "злыдзень" свету не пабачыў! "Мілага чалавека" Кандрата Крапівы "бдительные" ўлады наогул са свету зжылі. Першую пастаноўку ў тэатры Янкі Купалы забаранілі яшчэ ў 1945 годзе, а другую — у Гродзенскім абласным — у 1971-ым.

Кандрат Крапіва пад забаронай! Той Крапіва, які ў часы культу асобы і масавых рэпрэсій напісаў антыкультаўскую п'есу "Хто смяецца апошнім", і якую паставілі многія дзесяткі тэатраў СССР, якую ведала і высока цаніла грамадскасць Заходняй Еўропы, асабліва грамадскасць славянская.

Драму "Соль" і трагедыю "Русь Кіеўская", на вялікі жаль, Кандрату Кандратавічу ў рукапісах я не даваў і толькі з тае прычыны, што ў яго вельмі пагоршыўся зрок, ад чаго ён надзвычай пакутаваў. Казаў: бачу, як у шчылінку, толькі два радкі. У санаторыі ў Аксакаўшчыне я назіраў, як ён чытаў навуковы часопіс. Паклаў яго на падваконнік "накасячок", унізе на стале падпёр важкай кнігай. А каб не збівацца з радкоў і не губляць іх у шчылінцы, для ўстойлівасці паклаў падбародак на два кулакі, пастаўленых адзін на другі.

Кандрат Кандратавіч — чалавек стары, але магутны духам — чытаў да апошніх дзён, хоць і праз шчылінку. Чытаў, пакуль вочы яго не закрыліся назаўсёды.

Во, каб усе відушчыя ды з яго прыклад бралі, мо грамадства наша не пакутавала б так ад невуцтва і душэўнай ляноты, ад згубы надзеі на лепшы лёс.

Што да сучаснай драматургіі, то мушу заўважыць, што за апошнія гады бязладдзя і дэмагогіі, узведзенай у ранг дзяржаўнай палітыкі, у драматургаў шмат чаго накіпела. А калі ўжо накіпела, то можа і выбухнуць... Падрасла цікавая моладзь. Добрым знакам з'явіўся рэспубліканскі закрыты конкурс на лепшую п'есу. Ён сведчыць пра тое, што ёсць порах у парахаўніцах, што жыве ў драматургіі традыцыя Крапівы. Можа, яшчэ і дажывуць беларускія драматургі да тых часоў, калі іх п'есы не будуць забараняцца ўладамі і спачатку будуць ставіцца ў сябе дома, а тады ўжо за межамі бацькаўшчыны, як было да гэтага часу. А можа, гэтага і не будзе. Хто ведае, якога коніка заўтра можа выкінуць непрадказальнае начальства... Ніхто не любіць сатыру, акрамя гледача.

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ,**
**драматург,**
**Лаўрэат дзяржаўнайпрэміі Беларусі**

ЛІМ
ЧАСАПІС

## ПЕРАДАЕЦЦА МУЗЕЮ



**Мазырскія мытнікі затрымалі грамадзяніна Літвы, які правозіў кантрабандай з Адэсы рускую ікону, пісаную яшчэ ў мінулым стагоддзі з выкарыстаннем яйкавай тэмперы і пазалоты. Цаны ёй няма, сцвярджаюць спецыялісты, таму ікона і не выстаўлялася напаказ, захоўвалася ў алтары, з'яўляючыся ўзорам для напісання іншых.**

**Гарадскі суд вынес рашэнне аб перадачы каштоўнай іконы Мазырскаму краязнаўчаму музею.**

*На здымку: мастак-рэстаўратар Віктар Драбніца і навуковы супрацоўнік музея Антаніна Кнышук з іконай.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## ПАРУПІЛІСЯ СУСЕДЗІ




**На Беларусі, як вядома, заўсёды была праблема з выданнем нот. Пра неабходнасць стварэння свайго дзяржаўнага музычнага выдавецтва нашы кампазітары, творы якіх зрэдчас друкавалі ў Маскве, Кіеве, Піцеры, гаварылі на кожным сваім форуме. І што ж? Цяперашняя эканамічная сітуацыя, мякка кажучы, не спрыяе ажыццяўленню мары. Тым не менш, новыя нотныя выданні з'яўляюцца. Не так даўно дзякуючы польскаму выдавецтву ў Познані пабачыла свет Саната беларускага кампазітара Яўгена Паплаўскага для альта і фартэпіяна. Твор прысвечаны вядомай нашай музыкантцы Лючыі Ластаўцы. Дарэчы, дзякуючы яе выкананню, Санату слухалі і ўхвальна ацэньвалі замежныя, у тым ліку й амерыканскія, спецыялісты. Ці не таму парупіліся суседзі зрабіць гэты свежы сучасны твор набыткам шырокага кола выканаўцаў? На здымку — рэпрадукцыя вокладкі познаньскага выдання альтовай Санаты Я. Паплаўскага.**

**Н. К.**

## "ГОМАН" — ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНАЯ

**Два разы на тыдзень з 28 лютага 1916 года лацінкай і кірыліцай (з 1 верасня таго ж года) да канца 1918 года ў Вільні выходзіла беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета дэмакратычнага, асветніцкага кірунку "Гоман". У ёй змяшчаліся матэрыялы па гісторыі беларускага культурнага і літаратурнага руху, творы Я. Баршчэўскага, А. Абуховіча, перадрукоўваліся творы Я. Купалы, Цёткі, М. Гарэцкага. Упершыню, дзякуючы "Гоману", пабачылі свет вершы Я. Коласа "Першы гром", "Я мужык, бядак, пахілы...", М. Багдановіча "Максім і Магдалена", "Ліст...", асобныя творы З. Бядулі, А. Гаруна.**

# ТРЫ ПЕСНІ З "БОСКАЙ КАМЕДЫ"

Дантэ АЛІГ'ЕРЫ

***З жаданнем зрабіць што-небудзь значнае ў літаратуры і паказаць перад усім светам, на што вартая "непрэстыжная", занядбаная беларуская мова, натхнёны ўпэўненасцю Алеся Разанава, што гэтая работа мне пад сілу, я ўзяўся за пераклад "Боскай камеды" Дантэ Аліг'еры, якая, як і "Біблія", на маю думку, з'яўляецца Вечнай кнігай.***
***На пачатку лютага 1996 года, пасля больш чым трохгадовай самаадданай работы, я, нарэшце, пераклаў апошні 14221-ы радок бессмяротнай кнігі вялікага фларэнтыйца. Думкі, якія валодаюць мною зараз, я выказаў у "Заключнай песні перакладчыка":***

У плаванне пусціўся я на стыку
Тысячагоддзяў двух і дзвюх эпох
Без шуму непатрэбнага і крыку,

Спадзеючыся, што магутны Бог,
Які раскручвае над намі зоры,
Паможа, як ужо не раз памог,

Мне плыць у невядомыя прасторы
За Дантэ ўслед у хісткім каіку
Па неабсяжным і бяздонным моры

Людскіх страсцей, што на маім вяку
Пасеялі нямала зла і смуты.
І Бог памог, здаецца, дзіваку.

Мне па начах свяшчэнныя статуты
Чытала неба ўголас — і яны
Для лепшай смерці мной былі пачуты.

Але, на жаль, мае збыліся сны
Тады, калі зноў фарысеі ў модзе
І рэй вядзе забойца заказны;

Калі ў маім затуканым народзе
Вось-вось памрэ апошні горды ген —
І ён прывыкне жыць са злом у згодзе.

О Скарпіён, Блізняты і Авен!
Скажыце: ці змагу я дачакацца
Натхняючых і радуючых змен?

У плаванне баяўся я пускацца,
Бо ўслед за Дантэ Аліг'еры плыць —
Не ў мелкаводнай сажалцы пляскацца.

Ды надта ўжо карцела абпаліць
Мне ў горне вечнасці душу, як вазу,
Свяшчэнных ісцін у яе наліць

І адказаць усмешкай на абразу,
Што не паддасца бессмяротны твор
На беларускай мове пераказу.

Каханне, вера, несціханы хор,
Чые напевы нада мной гучалі
Усім грымотам лёсу насупор,

І памяці разбітыя скрыжалі
У час разладу страшнага мяне
Да разумення Дантэ набліжалі.

Праз Пекла, у якім на самым дне
Стаяць сярод балота ледзяного
Наканавала неба Сатане,

Падняўся я да вываду такога:
"Прыносіць страшна зло сваім братам,
І больш, па сутнасці, няма нічога,

Чаго ў жыцці баяцца трэба нам".

**Уладзімір СКАРЫНКІН**

*12.02.1996 г.*

## ПЕКЛА

### ПЕСНЯ СЕМНАЦЦАТАЯ

"Вось звер, які распустаю прасторы
Напоўніў, а завостраным хвастом
Руйнуе сцены, арміі і горы", —

Сказаў Вергілій[1] і пазваў крадком
Пачвару жэстам. Звер на камень цвёрды
З разгону наваліўся жыватом.

Замест агіднай і жахлівай морды
Страшыдла мела чалавечы твар —
Прычым спагадлівы і ў меру горды.

Але чала прыгожага ўладар
Быў у астатнім пабрацім змяіны.
Ні ў туркаў, ні ў Арахны, ні ў татар

Не знойдзецца ніводнае тканіны
З узорамі, якія параўнаць
Не сорамна з малюнкамі ўздоўж спіны

Пачвары лютай. І яшчэ, відаць,
Што поўсць абедзве лапы пакрывала
Ў падманшчыка, мне трэба прыгадаць.

Як човен, што гайдае ля прычала
Пад плёскат хваль карму сваю ў вадзе,
Ці як бабёр, што звесіў хвост з завала,

Ім зробленага, і ў краіне, дзе
Жывуць германцы сквапныя, натхнёна
Бой з рыбаю дунайскаю вядзе,

Лягло на камень цела Герыёна[2].
Хвост з ядавітым джалам над ракой
Пачаў круціцца, як у скарпіёна.

"Няма дарогі да яго прамой.
Таму знайсці абход нам неабходна", —
Сказаў разважлівы настаўнік мой.

Направа павярнуліся мы згодна,
Каб абысці распалены пясок,
І да страшылішча прайшлі свабодна.

Аднак убачыў раптам я гурток
Асобін, што сядзелі над цяснінай,
На дно якой звяргаецца паток.

"Каб з гэтаю пустыннаю мясцінай
Лепш пазнаёміцца, пагамані, —
Сказаў паэт, — з пакутнаю дружынай.

Ды гутарку, глядзі, не зацягні.
Я ж папрашу тым часам, каб звяруга
Спусціў нас у бяздонне з вышыні".

Пайшоў я краем жудаснага круга
І да гуртка за бегуна хутчэй
Наблізіўся — нястомны валацуга.

Ліліся слёзы ў бедакоў з вачэй.
Нялёгка бараніцца небаракам
Ад градзін, што за вугаль гарачэй,

І ад пяску пякучага. З сабакам,
Што адбіваецца ад машкары
І рады не дае як атакам,

Усе, без выключэння, жыхары
Тут падабенства дзіўнае прыдбалі.
І зразумеў я: гэта ліхвяры!

З гербамі розных колераў звісалі
Партаманеты з шый у галякоў
І позіркам іх прагным дагаджалі.

Убачыў я між птушак і звяркоў
Фігуру льва блакітнага, якою
Ўпрыгожваўся жаўцейшы
з кашалькоў.

Другі кашэль, нібы крывёй самою
Пафарбаваны быў, і гусь на ім,
Як масла, ззяла яркай белізною.

Той, хто з блакітным вепруком сваім
Сядзеў каля павешаных магнатаў,
Мне крыкнуў: "Прэч!
Што тут рабіць жывым?

Закончыцца тут шлях і Дэнтэватаў,
Але з сабой у Пекла з кашальком
І ён не зможа прыхапіць дукатаў.

Тут з Падуі адзін я! Чужаком
Я чуюся, калі пачую грубы
Крык землякоў тваіх, што з важаком,

Чый сімвал прадзіравілі тры дзюбы,
Сустрэчы прагнуць!" Высунуў язык
Скравіння і пачаў аблізваць губы,

Зрабіўшы міну гнюсную, як бык.
А я назад пайшоў да Флегетона[3] —
Туды, дзе мой рахманы праваднік

Ужо сядзеў на спіне Герыёна.
"Узбройся мужнасцю! — прамовіў мой
Выратавач. — Каб у зямное лона

Глыбей спусціцца, лесвіцы другой
Мы тут не знойдзем, акрамя хрыбціны
Жывёлы гэтай. Сядзь перада мной —

Далей ад страшнага хваста скаціны".
Бы з сінімі пазногцямі хіляк,

Я задрыжаў пры відзе брыдкай спіны.

Але пасля, як раб, які ўсяляк
Гаспадару імкнецца спадабацца,
Я справіўся са страхам як-ніяк.

Цяжэй, чым на страшылішча забрацца,
Было мне папрасіць праваднік
Абняць мяне. На шчасце, здагадацца

Пра гэта змог важак і седака,
Спалоханага ўшчэнт, абняў рукамі,
Чым трохі падбадзёрыў бедака,

І крыкнуў зверу: "Руш, ды не рыўкамі!
Цяжар нязнаны ў прорву апускай
Пакатымі шырокімі кругамі".

Хвастом наперад звер паплыў ускрай
Пякучых дзюн ладдзёй,
падняўшай трапы.
Там, дзе ў бяздонне падае ручай,

Ён, развярнуўшыся, раскрыліў лапы
І рынуўся рашуча пад адхон
З уступа, дзе пакутуюць арапы.

Калі рамізнік сонца Фаэтон
З рук лейцы выпусціў — і небасхілы
Пачаў падпальваць вогненны фургон;

Калі Дзедалам зробленыя крылы
За спінаю расталі — і Ікар
Стаў набліжацца да сваёй магілы, —

Сціскаў іх сэрцы не такі цяжар,
Які адчуў я на душы міжвольна,
Як трапіў у паветраны абшар.

Усё ніжэй спускалася павольна
Страшылішча. Я гэта разумеў,
Бо ветрык шчокі лашчыў мне свавольна.

Калі нарэшце справа загрымеў
Ізноў паток у цемнаце геенны,
Зірнуць уніз я ўпершыню пасмеў.

Пачуўшы лямант пад сцяной каменнай
І ўбачыўшы адразу шмат агнёў,
Прынік я да жывёліны страшэннай.

Па тым, што чуўся крык з усіх бакоў
І ўжо не гэтак, як раней, далёка,
Я вызначыў, што некалькі кругоў,

Спускаючыся, звер зрабіў. Як сокал,
Што міма праляцеў сваіх ахвяр,
І ўніз, адкуль узносіўся высока,

Спусціўся плаўна ў рэшце рэшт
з-пад хмар,
Ды сеў, незадаволены сабою,
Не ў месцы, дзе чакае гаспадар,

Нарэшце прызямліўся пад скалою
Ў палохаючай прорве Герыён.
І, нас ссадзіўшы, паляцеў стралою

У невядомыя прасторы ён.

## ЧЫСЦЕЦ

### ПЕСНЯ ДВАЦЦАЦЬ СЁМАЯ

Тады, клі струменілася Эбра[4]
Пад Шалямі, калі паўдзённы час
Расплавіў Ганга велічнага срэбра,

А там, дзе наш Выратавальнік згас,
Дзень разгараўся
полымем барвовым, —
Па-за агнём узвысіўшыся, нас

Анёл сустрэў у змроку вечаровым,
"Beati mundo corde!"[5] — спець паспеў
І прывітаў нас павучальным словам:

"Не ўкушаны агнём прайсці не смеў
Тут аніхто. Таму заходзьце смела
Ў агонь і крочце праз яго на спеў!"

Пачуўшы словы гэтыя, знямела
Я скурчыўся, бы кінута было
Ў труну маё яшчэ жывое цела,

І гурмішча людзей, якіх пякло
У апраметнай полымя, адразу
У памяці збалелай ажыло.

"Няма тут, сын, другога пералазу, —
Сказаў важак! — пераступі парог
І абпалі сваю душу, як вазу.

Раз я спусціцца ўглыб табе памог
На Герыёне, ці магу, скажы ты,
Я лгаць табе, калі так блізка Бог?

Агонь — твае апошнія іспыты.
Ні волаcа не спаліць ён, хоць ты
Ім быў бы тысячу гадоў спавіты.

Сунь, дзеля высвятлення праваты
Маёй, у полымя крысо хітона.
Прайсці да надыходу цемнаты

Нам трэба праз распаленае лона.
Дух разняволь! Бы ўкопаны не стой!"
Ды слухаў важака я падазрона.

І ён сказаў, абураны: "Сын мой!
Знай, Беатрычэ[6] ў гэты міг таксама
Знаходзіцца за вогненнай сцяной".

Нагадваючы беднага Пірама[7],
Які, пачуўшы любае імя,
Прыўстаў і глянуў нечакана прама

У вочы Фісбе, на паэта я
Адразу скіраваў пагляд маўклівы —
І зноўку зацвіла душа мая.

"Дык што — пайшлі,
упарты і лянівы?" —
Ён усміхнуўся мне, як хлапчуку,
Якога звабіў, паказаўшы слівы, —

І даў нырца ў пякельную раку.
Не Стацый[8] уступіў услед за гэтым,
Як захацелася праваднiку,

А я ў агонь. Ішоў я за паэтам,
Зайздросцячы таму, каго шклавар
Аппарыў шклом, у горне разагрэтым.

Каб я ішоў хутчэй, мой валадар
Мне паўтараў, нібы псалом ахоўны:
"Я быццам бачу Беатрычэ твар!"

Праз полымя нас голас вёў чароўны —
І там, дзе пачынаўся новы ўздым,
Канчаўся пераход наш рызыкоўны.

Выводзіў голас у святле густым:
"Venite, benedicti Patris mei!"[9]
І я зрабіўся ад агню сляпым.

"Калі прыспешыць хочаце падзеі,
Ідзіце ўверх, пакуль не замялі
Зары асмалак цемрадзі завеі," —

Сказаў важак. На ўсход мы з ім пайшлі
Між стромых скал, і адбіраў нямала
Я прамянёў апошніх у зямлі.

За намі сонца цьмяна дагарала —
І ценю чарната перада мной
У хуткім часе неўпрыкмет растала.

Але раней, чым цемраддзю начной
Пасля таго, як дзённаму свяцілу
Схавацца давялося за смугой,

Пакрыліся абсягі небасхілу,
На ўступах леглі мы паспаць, бо крос
Было ўжо нам працягваць не пад сілу.

Утаймаваную атару коз,
Якія ў пошуках пажывы спрытна
З уцёса пераскоквалі на ўцёс

Яшчэ нядаўна, каб наесца сытна,
Ды, жвачку жуючы, прылеглі спаць
У прыцемку
ад прагных пашчаў скрытна,

І пастухоў, якім аберагаць
Належыць іх, каб здарыцца благое
Што-небудзь з імі не магло, — відаць,

Нагадвалі мы, стомленыя, трое.
Два духі абавязкі пастухоў
Выконвалі, а я ў імгненне тое

Казою быў. Глыбокі, цесны схоў
І нас у гэтым схове асяняла
Шмат вельмі яркіх зорных каганцоў.

Мяне начное неба ўтаймавала —
І я ахоплены быў вешчым сном.
Жанчыну, што ў нагорным лузе рвала

І заплятала кветкі веснім днём,
Я сніў, калі на ўсходзе Цытэрэя[10]
Гарэла яркім, як любоў, агнём.

З пяшчотай слухаў у чароўным сне я,
Як напявала, бы сама вясна,
Прыгожая і маладая фея.

Спявала звонкім голасам яна:
"Я — Лія! Я, умелымі рукамі
Вянкі сплятаючы, хаджу адна.

Я са сваімі дзіўнымі вянкамі
Паўстану перад люстрам, прад якім
Сядзіць Рахіль[11] і днямі, і начамі,

Любуючыся позіркам сваім.
Мне хочацца займацца век работай,
Рахілі — сузіраннем жыць адным".

Ды вось усход пакрыўся пазалотай,
Што для вандроўных душ тым даражэй,
Чым да кутка, які мы з пашанотай

Усюды згадваем, начлег бліжэй.
Радзела цемрадзь.
Я падняўся з ложа —
І даляцела да маіх вушэй:

"Салодкі плод, які знайсці не можа
Ў зямных садах наш чалавечы род,
Табе спатоліць смагу дапаможа".

Я нават не чакаў такіх шчадрот.
Каштоўнасцю, падоранай на свята,
Быў для мяне Вергілія зварот.

Было жаданнем да нябёс узнята
Маё чало. Я шэлест крыл пачуў
За спінаю і ўверх пайшоў крылата.

Сышлі прыступкі ўніз — і дасягнуў
Трыумвірат наш вышыні канечнай.
Твар да мяне Вергілій павярнуў:

"Цябе з часовай караю і вечнай
Знаёмячы, дайшоў я да мяжы,
Для нехрысця сляпога небяспечнай.

Праз бездані і горныя кражы
Правёў цябе мой мозг адукаваны.
Цяпер сваёй развагай даражы.

Вось сонца, лес, вось кветкі,
вось паляны,
Якія сакавітаю травой,
Як ім хацелася, пазарастаны.

Пакуль к табе не сыдзе позірк Той,
Што ў Лімб сыходзіла
ў слязах за мною,
Ляжы, сядзі, хадзі тудой-сюдой.

Мая душа становіцца нямою.
Вянок і мітру над тваім чалом
Хачу я бачыць. Над самім сабою

Будзь і суддзёю строгім, і царом!"

## РАЙ

### ПЕСНЯ СЕМНАЦЦАТАЯ

Хто праўды дамагаўся ад Клімены[12]
І хто ў адносіны бацькоў да нас
Унёс крутыя надта перамены,

Такім жа быў, якім у гэты час
Я Любай[13] здаўся і святой істоце[14],
Змяніўшы месца — у чарговы раз.

Таму сказала Дама: "Выкінь з плоці
Агонь жадання, каб і ён заззяў
Ва ўсёй сваёй неўтаймаванай цноце,

Але не для таго, каб дух спазнаў,
Цябе, змарнелы без пітва бяздольнік!
Каб ён хутчэй табе напіцца даў".

"О ствол высокі мой!
Як бачыць школьнік,
Што нельга больш за аднаго вугла
Тупога памясціць у трохвугольнік,

Ты бачыш рэч, якая не змагла
Сабою стаць, калі глядзіш на Кропку,
Што ўсе часы ў сабе перапляла.

Калі з Вергіліем — не паасобку —
Спускаліся мы ў Пекла і калі
Ўзыходзілі на велічную сопку,

Нярадасную долю прадраклі
Мне духі, хоць, як рэбры тэтрагону,
Трываласць мне няўдачы надалі.

Парадуй родзіча. Здымі заслону
З таго, што будзе. З хуткасцю малой
Чаканая страла ляціць з адхону!" —

Звярнуўся я да яснасці святой,
Што не выносіла пагарды свінскай,
Жаданне з плоці вызваліў сваёй.

Адкрыта, шчыра моваю лацінскай,
Як рэдка ўмелі гаварыць, калі
Быў свет прытонам банды сатанінскай,

Адказ дакладны, ясны мне далі
Бацькоўскія пачуцці, што схаваны
Пад радаснай усмешкаю былі:

"Лёс вашым рэчывам абмежаваны —
І перад Вечным Позіркам таму
Ўсе выпадковасці адлюстраваны.

Але ўплываць на ход падзей яму
Нялёгка, як на курс катамарана
Вачам, што ўбачылі яго карму.

Як да вушэй гармонія аргана,
Прыйшла ка мне з далёкім пуцявін
Часіна, што табе падрыхтавана.

Як Іпаліт[15], які ўцякаў з Афін
Ад вераломства мачахі суровай,
Пакінеш ты Фларэнцыю, мой сын.

Дагэтуль з лютасцю, на ўсё гатовай,
Такой расправы патрабуюць там,
Дзе спекулююць вераю Хрыстовай.

Лёс ганьбу прынясе тваім сябрам
Па партыі, але адплата Бога
У час як сведка паспрыяе вам.

Цябе чакае цяжкая дарога
І незнаёмых лесвіц кабала.
Ты зведаеш, як солі ў хлебе многа,

Калі выгнання першая страла
Цябе пакінуць вымусіць мясціну,
Што дарагой і любаю была.

Лёс жорсткі пакладзе табе на спіну
Увесь цяжар кампаніі тупой —
І ты ўпадзеш сярод яе ў даліну.

Няўдзячнай, бессаромнаю гурмой
Бязлітасна ты будзеш потым збіты,
Ды лоб чырвоным зробіцца не твой.

Дакажуць свінства самавітай світы
Паводзіны тваіх былых сяброў —
І зробішся сам партыяй тады ты.

Ты знойдзеш неўзабаве першы схоў
У дабраце вялікага ламбардца[16],
Прыхільнага да лесвіц і арлоў.

Ён позіркам сагрэе ваша брацтва.
Не так, як іншыя, — перадусім —
За дабрадзейнасць будзеце вы брацца.

Убачыш ты аднойчы разам з ім
Таго, хто атрымаў ад гэтай зоркі[17]
Адбітак і вядомы будзе ўсім.

І не таму, што люд не надта зоркі,
Яго не ўславілі сярод людзей —
Таму, што ён яшчэ малеча горкі[18].

Ды загарыцца іскрамі раней,
Чым ашукае Генрыха[19] Гасконец[20],
Ягонай бескарыслівасці ўзвей.

Ні перад кім ён годнасці не ўроніць.
Ад нагавораў подлых, ад абраз
Яго закляты вораг абароніць!

Разлічвай на яго ў нялёгкі час.
Багатым дапаможа і галодным
Ён памяняцца месцамі не раз.

Не гавары пра гэта нават родным".
І расказаў яшчэ пра тое мне,
Што сведкі назавуць неверагодным.

Пасля прамовіў: "Два гады міне —
І лёс цябе ў пастаўленую пастку

Рукамі крывадушнікаў штурхне.

Пачнеш свайго жыцця другую частку
Ты ў ёй, але дакажацца віна
Тваіх лаўцоў — і ты парвеш аснастку".

Калі сатчэ аснову палатна,
Заказанага мной, душа святая
І знак падасць, што скончыла яна,

Пачну сваю прамову нездарма я,
Як чалавек няўпэўнены, каму
Спатрэбіцца дарадчыца прамая:

"Калі без падрыхтоўкі я прыму
Удары часу, што насустрач скача,
Я многім рызыкую. І таму

Цяпер мая галоўная задача —
Узброіцца прадбачлівасцю, каб
Мяне ў паэзіі не абмінула ўдача.

У свеце, што ад горасцей аслаб,
На строме той, адкуль вачамі Дамы
Быў вырваны я з сатанінскіх лап,

І тут, дзе далягляд прыгожы самы,
Спазнаў я рэчы горкія на смак,
Жахлівыя трагедыі і драмы.

Калі я сябрам ісціны, аднак,
Стаць не змагу, суровыя нашчадкі
Не ўспомняць вершатворца аніяк".

І скарб, чые мяне кранулі згадкі,
Заззяў ярчэй у некалькі разоў,
Як самародак залаты і гладкі.

Затым прамовіў: "Для такіх высноў
Прыгорбленае ганьбаю сумленне,
На жаль, не адшукае добрых слоў.

Не абцяжарвай выдумкай натхненне,
Скажы ўсю праўду —
хай шкрабецца той,
Чыю душу раздвойвае сумненне.

Спярша не надта смачны — эпас твой
Таго, хто гэты эпас пераварыць,
Абавязкова ўразіць смакатой.

Твой крык па верхавінах моцна ўдарыць,
Як лістабой, каб гонар даць табе,
І будзеш ты над светам уладарыць.

У яме, дзе няма канца журбе,
І на гары ты бачыў душы, славай
Навекі асяніўшыя сябе,

Бо для любога слухача цікавай
Павек не стане гутарка, з якой
Звязаны лёс асобы неяскравай,

Абыдзены увагаю людской".

### ТЛУМАЧЭННІ

*[1] Вергілій (70—19 г. г. да н. э.) — рымскі паэт, аўтар "Энеіды". Ён з'яўляецца праваднікОм Дантэ праз Пекла і Чысцец.*

*[2] Герыён — вартаўнік восьмага круга Пекла, дзе пакутуюць ілгуны.*

*[3] Флегетон — крывавая рака ў Пекле, у якой варацца забойцы.*

*[4] Эбра — рака ў Іспаніі.*

*[5] "Beati mundo corde!" (лац.) — "Дабрашчасныя чыстыя сэрцам!" (Мацвея Святое Дабравесце, V, 8).*

*[6] Беатрычэ — каханая жанчына Дантэ, яго праваднiца ў Раі.*

*[7] Пірам — вавілонскі юнак, які закалоў сябе мечам, думаючы, што яго каханую дзяўчыну, Фісбу, разарвала львіца.*

*[8] Стацый (каля 40—каля 90 г. г.) — рымскі паэт, аўтар "Фіваіды", які адбыў сваё пакаранне ў пятым крузе Чысцца і разам з Дантэ і Вергіліем узыходзіць да Зямнога Раю.*

*[9] "Venite, benedicti Patris mei!" (лац.) — "Прыйдзіце, дабраславёныя Айца Майго" (Мацвея Святое Дабравесце, XXV, 34).*

*[10] Цытэрэя — Венера.*

*[11] Лія і Рахіль — старазапаветныя праведніцы.*

*[12] Клімена — маці Фаэтона.*

*[13] "Любая" — Беатрычэ.*

*[14] "Святая істота" — прапрадзед Дантэ Качагвіда, які жыў у XII стагоддзі.*

*[15] Іпаліт — сын афінскага царэвіча Тэзея, абылганы мачахай.*

*[16] "Вялікі ламбардзец" — Барталамео дэла Скала, сіньёр Вероны з 1301 г. па 1304 г.*

*[17] Дантэ ў гэты час знаходзіцца на Марсавым небе.*

*[18] "Малеча горкі" — Каградэ дэла Скала, малодшы брат Барталамео дэла Скала, правіцель Вероны з 1312 г. па 1329 г.*

*[19] "Генрых" — Генрых VII, германскі імператар з 1308 г. па 1313 г.*

*[20] "Гасконец" — Клімент V, Папа Рымскі з 1305 г. па 1314 г.*

Саюз беларускіх пісьменнікаў паведамляе, што створанае пры Партызанскім райвыканкаме ТТАА "Беларускі тэатр песні" (рэгістрацыйны нумар 1289) ліквідуецца з-за адсутнасці гаспадарчай дзейнасці.

Гэта было...

# "ПАРОЛЮ, СЯБРЫ, НЕ ЗАБУДЗЬЦЕ!"

Пачыналася першае пасляваеннае лета. У чэрвені 1945 года мне пашчасціла адразу з-за мяжы вярнуцца ў родны Мінск. Здавалася, зусім нядаўна я хадзіў па яго вуліцах, калі вучыўся ў інстытуце журналістыкі, сустракаўся з многімі сябрамі — маладымі паэтамі і празаікамі на курсах-канферэнцыі пачынаючых пісьменнікаў, якія праводзіліся ў 1939 годзе ў Мінску праўленнем СП БССР. Проста са студэнцкай аўдыторыі я быў прызваны на службу ў армію і апынуўся далёка за межамі роднага краю. Мінула больш чатырох гадоў. І вось я зноў іду па вуліцах Мінска. Толькі не пазнаю яго. Увесь горад ляжыць у руінах.

Нягледзячы на ўсё, горад жыў. Аднаўлялася ў ім жыццё, чуўся ўсюды яго неўміручы, няспынны жыватворчы пульс. Асаблівую радасць, добры настрой прыносілі сустрэчы з людзьмі, з якімі быў гадамі ў разлуцы.

Адна з першых такіх сустрэч у мяне адбылася ў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва". Ці не проста з вакзала, у шэрым запыленым шынялі, з паходнай палявой сумкай завітаў я ў цесны пакойчык уцалелага ў цэнтры горада трохпавярховага доміка на Рэвалюцыйнай вуліцы, дзе тады размяшчалася рэдакцыя. Даведаўшыся, што галоўным рэдактарам з'яўляецца мой зямляк Аркадзь Куляшоў, я кіраваў, безумоўна, адразу да яго. А як жа! Я ж не раз чытаў яму свае вершы яшчэ ў юнацкія гады, калі ён адпачываў летам з сям'ёй у вёсцы па-над Бесяддзю непадалёку ад Хоцімска. Але сустрэчы з ім у той дзень не адбылося. Калі зайшоў у рэдакцыю, у пакоі быў толькі адзін чалавек — адказны сакратар газеты Уладзімір Карпаў. Ён падаўся мне ветлівым, уважлівым маладым чалавекам, статна складзеным, са строгім, але прывабным позіркам карых вачэй. Паглядзеўшы на мае пагоны, на якіх было па чатыры маленькія зорачкі, ён адразу запытаў:

— Адкуль, капітан? Відаць, з Берліна? — Пагляд яго спыніўся на медалі "За перамогу над Германіяй", які свяціўся на маіх грудзях.

— Быў пад Бералінам, — адказаў я. — А зараз — з Прагі. Там наша дывізія заканчвала вайну.

Я расказаў пра сваю вучобы ў інстытуце журналістыкі, пра тое, што друкаваўся ў "Чырвонай змене", дзе загадчыкам аддзела паэзіі быў Антон Бялевіч — з яго блаславлення і былі надрукаваны ў газеце мае першыя вершы.

— А Бялевіч зараз у Мінску, — сказаў Карпаў. — Учора заходзіў да нас. Прыехаў з Масквы. Ён таксама ваяваў, быў у партызанах. Напісаў пра іх добрую паэму. Будзем друкаваць ўрыўкі.

Гэтыя словы, сказаныя нібыта між іншым, вельмі ўсхвалявалі мяне. Доўгі час я нічога не ведаў пра сваіх сяброў, з якімі разам рабіў першыя крокі ў літаратуры. І радасна было пачуць, што вярнуліся ў Мінск Кастусь Кірыенка, Мікола Ткачоў, Іван Мележ, Анатоль Вялюгін, Дзмітрый Кавалёў, Мікалай Гарулёў...

Уладзімір Карпаў, нібы адчуўшы мой настрой, сказаў, што многія вершы названых паэтаў ужо друкаваліся ў "ЛіМе". І запытаў у мяне:

— Вы ж, напэўна, таксама прынеслі вершы? Чытаў вашы творы ў "Савецкай Беларусі", прысланыя з фронту.

— Тое-сёе прынёс... Хацеў паказаць Аркадзю Куляшову...

— Куляшова сёння не будзе. Магчыма, заўтра прыйдзе на лятучку.

Я ўжо сабраўся адыходзіць, як Уладзімір Барысавіч спыніў мяне:

— Пачакай, Пятро! Я ў паэзіі слаба разбіраюся. Але зараз павінен прыйсці адзін наш выдатны паэт, якога і ты, пэўна, ведаеш...

Не паспелі мы з Карпавым як след пазнаёміцца, як у пакой зайшоў малады яшчэ з выгляду, хударлявы чалавек у летнім паношаным паліто і ў белай чыстай сарочцы без гальштука.

— Добры дзень! — павітаўся ён, працягнуўшы руку спачатку Карпаву, затым мне, кінуўшы ў мой адрас:

— Рад бачыць франтавіка.

Карпаў пачаў знаёміць нас, але я і без яго падказкі пазнаў Валянціна Таўлая, воблік якога неаднойчы бачыў у газетах яшчэ ў 1939 годзе, пасля вызвалення Заходняй Беларусі. І вось перада мной ён сам — мужны баец-падпольшчык, які некалькі гадоў сядзеў у панскіх турмах за рэвалюцыйную дзейнасць, смела і рашуча заяўляў на ўвесь свет:

**Я пасядзець яшчэ магу,**
**А вершам часу шкода.**
**Шумець ім трэба на сцягу**
**І калыхаць паходы.**

Я прыгадаў, як яшчэ ў студэнцкія гады гаварыў мне пра гэтыя вершы і пра самога В. Таўлая мой сябар Анатоль Вялюгін, які адначасова вучыўся ў педагагічным інстытуце і працаваў у рэдакцыі газеты "Звязда". Анатоль ведаў шмат чаго і аб тым, як Валянцін Паўлавіч па заданні падпольнага камітэта камсамола пераходзіў польска-савецкую мяжу і некаторы час у той жа рэдакцыі "Звязда" працаваў літаратурным супрацоўнікам, потым зноў вяртаўся за мяжу і працягваў там сваю дзейнасць.

І цяпер я быў рады сустрэчы з гэтым выдатным паэтам і мужным чалавекам.

Знаёмячы мяне з ім, У. Карпаў сказаў:

— Капітан Прыходзька. Таксама паэт. Да вайны вучыўся ў мінску ў КІЖы, быў на курсах-канферэнцыі маладых пісьменнікаў. Толькі што з Прагі прыехаў. Прывёз франтавыя вершы, ды не адважваецца паказаць...

— Пакажыце, чаго ж баяцца? Пачытаем разам.

Я дастаў з палявой сумкі некалькі сваіх вершаў, напісаных яшчэ на фронце, калі наша дывізія прымала ўдзел у вызваленні Беларусі, затым ішла праз Буг, Віслу, Одэр да Берліна і да Прагі.

Валянцін Паўлавіч уважліва чытаў мае вершы "Роднай Беларусі", "На Берлін", "Перад боем"... Твар яго не выяўляў асаблівых эмоцый, і "птушак" на палях Таўлай не ставіў, тым не менш я хваляваўся, ледзь не дрыжэў ад страху: пасля доўгага часу ўпершыню чытае мае вершы сапраўдны паэт-прафесіянал. Што скажа ён пра іх?

В. Таўлай, урэшце, са шчырай усмешкай паглядзеў на мяне:

— Та-а-ак! — працягла прамовіў ён і тут жа дабавіў: — Адразу порахам запахла. Трэба друкаваць. — Ён працягнуў рукапісы У. Карпаву і сказаў: — Мне здаецца, вершы вартыя таго, каб іх змясціць у "ЛіМе". Трэба падтрымаць паэта-франтавіка.

— І што, няма ніякіх заўваг? — не паверыў Карпаў.

— Асаблівых заўваг у мяне асабіста няма, — сказаў Таўлай. — Хіба асобныя словы варта паправіць. Скажам, у радку: "Скрыпяць млыны ветравыя". Па-беларуску лепш сказаць не "ветравы млын", а адным словам — вятрак. Галоўнае — вершы напісаны шчыра, з любоўю да роднага краю. А гэта тое, чаго патрабуе паэзія.

Пасля гэтага Валянцін Паўлавіч некалькі слоў у маіх вершах падкрэсліў алоўкам — маўляў, тут трэба будзе зрабіць папраўкі. Я ўзяў вершы з сабой, каб вечарам, седзячы ў афіцэрскай гасцініцы, давесці іх, як гаворыцца, да кандыцыі.

У хуткім часе ў "ЛіМе" з'явілася першая пасляваенная падборка маіх вершаў. Сярод іх былі і тыя, якія прапаноўваў да друку, благаслаўляў у свет В. Таўлай. Ён не толькі дапамог мне з надрукаваннем апаленых агнём маіх вершаваных радкоў, а і ўсяліў у сэрца надзею, надаў упэўненасці.

Пасля той першай сустрэчы я часта бачыў В. Таўлая ў музеі Янкі Купалы, дзе ён працаваў разам з Янкам Брылём і незабыўнай Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч. Памятаю яго і на пасяджэнні прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў у Доме ўрада (там у цокальным паверсе размяшчаўся тады наш Саюз), калі мяне прымалі ў члены СП. Сустракаліся мы і на пісьменніцкіх сходах. Але гэта, на вялікі жаль, было нядоўга. У 1947 годзе В. Таўлая не стала. Адышоў ён ад нас вельмі рана, пакінуўшы маленькую дачушку і вёрстку паэтычнага зборніка, які павінен быў неўзабаве выйсці ў свет. Гэта была першая яго кніга, што ўбачыла б свет, так бы мовіць, на волі...

Ягонай памяці я прысвяціў такія свае радкі:

**У шарэнзе крочыў ротнай,**
**Паскараў уперад крок, —**
**І чаргою кулямётнай**
**Выбіваўся мой радок.**

Ішлі гады, пісаліся вершы, выходзілі кнігі. Да Валянціна Паўлавіча я зберагаў у сэрцы шчырую павагу і ўдзячнасць. У 1971 годзе я напісаў і надрукаваў паэму "Незабыты пароль", прысвечаную памяці Валянціна Таўлая. На вялікі жаль, яна прайшла міма ўвагі крытыкі. Затое ўдава паэта Людміла Сяргееўна і яго дачка Галіна былі мне шчыра ўдзячны.

Эпіграфам да свайго твора я ўзяў тады цудоўныя радкі В. Таўлая:

**І доўга бярэзінку шастаць,**
**І доўга цвісці**
**незабудкам, —**
**Паролю, сябры,**
**не забудзьце,**
**Ўзышоўшы на сцежку**
**да шчасця.**

Гэтыя словы быдта самі кладзіся на сэрца, бо паролем для паэта-барацьбіта за народнае шчасце заўсёды былі словы: "Жыве Радзіма! Жыве Беларусь!"

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Атрымаў позву ў суд — чаму не ладжу краты на вокнах? Сталіца, падобна, у аблозе. Універмаг на галоўным праспекце перабудоўваецца ў гандлёвы цэнтр абарончага тыпу — няма вітрын, адны байніцы. Для рэзідэнцыі прэзідэнта заказана праектная дакументацыя на агароджу. У супермаркетах цяпер ахоўнікі, ля турнікетаў у метро — міліцыянты. Ты што — ідзеш па хлеб? А пароль ведаеш?

●

Прэзідэнтператварыў нацыянальны оперны тэатр у прэзідэнцкі. Не ў назве, вядома, справа, былі і імператарскія. Але каб дапамагчы тэатру, трэба запусціць прадпрыемствы, пакончыць з інфляцыяй, рэгулярна выплачваць людзям заробак, забяспечыць парадак на вуліцах. А гэтага прэзідэнт не можа. Імем тут не абыдзешся!

●

Скардзіўся архітэктар, майстар "абагаўлення", не прапускалі праектаў з коннай статуяй Леніна. Нават па Сталіну йшлі забароны, хоць Сталін і быў "пры пагонах". Помнікаў Леніну і цяпер навалам, ды ўсё пехадралам, усё пехадралам.

●

У "Іслачы", у "Іслачы" трыумф дэмакратычнасці. І слынныя і няслынныя аднолькава гасцінныя. Не ведаеш, з кім замачваеш — з адзначанымі неадзначанага ці з неадзначанымі адзначанага. Пакуль не ўсе занесены ў хрэстаматыі, пануе ў "Іслачы" дэмакратыя. Адно зіхацяць пагоны на рамёнах пісьменніцкіх жонак.

●

Развальваюцца банкі, фонды, пірамíды, і галеюць акцыянеры — пенсіянеры і інваліды. Чаго за дывідэндамі гоняцца пенсіянеры? Не хапае пенсіі, каб заплаціць за кватэру.

●

"Чалавек года", "чалавек года" — з'явілася новая пачэсная ўзнагарода. Дапамогі патрабуе культура народа, дык мо абыдземся "чалавекам года"? Больш за адну "Ніку" ў адны рукі не даваць, а каб і тут дасягнуць эканоміі, абавязаць узнагароджаных плаціць за дыпломы. Ёсць і іншы праект вялікі: устанавіць на ўсіх адну "Ніку".

●

"Колеру падазронага, немэтазгоднага ў цэлым"... Над белаю воронаю схіліліся вароны ў белым. "Нашы душы нясмелыя, нашто нам хімера?" Заклявалі белую свае ж шэрыя.

●

— Што мы казалі раней, калі ўваходзілі ў кватэру? — Віталіся. — А што кажам зараз, калі не адчыняюць дзверы? — Каб не баяліся. — Вось гэтыя рэаліі і вартыя аналізу.

●

Паводле Мікалая Глазкова. Савок сустрэў д'ябла ў скверы. І што, утаропіўся ачумела? Не, спытаў смела: "Люцыфер, як там у пекле з хлебам цяпер — чорным і белым — не падаражэла?"

●

Колькі вакол бамжоў — непрытуленых, адзінокіх. Можа, у бельмах ужо ўсёвідушчае вока, ці зачарсцвела сэрца ўсемагутнага творца? Не верыцца!

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932-35) |
| І.Гурскі | (1935-41) |
| А.Куляшоў | (1945-46) |
| М.Горцаў | (1947-49) |
| П.Кавалёў | (1949-50) |
| В.Вітка | (1951-57) |
| М.Ткачоў | (1957-59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959-61) |
| Н.Пашкевіч | (1961-69) |
| Л.Прокша | (1969-72) |
| Х.Жычка | (1972-76) |
| А.Асіпенка | (1976-80) |
| А.Жук | (1980-86) |
| А.Вярцінскі | (1986-90) |

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7315.
Нумар падпісаны 11.4.1996 г.
Заказ 1835/Г

П 123456789101112
М 123456789101112